Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

4
КРАСАВІК

XVIII



# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

ШТОМЕСЯЧНАЯ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ
ЧАСОПІСЬ

АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-
КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ






МЕНСК
1932

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ

**Янка Купала**

# Настане такая часіна...

Я веру—настане
такая часіна
І руняй савецкай
уквецяцца гоні,
Дзе Віслы, дзе Сэны,
дзе Тэмзы даліны,
Дзе праца людзкая
сягоньня ў прыгоне.

Разьвеюцца ў попел
кароны і троны,
Штэрлінгі і франкі,
дукаты, даляры;
Мікадаў, пралатаў,
банкіраў, баронаў
Захлынуць паўстаньняў
народных пажары.

Рабочых грамады
ў свае возьмуць рукі
Заводы і фабрыкі,
шахты і домны;
Збудуюць палацы
сабе і для ўнакаў,
Дзе радасьць і сонца
загосьцяць векпомна.

Калгасны стальны плуг
засыпе на векі
Ў барозны—магілы
паноў—фэадалаў,
Каб сейбіт старанны
ня гнуўся пад зьдзекам,
Каб сочная ніва
буйней красавала.

Хрыстоў, магомэтаў,
еговаў і буддаў,
Бажніцы, капліцы
ўсіх вераў і нацый,
Як сьмецьце на сьвеце,
як тухлыя груды,
Зьмяце дыктатура
Раскованай працы.

А белыя, жоўтыя,
чорныя расы
Да мовы супольнай
прачысьцяць дарогу...
Сунімуцца бітвы,
загубяцца клясы,
Граніцы, заставы
парве перамога.

Ньюёркі, Парыжы,
і Вільні, Бэрліны,
Шанхаі, Варшавы,
Жэнэвы, Токіі
Аздобяцца ў сьцягі
чырвонасьці дзіўнай,
Што ў нас зіхацяцца—
у сьцягі такія.

Пад Ленінскім сьцягам
пралетарыяту
Паўстане рваць путы—
хто долі ня ведаў,
Хто сохне бяз хлеба,
хто гіне без хаты,
Хто корміць сваім
мазалём дармаедаў.

Ад мораў паўночных
да мораў паўдзённых
Уздымецца песьня—
свабодна і думна:
Хай праца пануе
на вольных загонах!
Хай зоры іскрацца
сусьветнай Камуны!

Я веру—настане
такая часіна
І руняй савецкай
уквецяцца гоні,
Дзе Віслы, дзе Сэны,
дзе Тэмзы даліны,
Дзе праца людзкая
сягоньня ў прыгоне.

Менск
Сакавік, 1932 г.

Рыгор Папараць

## Адказ бацьку

Па паўдні сягоньня
атрымаў я ліст
твой,
І табе як зоры
звоніць мой адказ...
Што цябе татуля
думак
пералісты,
Прывялі сумленна
ў „Ленінскі Калгас“.
Ты ўжо восьмы тыдзень
як жывеш ў калгасе,
Як узяў ты права
быць
барацьбітом...
Ты ударыў моцна
па
кулацкай
клясе,
На калгас зьмяніўшы
старажытны дом.
А ня так даўно шчэ...
Пры спатканьні
нашым,
Ты выходзіў слухаць
сьпевы
лебяды,
На мяжы ляжаў ты
ў доўгай
апранасе,
Не хацеў вітацца
з новым...
з маладым...
Ты чагось баяўся...
лез за плот
ў крапіву,
Дзе так часта
вецер
распранаў бяду...
Вось, туды, дзе гора
ў першы раз
схапіла—
Шчэ як з бабкай
зоры
чэрпалі ваду.

А ты ўсё шчэ радзіў...
думаў
так і гэтак.
На жалейцы жаль ты
выкладаў
другім
— Яшчэ сам засею сёлета палетак.
А на лета з лёдам рушу берагі.
Было слухаць цяжка
мне татуля гэта,
Сухавеем несла
з несьвядомых
слоў...
За цябе шчасьлівы,
што ты ў гэта
лета,
Берагі старыя
адапхнуў
вяслом.
Ты часьцей пішы мне...
не шкадуй
паперы...
Пра калгас пішы мне—
радасьць
беднаты...
За цябе шчасьлівы,
што ў КАМУНУ
верыш,
З гэтаю ты верай
выйдзеш
з чарнаты.

жніўня 1931 г.
Ленінград

---

**Іл. Барашка**

# РОМАНЫ ЗОРЯ*).

П'еса ў трох актах

*Андрэю*

Повелеваю:
... Цыганов в Санкт-Петербург и близь оного не пускать и в'езду им не дозволять.
(Именной указ Елизаветы Петровны от 16 августа 1759 года. Полный свод законов Российской Империи том XV № 1098, ст. 367).

Пан Ваньковіч (да Мельяна)—Я-ж ня цыган! Усьляпую не прадаю. Мы-ж свае! Адзін бог у нас, а мы яго роўныя дзеці.
(з п'есы).

У Польшчы замёрз цыганскі табар. У лесе было знойдзена 34 трупы.
(Вечерняя Москва. 21 лютага 1929 г.).

Сонца вышы елі, а мы яшчо на елі...
(цыганская прыказка).

... Бязумоўна, сама цыганская прырода цягне іх да вандроўнага жыцьця.
Беларускі „вучоны" Даўгяла. „Цыганы на Беларусі" (Наш Край 1926 г. № 12 (15).

Стары цыган — І другая, казаў Сьцяпан, ёсьць дарога для нас... Працай завецца тая дарога...
(з п'есы).

СССР — бацькаўшчына працоўных усяго сьвету.
*(Сталін).*

## УСТУП

Цыганскі табар. Лета. Лес. Бедната і нэндза. Ламаныя цыганскія драбінкі. На сцэне нікога. Заходзіць сонца. Ярка-чырвоныя праменьні прапаўзаюць праз драбінкі цыган. У аднэй з драбінак чутна сумная цыганская песьня. Плывуць гукі ў прасторы спакойна і ціха. І раптам... вырываецца юнак. На твары рашучасьць, адвага. Ён на хаду апранаецца ў палатаную куртку, адзяе шапку, робіць некалькі крокаў і спыняецца. Яго ўвагу зьвярнула песьня з суседняй кібіткі... Праходзіць некалькі сэкунд. Выходзіць стары цыган. Спакойна глядзіць на юнака. Сустракаюцца поглядамі. Стары—бацька, юнак—сын.

Стары цыган—Сьцяпан. Старая плача. Ты падумай, што робіш. Я не дазваляю табе пакідаць табару. Ты павінен ехаць з намі, з табарам.

Сьцяпан—А я і не пакідаю табару, бацька. Я не пакідаю цябе, маці. Я толькі іду ў горад. Іду на работу. Я ўвесь час буду памятаць, што ў мяне ёсьць бацькі, ёсьць табар, дзе вырас я, дзе я вучыўся жыць...

Стары цыган—Ты-ж ром і табару пакінуць ня маеш права...

*) Друкуецца на правох рукапісу. *Аўтар*

Сьцяпан—*(З усьмешкай).* І ты ром... Ты паглядзі на сябе, які ты ром. Ром—чалавек. У горадзе, вунь, глянь, там на заводзе мяне навучылі разумець жыцьцё ня так, як разумееш ты.

Стары цыган—Сьцяпан! Ты гаворыш ня тое, чаму вучыў цябе я... Замоўкні. Я не дазваляю табе пакідаць табару.

Сьцяцан—А мне і не патрэбен твой дазвол, раз на тое. Я вырас, бачыш... У мяне ёсьць сіла і спрыт. А тут мне няма чаго рабіць. Мне цесна тут. Мяне па-іншаму навучылі разумець жыцьцё.

Стары цыган—Цябе я праклінаю. Ты ня слухаешся бацькі. У нашым родзе гэтага ня было. Ты пакідаеш табар, мяне, маці, вырадак ты...

Сьцяпан—Ну, зразумей мяне хоць крыху, бацька! Усяго табе ўсёроўна не зразумець.

Стары—Маладому вераб'ю старога ня вучыць...

Сьцяпан—Езьдзілі... Даўгія дарогі.. Прасторныя стэпы... Шаўковыя лугі... Высокія лясы... А жыцьцё было якое? Жыцьцё было жабрацкае. Дый цяпер—нялепш. Вырывацца трэба. *(Выходзіць маці Сьцяпана, заплаканая, старая, згорбленая цыганка).*

Сьцяпан—Глянь, бацька, на старую. Хто яна? Ром? Чалавек? Жабрачка мая маці... А я жабраком быць не хачу. Не хачу—і іду... як казаў, дый цяпер кажу... у горад на завод. Мяне прымаюць. Вучыцца буду і табар у думках не пакіну. Ды ты дарэмна, бацька.

Стары цыган—Я не хачу, каб ты пакінуў нас.

Маці—Сьцёпачка... Прашу... Ня йдзі.

Сьцяпан—Супакойся, маці. Ня плач. Усёроўна я пайду. За тое, што ўзгадавалі, дзякую. *(Рэзка паварачваецца Сьцяпан і зьнікае. На сцэне старая маці і бацька).*

Маці—Пайшоў мой сын—гаспадар мой, саколік пайшоў, ад сям'і адарваўся сынок...

Стары цыган—*(Разводзіць рукамі, грузна садзіцца на зямлю. Глуха гаворыць).* Пашоў... У новы сьвет захацеў пайсьці. Толькі чаму мой сын пайшоў? Чаму ня другі хто? Чаму такое няшчасьце на маю галаву? Ня ўмеў я расьціць сына...

Маці—Саколіка яснага галубка майго—Сьцёпаньку...

Стары цыган—*(глуха).* Пашоў і табару здрадзіў і бацькі не паслухаўся...

Маці—*(Садзіцца на зямлю, вымае карты і раскладае).* Варажу я, гадаю, шчасьце сыну жычу. Што-ж яму будзе. Дзесятка—дарога, а ў галаве—бацька, ды я—храстовая пара... вернецца Сьцяпан... вернецца... Не знайсьці шчасьця Сьцяпану. Шчасьце для Сьцяпана ў думках маладых! *(Ня верыцца ёй. Яна зноў тасуе карты).*

Маці—*(Раскладае карты, углядаецца).* І тое! І зноў думкі маладыя... вернецца Сьцяпан...

Стары цыган—Варажы, не варажы, маці, а раз пашоў ня вернецца Сьцяпан. Ды ці-ж ня ведаеш, што змалку ў малога натура такая... У мяне пайшоў... упартая... настойлівая натура. Ты памятаеш, старая... Гэта было даўно... на вясельлі Марты... Сьцяпан тады быў хлапчук... *(Даносіцца музыка цыганскай вясельнай песьні).*

Стары—Сьцяпану было тады гадоў дванаццаць... Усе дзеці табару гулялі на вясельлі... А Сьцяпан? Ці гуляў Сьцяпан? Сьцяпан ня гуляў...

Маці—Ня ўспамінай... Маўчы... *(прыглядаецца).* Да нас ідуць... *(На сцэну прыходзіць цыган сярэдніх год. Люлька ў зубах).*

Цыган—Сьцяпана сустрэў.

Стары—Ну?

Цыган—Пашоў?

Стары—Пашоў.

Цыган—І мяне клікаў. А я... сказаў... не пайду...

(Раптам зноў заплакала старая. Ня стрымалася—загаласіла: „Сынку мой родненькі, саколіку ясны, шызы галубок... На плач пачалі з кібітак зьбірацца цыганы, дзеці, цыганкі з дзецьмі на руках—кругам вакол старой. І спытаўся стары сівы цыган у Сьцяпанавага бацькі:—Пайшоў?).

Стары—*(Глыбака, грудзьмі, з горачу).* Навучылі майго Сьцяпана гарадзкія новаму жыцьцю. Зразумеў мой Сьцяпан гэта новае жыцьцё. І пашоў. Табар на горад прамяняў і нас пакінуў. Ну, што-ж... Ня змог я яго стрымаць. Мо' ў гэтым і вінаваты перад вамі... Гаварыў мой Сьцяпан, каб усе мы ішлі ў горад, на заводы—жыцьцё лепшае, казаў, будзе. І маці, казаў, жабрачкай ня будзе... І тады, казаў, усе ромы—людзьмі будуць...

*(Моўчкі стаіць цыганскі натоўп. Раздум'е. Мінорная музыка).*

Стары—Дзьве дарогі, казаў, ёсьць для нас. Адна дарога, казаў,—пыльная ўлетку, галодная ўзімку, даўгая дарога—а паабапал тае дарогі ў стэпу, у лесе, на балоце, на лузе могілкі нашых дзядоў, ды прадзедаў нашых, ды нашых дзяцей, ды жабрацтва наша, ды хітрасьць цыганская за права жыцьця на зямлі...

*(Халодная, нямая паўза. Моўчкі стаіць натоўп цыганскі. Раздум'е на тварах. Мінор пераходзіць у мажор).*

Стары—І другая, казаў Сьцяпан, ёсьць дарога для нас. Працай завецца тая дарога. На заводзе! На зямлі! У горадзе! У пасёлку! Жыць лягчэй ідучы па тэй дарозе, казаў Сьцяпан. Толькі цяжка, усім нам, на гэтую новую дарогу ўзбрысьці. Сьмеласьці трэба шмат, каб з нашай старой, цыганскай дарогі сыйсьці, ды на новую дарогу ступіць...

Праклінаю Сьцяпана за гэта. Старая варажыла—а ён пашоў. Ну, што-ж? *(З роспачу)* А мы—ня пойдзем... Парушыў Сьцяпан наш няпісаны закон *(шопатам).* Пашоў...

(Моўчкі, у раздум'і стаіць натоўп над старой, а маці Сьцяпанава плача. Два аркестры музыкі іграюць—адзін—старую цыганскую мэлёдыю, а другі—баявы, новы ўздымаючы марш). Голас—У дарогу, зьбірайся ў дарогу!

## АКТ ПЕРШЫ

### Эпізод першы

Ноч. Кантрольная будка пры браме дрэваапрацоўчага заводу „Герой Кастрычніка". Зіма. У валенках ходзіць міліцыянэр. Ліхтар асьвятляе шыльду. „Дрэваапрацоўчы завод Герой Кастрычніка". Напаўголаса напявае міліцыянэр песьню).

Міліцыянэр—
Мы—паграніччаў чырвоная варта,
Мы—ленінцы духам, дзяржынцы мы гартам,
З нас кожны на варце заўсёды герой
Раз белы за лесам, басмач за герой...

Стук у браму. Міліцыянэр пытае „Хто". Пачуўшы адказ „свае", спачатку адчыняе вакенца, глядзіць на пропуск, адчыняе фортку.

Уваходдзяць двое—Сьцяпан і Кавальчук. Ня спыняючыся, яны забіраюць прапускі і ідуць па двары.

Міліцыянэр—І сну на іх няма. І так—кожны дзень. *(Зачыняе фортку, працягвае песьню).*

Раз белы за лесам, басмач за гарой
Імкнуцца парушыць савецкі спакой,
Спрабуй, скрані наша зьвяно,
Чужое ня хочам, сваё не дамо...

У гэты-ж час Сьцяпан і Кавальчук ідуць па двары і гутараць.

Сьцяпан—Ну, вось! За дарогу пасьпеў табе я расказаць пра наша, пра цыганскае жыцьцё. Цяпер успомню, дзіўлюся проста, наскольki сьмеласьці хапіла, каб першым узарваць вось гэты лёд цыганскага жабрацтва. І колькі год ужо прайшло...

Кавальчук—Так, так. Ты, браце, піонэр!

Сьцяпан—Тады аб гэтым, прызнаюся, ня думаў...

Кавальчук—Як ня кажы, бязумоўна, рэволюцыя зрабіла пераломам тваіх думак, тваіх паводзін і сьмеласьці тваёй. Інакш бо, не магло і быць. Ты-ж быў тады юнак...

Сьцяпан—Тады было шаснаццаць год. І ўспамінаецца ўсё гэта цяпер нібы праз шызы дым...

Кавальчук—Давай закурым, задымім... на заводзе-ж нельга...

Закурваюць, спыняюцца на завадзкім двары.

Кавальчук—Гляджу я на завод... На наша сёньня, і грудзі ў мяне хвалююцца...

Сьцяпан—*(Перабівае).* Застава?

Кавальчук—Якраз і не застава! Застава—гэта справа ясная, і на сёнешні дзень, што-б там ні гаварылі, справа патрэбная, карысная справа—у заставе для заводу выйсьце, у гэтым я больш чым ўпэўнен! І ў тое, што ў самы блізкі час застава на заводзе дасьць вынікі рэальныя—я веру.

Сьцяпан—А што-ж цябе хвалюе?

Кавальчук—Хвалюе? Хвалюе лес, хвалююць людзі... Ну, пашлі...

Асьцярожна гасяць папяросы і зьнікаюць у цемені ночы. Міліцыянэр каля кантрольнай будкі напявае новую песьню.

## Эпізод другі

Зборачны цэх заводу „Герой Кастрычніка". Лязг малаткоў аглушае, засланяе сабою ўсё. Працуе брыгады Мельяна. На пярэднім пляне сцэны, з правага боку вялікая чырвоная дошка. На дошцы напісана:

**Восьмы дзень заставы.**

**Вынікі:**

1 дзень — браку — 10%
2 дзень — браку — 10%
3 дзень — браку — 9%
4 дзень — браку — 8,7%
5 дзень — браку — 9%
6 дзень — браку — 8%
7 дзень — браку — 6,9%
8 дзень — браку —

Доўга Мельян глядзіць на дошку. Раптам кідае малаток і ідзе да дошкі.

Мельян—Хто гаворыць, што сацыялізм гэта вучот, а хто гаворыць, што вучот—гэта сацыялізм, а я яшчэ да гэтага, прызнаюся, не дайшоў, і хто яго там ведае... А по мойму, сёньня ня восьмы, а дзявяты дзень заставы канчаецца *(падыходзіць да дошкі, сьцірае рукавом васьмёрку і крэйдай выводзіць дзевятку).*

Першы рабочы—Што ты там стары мажаш?

Мельян—Дзевятку напісаў. У нас-жа дзевяты дзень заставы сёньня, а ня восьмы. Да сёмага дайшлі і процант браку паказалі, Ну, а цяпер і не паказваюць колькі браку па нашаму цэху.

Першы рабочы—А ці табе, стары, ня ўсёроўна?

(Працуюць, перагаварваюцца)

Мельян—Табе, мо' і ўсёроўна, ды й табе ня ўсёроўна. Ты вось паглядзі, што ўсё ніжэй і ніжэй і ніжэй брак зьяжджае. Ты думаеш, гэтак толькі ў нас?

Першы рабочы—Ніхто так ня думае.

Мельян—От-ож! Вунь, паглядзі, Сьцяпанаву цыганскую выдумку—застава ў шліфовачным цаху. Таму, браце, на нашу работу застава і так круцяць крэсла, і сяк круцяць крэсла, а браку мала, ўсёадно, што кот наплакаў...

Другі рабочы—Кот табе наплача! Сам скора, старая твая галава, заплачаш. Няхай толькі за палучкай прыдзеш. Там гэтая цыганская выдумка—застава, ды табе па карку... што ажно заплачаш!...

Мельян—Ты ня дурыся. Ня дурыся ты. Як-жа я заплачу, калі брак зьнікае. А раз зьніжаецца брак, дык...

Другі рабочы—Скажу табе Мельян, разумны поп табе імя даў. Разумны. Прыказка ёсьць: Мялі, Ямеля, сёньня нядзеля. І мелеш, і абараняеш, і на сходах за заставу выступаеш. А выдумка цыганская—к мацеры гапзіцца. Падумаць... Хэ-хэ. Заставу цыган надумаў... Якраз... А тут мы і падхапілі за ластаўку. Ударнікі-ж... І ў газэце пра Сьцяпана прапісалі. І хватаграфію надрукавалі... *(Дастае з кішэні газэту).* А сам ты, стары хрыч, таго ня знаеш, што робіш. А глупства робішь, калі бароніш Сьцяпанаву заставу.

(Мельян разважае. Думае Мельян.)

Другі рабочы—Ты-ж падумай, Мельян, старая твая галова. Падумай! Усюды заставы. Браку менш. Правільна—менш. А продукцыі больш? Га—пытаю? Кажы.

Мельян—Продукцыі? Продукцыі? *(Зьбянтэжана).* Продукцыі выходзіць сёньня менш: уважлівей працуем.

Другі рабочы—Дык вось-жа, тут уся і загваздка заставы.

Мельян—Ты пачакай... Сёньня продукцыі менш *(думае).*

Першы рабочы—Дык значыць, пляны меншыя выходзяць.

Другі рабочы—А норма выконваецца? А прырабатак меншы? Выдумка, Мельян, цыганская, хітрая, рэж мяне зарэж... Каб нас, кадравікоў, старых рабочых сталяроў так: кося, кося, ды ў аглоблі...

(Мельян зьбянтэжаны)

Мельян—Населі... На дзявяты дзень заставы. А ты скажы, няўжо дырэктар у нас дурань, Чаркас? Чаркас-жа наш з старых кадравікоу. Парцейны. Прымалі-ж. Нарэшце і рабочыя на заставы згадзіліся.

Другі рабочы—Яны, дык згодзяцца! Знаю, я да чаго гнуць. Усё добра. Добра ўсё. Прымаюць. Ім што. А вось нам—зборшчыкам—асноўнаму цэху на заводзе, на карак выдумка кладзецца! Прыраба-

так, канешня, меншы. На *(дае руку)* гарантую! Нормы-ж мы ня выконваем. А вочы, браток, увесь час на прыцэле трымаем.

Першы рабочы—Вот імена, на прыцэле...

Мельян—На прыцэле! У мяне і старыя яны вочы, а на прыцэле. Так, як-бы іх я прывучыў. Малаток і вінтоўка здэцца розныя струманты. А прыцэл, пагледзеш, адзін! Там ня ўзяў на прыцэл—па малако пусьціў, а тут—брак...

(У цэх прыходзяць Кавальчук і Сьцяпан. З іхным прыходам гутаркі сьціхаюць, стук малаткоў.)

Сьцяпан—Добры вечар, таварышы!

Другі рабочы—Раз добры, дык дабры *(сабе)*. Ну, і хітры-ж, гэты Сьцяпан! *(Да Сьцяпана)*. Здароў, Сьцяпан. *(За іроніяй)* Тут пра цябе расказвалі хлопцы—спрытна хітрыць можаш, па-цыганску.

Сьцяпан—*(Зьдзіўлена)*. А гэта к чаму. Што ты гэтым сказаць хочаш?

Другі рабочы—Тут справа сур'ёзная. З заставай. Для зборшчыкаў нявыгадна яна. *(Да Кавальчука)*. Таварыщ Кавальчук, а ты, як сакратар, прымай меры, а то дрэнь будзе з выдумкай Сьцяпанавай *(з подміргам)* цыганскай...

Кавальчук—Не разумею...

Першы рабочы—Заставы па-нашаму, па зборачнаму, зьвіняюсь, таварышы, пшык на масьле, ня выгадна зборшчыкам. Вось і ўсё.

Кавальчук—Ня выгадна? Выгады, значыць, шукаеш. Рыба—дзе глыбей, а ты—дзе лягчэй.. *(сьмяецца)*. Добрая ідэолёгія, што й казаць. А сам-жа—не стары. І ў арміі Чырвонай ты служыў. Адкуль-жа гэта ўсё. Ты сам дайшоў да гэтых слоў?

Першы рабочы—Сам! Прырабатак меншы *(дае руку)*. На... Гарантую.

Шум. За сцэнай чутна лаянка. Спрачаюцца. Ляцяць кавалкі крэсла на сцэну.

Першы голас—Гэта брак! Ня прымаю!

Другі голас—Магіла няхай цябе ня пpыме. Прымай!

Першы голас—Ня прыму! Брак! За завод крыўдна, да за рабочых такіх...

Другі голас—Н-на... Прымай! *(На сцэну ляцаць кавалкі крэсла. вылятае сам рабочы. Убачыўшы Кавальчука, ўвесь пыл зьнікае).*

Кавальчук—Гаеўскі, што такое?

Гаеўскі—*(Апусьціў галаву, зьбянтэжаны маўчыць).*

Кавальчук—Ну, кажы, што там у цябе, што за сварка ў часе працы?

Гаеўскі—Стаю я на заставе. Прымаю матар'ял. Ну, рэч, вядомая, я брак прымаць павінен? Ня прымаю. Брак-бракам. А ён сьпіхнуць мне хоча брак... у зборачны.

Сьцяпан—*(імкнецца сказаць, яго перабівае першы рабочы).*

Першы рабочы—Даўно казаў, з тваёй цыганскай выдумкі дабра ня будзе. Ня будзе дабра. Худа...

Другі рабочы—Рабочага на рабочага нацкавалі.

Гаеўскі—Я не пайду на заставу. І матар'ял прымаць ня буду. Досыць!

Кавальчук—Гаеўскі, што такое, з якіх часоў? Ты-ж камуніст..

Першы рабочы—Нявыгадна застава для нас, для ўсіх рабочых.

Сьцяпан—*(Не сьцярпеў, умешваецца ў гутарку).* Ты не рабочы.. *(Шукае слоў).* Ты не рабочы. Ты працуеш, а на кішэню сваю, вунь,

як глядзіш. Мне сорамна, што ёсьць у нас такія. Вы думаеце гэтым жыць і будаваць завод, сацыялізм... О не, вы так не пражывеце!

Кавальчук—Ты памаўчы...

Сьцяпан—*(Працягвае).* Вас гнаць такіх з заводу трэба.

Другі рабочы *(Перабівае).* А брацьцыган... *(Гіранічна глядзіць на Сьцяпана).*

Сьцяпан—Якая з вас карысьць? Ты думаеш, што столяр ты? Ня столяр ты, любы фабзаец-рабочы больш сьвядомы...

Першы рабочы—Маўчы Сьцяпан...

Кавальчук—Таварышы, кіньце непарадкі. Завод-жа ўвесь у заставе і вынікі відаць. Брак зьменшыўся, а нашага Сьцяпана...

Мельян—*(Да гэтага часу маўчаў).* Ты праў, браток, брак зьменшыўся, пашоў з гары ўніз. Яны і да мяне ўсё з прыработкам. *(Да Сьцяпана).* А ты не гарачыся. Стары рабочы, можа й не сьвядомы, аднак, калі давесьці ўсё яму да толку, дык зразумее, будзь упэўнен.

Кавальчук—Таварышы, застава-ж ня выдумка Сьцяпана, а прапанова, якую прынялі рабочыя заводу ў нашай барацьбе за якасьць. І як ты тут не баламуць *(да другога рабочага)* і што ты не кажы *(да першага рабочага)*—партыйны калектыў, рабочыя ўсе заводу заставу ня здымуць, пакуль ня будзе дадзен браку бой! Ты зразумей, застава—наш самакантроль. Павінна-ж заўжды быць рабочае вока на нашым заводзе. Падкрэсьліваю, рабочае вока на нашым заводзе.

Мельян—А ну, брыгада, спыняй размову, хопіць, за работу. Абсудзім мы на сходзе, а пакуль што працуй.

Гаеўскі—Ня йду я на заставу—хоць зарэж, я не магу. Баліць душа, як нам ён брак дае *(паказвае на рабочага, які ўвесь час стаіць з кавалкамі крэсла ў руках і моўчкі дзівіцца на ўсё).*

Мельян—Дык ты ня йдзеш? Ня йдзеш? Раз так, дык я пайду.

Першы рабочы—Старыя вочы не дагледзяць, а браку, будзе больш у нас.

Мельян—Дарма, няхай сабе старыя! Ня бойся за мяне. Другая пара ёсьць. *(Дастае акуляры, асьцярожна запраўляе за вушы, зьбірае выкінутыя кавалкі крэсла, аглядае іх і кажа):* Вось, бачыш гэта і ня брак, а гэта праўда брак і гэта брак *(паказвае на расколатую шчыліну).* Раз так, дык ты Гаеўскі, заставайся за мяне, за брыгадзіра. А я пайду. Іду я на заставу.

Мельян пашоў на заставу. Пасьля ўспышкі—разрадка. Рабочыя маўчаць. Стук малаткоў.

Кавальчук—*(Сьцяпану)* Ня лёгка, бачыш сам. Глыбей капнуць, і вораг зубы шчэрыць. На‘т праз рабочага старога.

Сьцяпан—Ня згодзен я з табой.

Кавальчук—У чым? Я факт вось гэты расцэньваю, як палітычны факт. Мне нельга дапусьціць, каб на заводзе... зьвівала сабе гняздо цэхаўшына.

Другі рабочы—*(Як водгук).* Цэхаўшчына.

Першы рабочы—Мельян пайшоў, паглядзім. Худа...

Другі рабочы—Дармо, сам пайшоў, цяпер мо‘ зразумее.

Працуюць сталяры зборачнага цэху. Ізноў уздымаючы стук малаткоў. І раптам праца ў зборачным прарываецца крыкам праз стук малаткоў. Усе абарачваюцца. Глядзяць. На крэсьле коопупаўнаважаны са сьпісам ў руках.

Коопупаўнаважаны—Увага, таварышы, увага...

Галасы: Якая навіна, нібы сарваўся, кажы, а-а...

Коопупаўнаважаны—Абвестка...

Сьцяпан—Якая?

Першы рабочы—Відаць, па каперацыі абвестка...

Коопупаўнаважаны—Хоць, праўда, і ня ў час... Але разwыбралі мяне, павінен я рабіць.

Другі рабочы—Карацей, што аб'ява?

Коопупаўнаважаны—Дык вось-жа, во... *(Паказвае на сьпіс).* Вось гэта сьпіс, а сёньня я дазнаўся, што ў наш закрыты копраспрадзяліцель прывезьлі рыбу і галёшы *(Ва ўвесь голас).* Запісвайся хутчэй, хто хоча атрымаць—хто рыбу, хто галёшы...

Першы рабочы—Пішы!

Коопупаўнаважаны—На што?

Першы рабочы—На бабскія галёшы! Для Феньі, маёй бабы.

Коопупаўнаважаны—Табе што?

Другі рабочы—*(Адразу-ж з зайздрасьцю).* Мне? Мне? Мне ўсё—і рыбу і галёшы.

Кавальчук—Сьвірыда. Гляджу я і дзіўлюся, ня ў час прышоў. Спыні, брат, крамку.

Коопупаўнаважаны—Ды як-жа, я-ж каперацыйная камісія. А заўтра з раньня выдаваць пачнуць.

Кавальчук—Спыні, кажу!

Коопупаўнаважаны.—Па мне, дык можна і спыніць *(глядзіць на гадзіньнік ручны)* ды праз хвілінку-ж перапынак...

Загула сырэна. Усе рабочыя пакідалі працу. Да коопупаўнаважанага ўсе з адным. „пішы", „пішы на рыбу" „на галёшы" „на рыбу і галёшы". *У сутаўцы коопупаўнаважаны зьлятае з крэсла, пад дружны сьмех рабочых.*

## Эпізод трэці

Кантора заводу „Герой Кастрычніка". Габінэт дырэктара, бугальтэрыя з аднаго боку і праз бар'ер шырокі калідор. Сьвятло ў габінэт дырэктара.

Нэрвова зазваніў тэлефонны званок. Нэрвова хапаецца Чаркас за тэлефонную трубку.

Чаркас—*(У трубку з паўзамі).* Ну, як? Колькі? Пяцьсот? Ай-яй-яй... Усяго. Леспром зрывае. Учора пяцьсот, сёньня пяцьсот... Патрэбна-ж дзьве тысячы штодня бярвеньняў... Правільна... Опортунізм... У паперах пазашываліся... і сядзяць... Псуюць паветра *(усьмешка).* Так, так, так *(вешае трубку).*

Да дырэктара прыходзіць бугальтар Лялечка.

Лялечка—Дзень добры! Выбачайце! Я па справе! Бяз справы я ніколі не заходжу і ня турбую вас. Мне чэкі падпісаць.

Чаркас—Давайце, толькі хутчэй.

Лялечка—Дванаццаць чэкаў па догавару, Леспрому за лесаматар'ял.

Чаркас—Ім ні капейкі няварта плаціць.

Лялечка—*(не разумее ўсьмешкі Чаркаса).* Ня варта?

Чаркас падпісвае чэкі.

Лялечка—*(Дастае канвэрт, надзвычай ветліва кладзе Чаркасу на стол).* А гэта, выбачайце, ваша пэнсія. Распішэцеся, будзьце ласкавы, вось тут. У гэтым месцы. *(Раскладае ведамасьць).*

Чаркас — Дзякую. Адно вас папрашу, таварыш Лялечка. Толькі каб ніхто ня ведаў. У сакрэтным парадку, так сказаць. Жонка-ж у мяне ёсьць... *(Лялечка робіць яхідную міну).* Запішэце адрас. Так запрацаваўся, што толькі сёньня ўспомніў, а месяцы ўжо з два я ні капеечкі не пасылаў да хаты. Вось гэтыя сто дваццаць пашліце па адрасу *(піша на паперцы адрас).* Калі ласка, толькі не запамятайце!..

Лялечка — Ка-а-лі ласка! З прыемнасьцю і ў сакрэце. На пошту аднясу я сам *(з падхалімажам).* І сёньня, абавязкова сёньня, дарагі таварыш дырэктар.

Чаркас — Усё?

Лялечка — Усё.

Лялечка выходзіць. Выходзіць задам з-за пашаны да дырэктара. Улятае Кавальчук.

Кавальчук — Здароў. Ну як?

Чаркас — А што?

Кавальчук — Ды з лесам.

Чаркас — Галаву ламаю. Гэты Леспром так прамышляе, што ў весну нам стаць прыдзецца. Пяцьсот усяго...

Кавальчук — Я гэта прадбачыў. Я яшчэ на канфэрэнцыі выступаў. І гаварыў...

Чаркас — Канфэрэнцыя, таварыш Кавальчук, канфэрэнцыяй. Рэзалюцыю запісаць адно, а матар'ял—другое. Лягчэй, канешне, запісаць рэзалюцыі, чым даставіць лес нашаму заводу. Ты-ж знаеш сам, што для бесьперабойнай работы патрэбна рэгулярна дастаўляць на заводзкі лясны двор дзьве тысячы бярвеньняў у дзень. А вось, вазьмі, дастаўлялі тысячу, зьехалі на васемсот, потым на семсот, а цяпер ужо-ж па пяцьсот дастаўляюць. Табе-ж не гаварыць. У самае разводзьдзе завод стане, раз запасу ня будзе. Заводу лес давай *(робіць рукою рашучы такт).*

Кавальчук — Стаць нельга, канешне!

Чаркас — Я думаю. Па галоўцы не пагладзяць, раз пераходзім мы на экспарт. Канешне нельга стаць.

Кавальчук — Пашлем хіба брыгаду?

Чаркас — Паслаць... у лес... быць можа... Давай пашлем... сваю... рабочую брыгаду.

Кавальчук — Сьцяпана прапаную ўключыць у брыгаду і нават брыгадзірам.

*(Шэпчуцца).*

Чаркас — А гэтую адносіну давай мы зараз-жа напішам. Не пашкодзіць. Няхай устрасануць, леспромшчыкаў заядлых.

Сьвятло пераключаецца на калідор заводзкае канторы. У калідоры—пільшчык Крысько.

### Эпізод чацьверты

Калідор завадзкой канторы. У калідоры Крысько. Ён адзін. За бар'ерам чутна канцылярыя. Крысько харкае пад ногі, нясьмела шукае патрэбную шыльду. Нарэшце знайшоў, спыняецца, спакойна круціць папяросу, закурвае.

Крысько — Пакаштаваў смаку, а цяпер хопіць. І чорт яго ведае, хто мяне сюды прыгнаў. Ні табе адпачынку, ні табе супакою. Машына, як пражора тая—жрэ, жрэ, а ты толькі ўвіхайся *(Зноў харкае на падлогу).* І з харчамі дрэнна. Кормяць чым яны захочуць. А я не хачу

есьці іхнай поліўкі. У хаце шчэ' сала не зьвялося. Аж у носе мне заказытала, як успомніў сала. *(Стукаецца ў вакенца. Вакенца адчыняецца, высоўваецца галава Лялечкі).*

Лялечка — Табе што трэба? *(Тон зусім ня той, які быў у часе гутаркі з дырэктарам. Тут ён начальнік!).*

Крысько — Мне? Разьлік патрэбен і паперка, што я, Крысько, тут працаваў у вас. *(Бухгальтар зьнікае нічога не адказаўшы).*

Па калідоры ідуць Чаркас і Кавальчук. Чаркас бачыць пільшчыка. Крысько адварачваецца задам.

Чаркас — Чаго стаіш, таварыш?

Крысько — А за разьлікам я...

Чаркас — Ды ты-ж прасіў анэдысь, каб на завод прыняў цябе?

Крысько — Як вам... у вас зацяжка, бяз прывычкі і не магу, як вам сказаць.

Чаркас — А ты што думаў?—Дарма плаціць ніхто ня плоціць...

Крысько — Ды знаю я. Ня хочу працаваць у вас. У нас, як сказаць, у вёсцы, няма сьпешкі такой, як тут у зас. Піла ў пільшчыкаў у нас, папіліў, папіліў, ды адпачыў, папіліў, папіліў, ды адпачыў. А ў вас тут пільня сама піліць, а ты толькі ўвіхайся. Не магу я так працаваць.

Чаркас — Ну, што-ж.

Крыско — І куды гэта вам тут усім так сьпяшацца, таварыш дырэктар! Вы-б цішэй крыху завод пускалі.

Чаркас — Цішэй, гаворыш?

Крысько — Па-мойму, цішэй... Ды я быць можа, таварыш дырэктар, да хаты зьежджу, а пасьля, значыць, і прыеду на завод.

Чаркас — *(Да Кавальчука).* Цякучасьць на заводзе павялічваецца з кожным днём. Вось прыклад. Пазаўчора прыняў, а сёньня разьлік.

Кавальчук і Чаркас выходзяць. Крысько застаецца адзін.

Крысько — Прарыў нейкі на заводзе. Ціснуць у тры пагібелі, ды яшчэ прарыў надумалі *(стукае ў вакенца бухгальтару. Зноў высоўваецца галава Лялечкі).* Таварышы, разьлік хутчэй мне дайце! А жонка будзе рада! *(самаздаволена сьмяецца).* А можа й ня рада? Выслаланазываецца на зарабаткі ў горад, няхай сама ідзе і смаку пакаштуе. Мне што? *(Зноў стукаецца да бухгальтара. Зноў высоўваецца галава Лялечкі).*

Лялечка — Прозьвішча?

Крысько — Крысько.

Лялечка — Імя?

Крысько — Іван. *(Лялечка зьнікае).* Па калідору праходзіць старшы па лесапілцы. Увесь у апілках.

Старшы — Дык вось дзе ты.

Крысько — Тут. Ужо мо' з гадзіну чакаю. Бюракратаў поўна.

Старшы — Чаго-ж ты тут?

Крысько — Разьліку чакаю. Не па мне ў вас праца.

Старшы — Ты-б мне сказаў, на лёгкую-б работу перакінуў. А людзі нам патрэбны-ж.

Крысько — З харчамі тут у вас.

Старшы — Ды ня дуры! Як-жа ўсе рабочыя? Харчы? І не такія ўжо дрэнныя. Скажы, што працаваць ня хочаш, паверу.

Крысько — А што кажу? Не па мне завод.

Старшы — Я сюды, я туды, дзе мой новы падручны Крысько. Ва ўсёй лесапільні няма. А ён вось тут, калі ласка, разьліку чакае.

Ты вось паглядзі як працуе цыган Мірутка. Падвойную работу выконвае. Пот кашулю мочыць, вочы на лоб выпірае. А яшчэ й калгасьнік...

Наплывам—расьпіловачны цэх заводу „Герой Кастрычніка“ На пярэднім пляне дзьве рамы. Са сьвістам, са стогнам плаўна плывуць бярвеньні. Веярамі сыпяцца апілкі. Цыган Мірутка—пільшчык, перабягае ад аднае пілы да другой. Па ўсёй лесапілцы крыкі: „Гэй, г-э-э-э-й...“ Падручныя. Чорнарабочыя. Цыган Мірутка нібы вартавы сочыць за ходам свае рамы.

Першы цыган—Зарэзала?

Другі цыган—Што за ліха, не бярэ, нанава стаяць будзем! *(Чэцьвера радочых кідаюцца да пілы).*

Першы цыган—Ня будзем. *(Выключае пілу на халасты ход, бярэ ключ, падкручвае падавальны мэханізм).* Ну, павінна ўзяць...

Трэці цыган—Стаім.

Другі цыган—Мірутку клікнуць трэба! Той пусьціць.

Першы цыган—Вы ўсё Мірутку і Мірутку, ня кроку без яго. А што, калі Міруткі ня будзе? *(пераключае рычаг, сочыць за першым рухам пілы)* Узяла... Пайшла... *(Веерам ляцяць апілкі).*

Шум, гоман. На ваганетках падаюць чорнарабочыя бярвеньні. Першы цыган сочыць, слухае, як працуе піла. Прыслухоўваецца.

Першы цыган—Зноў перабоі... Ізноў прастой.

Другі цыган—Мірутку клікні. Ён раз-раз! *(Заве Мірутку—рукою маша).* Мірутка, Мірутка!

Мірутка—*(Адрываецца ад сваёй пілы, падбягае. Прыслухоўваецца).* Перабоі... Трэба правіць і правіць трэба на хаду. *(Бярэ ключ).* Сьцеражыся, хлопцы. *(Аглядаецца, як працуе яго піла).* Так... *(Доўга возіцца каля рамы).* Пашла... *(Ляціць да сваёй пілы).*

Першы цыган—На дзьве пілы...

Другі цыган—За двух.

Трэці цыган—Ударнік.

Першы цыган—Ня тваім носам, бачыш, пот градам.

Мірутка—Працуе?

Першы цыган—Працуе!

Другі цыган—Бесьперапынна. Сёньня плян будзе выкананы.

Мірутка ўвесь час лётае ад аднае пілы да другой, ад другой да першай.

Першы цыган—*(Да Міруткі).* Цяжка...

Мірутка—А ўсёткі дакажу, што на двух пілах і аднаму працаваць можна.

Першы цыган—Ты ўжо даказаў, як старшы брыгадзір!

Мірутка—*(Крычыць на двор).* Лесу давай, лесу, ты...

Голас з двара—У лесе лес... А ў нас, на двары лесу м-а-ла...

Цёмна, сьвятло ў кантору, у калідор.

Лялечка—Крысько, ґраматны?

Крысько—Граматны.

Лялечка—Расьпішыся.

Крысько—*(расьпісваецца, Лялечка плоціць).* А паперку, што на заводзе працаваў?

Лялечка—Ніякай паперкі не палагаецца. Такі закон. Супроць закону не магу *(зачыняе вакенца).*

Крысько—Ну, і напляваць мне на вашу паперку. Ня трэба. *(Лічыць грошы).* Ці хопіць на дарогу... ды на поўліцёр *(вылічвае).* На

дарогу тры рублі і трыццаць капеек. На поўліцёр тры рублі. Тры грыўні не хапае.

Праз калідор праходзяць рабочыя. Вызначаецца група рабочых цыганоў, якія працуюць ужо каторы год на „Героі Кастрычніка", зьмяніўшы свой вандроўніцкі побыт на побыт аседлых рабочых. Але ўсё-ж абасобленасьць, абмежаванасьць жыве ў цыганоў. Цыганы на заводзе— працуюць, харчуюцца, жывуць цыганскай сям'ёй. Калідор прасторны і сьветлы. Цыганы-рабочыя садзяцца збоку на падлозе, адзін з іх разьвязвае клунак, вымае ежу, бутэлькі з сітром, полудзень. Жвава гутараць паміж сабою.

Гаеўскі —*(праходзячы).* Што-ж ты, Мірутка, у сталоўку ня цягнеш сваіх людзей...

Мірутка — Грошы патрэбны. Сам ведаеш—дом будуем. А ў сталоўцы на абед поўрубель з кожнага трэба. Ды нам і тут нядрэнна. Садзіся да нас у кампанію.

Гаеўскі — Не, дзякую, я ў сталоўцы палудную.

Мірутка — Ну, як знаеш, раз ня хочаш гасьцём быць у нас.

Да групы цыган падыходзіць Крысько.

Мірутка — А ты-ж чаго тут?

Крысько — Пазычце мне трыццаць капеек.

Мірутка — Пазычыць?

Крысько — Аддам. А можа цацку купіце ў мяне? *(паказвае гадзіньнік).*

Мірутка — Дае грошы, разглядае гадзіньнік, аддае назад. Не, ня трэба. Нам цяпер кожная капейка дарага. Мы-ж дом будуем. А дом будзе ў нас... кожнаму цыгану па кватэры. А ў кожнай кватэры будуць вялікія вокны... Дык ты ў палучку аддай...

Крысько — Аддам! *(хавае грошы, выходзіць. Група цыган палудную).*

## Эпізод пяты

Пасьля чатырох гадзін. Тэхнічная частка канторы заводу „Герой Кастрычніка". Зьбіраюцца дадому два студэнты-практыканты—Вера і Міцька.

Міцька — Асьцярожна... З падыходцам да іх трэба. Без падыходу нельга. Калі хочаш праўду знаць—Сьцяпана сьцяражыся...

Вера — Такіх, як Сьцяпан, я рэдка бачу. Дармо, што цыган. Нечага табе...

Міцька — У цябе да яго суб'ектыўны падыход, якога няма да мяне. Ну, не схаваеш-жа ты ні ад кога, што ён падабаецца табе. А ня ты яму—як мне. А глядзіць ён на цябе *(сьмяецца)* як кот на сьмятану... Хітрыя цыганы...

Вера — Кінь гарод гарадзіць. Пашлі дамоў...

Міцька — Дамоў пасьпеем. Мне яшчэ трэба гэтага Пёнтэка дачакацца. Работу здаць. А тым часам слухай анэкдот:

Наняўся цыган да папа касіць пожню. Наняўшыся, узяў касу ў рукі і пашоў на поле. На полі лёг на мяжы і заснуў. Праспаў цыган цэлы дзень, подвечар прыходзіць да папа зноў.

— Ну, баця, давай абедаць!

— А скасіў?

— Скасіў, а як-жа?

Паабедаўшы, гаворыць цыган папу:

— Ну, баця, плаці, грошай дай, ды бульбы ў прыдачу. Поп заплаціў і бульбы ў прыдачу даў. Тады кажа цыган:

— Баця, дай мне сала!

Успрацівіўся поп і ня даў цыгану сала.

— Раз так, кажа цыган,—не дасі сала,—каб твая пожня ўстала.

Назаўтра прыходзіць поп на поле, глядзіць някошана цыганом пожня.

Так яно й тут будзе. Вось паглядзіш. Там пожня ўстала, а тут, чаго добрага, у Сьцяпана лес з месца не кранецца... *(Міцька сьмяецца хапаючыся за жывот).*

Вера — Ой, Міцька, Міцька, а яшчэ ты студэнт.

Міцька — А што? Лоўкі анэкдот. Такія твае Сьцяпаны.

Вера — У Сьцяпана засталася стыхійнасьць, рызыка, але-ж нельга адмаўляць таго, што ён навучыўся падпарадкоўваць усё арганізаванаму пачатку. І твае анэкдоты, намёкі твае—не да месца. Ты-ж паказваеш свой твар невука. Ты сваеасаблівы Пёнтэк.

Міцька — Я Пёнтэк?

Уваходзіць Пёнтэк, абываталь, стары спэцыяліст. Зьбянтэжана глядзіць на Веру і Міцьку.

Пёнтэк — Пёнтэк як бяз рук...

Вера — А што такое, чаму бяз рук, таварыш Пэнтэк?

Пёнтэк — Маленькі казус. Я снял піджак в цэху і повесілэм его коло сьценной газеты. Так, так... І кеды я хцял взеньць его, то зьлямзіл хтось загарэк мой, найлепшай в сьвеце фірмы Анкер...

Міцька — Ну, вось пакражы на заводзе, ня інакш, як цыганы.

Пёнтэк — А тэрас, як без рук! І невем ктура гудзіна.

Вера — *(Глядзіць на гадзіньнік).* На шостую пераваліла, таварыш Пэнтэк.

Пёнтэк — *(Абурана).* Чаго-ж вы тут сядзіце! Я опоздал на обяд! *(Зьбіраецца выходзіць).*

Вера — Таварыш Пёнтэк!

Пёнтэк — А цо?

Вера — Я заўтра еду ў лес, на месца нарыхтовак, з брыгадай і аб гэтым даводжу да вашага ведама.

Пёнтэк — *(Зьдзіўлена).* Вы, у лес? На нарыхтоўкі як так? Паненка ў лес?

Вера — У лес!..

Пёнтэк — Я не розумем ніц! Тэорыум экономічна ў лес.

Вера — *(Сьмяючыся, нібы наіўна, але гіронічна перақазвае).* Тэорыум і лес. Тут практыка. Тэорыя была ў Інстытуце.

Пёнтэк — Вы-ж тэорэтык-экономісты. І лес вам не патрэбен. *(зьдзіўлена).* Мне говорылі—цыганы едут в лес.

Вера — А з імі я.

Міцька — І яна.

Пёнтэк — Я не разумем ніц! *(Выходзіць, вяртаецца, перапытвае ў Веры)*—Ктура гудзіна, як без рук...

Пёнтэк — То был найлепшэй в сьвеце фирмы — Анкер...




Міцька выходзіць з Пёнтэкам. Вера застаецца адна.

Уваходзіць Сьцяпан. І нечакана:

Сьцяпан — Чукар... чукар... Я знаў, што Вера тут! Дык значыць, едзем, Вера?

Вера — Едзем. Таварыш Кавальчук прасіў сустрэцца з яго маткай... Казаў—спыніцца можна будзе, і прывітаньне перадаць. Хто едзе?

Сьцяпан — Мае ўсе! Нам трэба дакумэнты загатовіць, будзь ласкава, вазьміся ты за гэта. *(Раптам тонам загаду, груба)*. Пішы дакумант. Ну, напішы, што едзем мы на лесанарыхтоўкі, рабочая брыгада для ліквідацыі прарыву і што патрэбна нам розная дапамога ад камуністаў і ўлады сельсавецкай. Ну, вось і ўсё, і ўвесь дакумант.

Вера — Ня так-жа пішацца дакумант.

Сьцяпан — Ну, напішы як знаеш. А знаеш, Вера...

Вера — Што?

Сьцяпан — Ваўкоў у лесе многа...

Вера — Я-ж еду не адна. І думаю, ваўкам у зубы ня дасьць Сьцяпан жанчыну.

Сьцяпан — Бай-бай-бай. Ой, Вера, Верачка. Ня дасьць Сьцяпан у зубы ваўкам жанчыну Веру. А помніш, Вера,—пяць год таму назад, ты ішла вучыцца, дзяўчынка ты была, чукар фабзайч, а я прышоў быў на завод...

Вера — З табою талкаваць, Сьцяпан, трэба язык падкаваць...

Сьцяпан — Вера! Ня к месцу! Сама-ж ты знаеш, што той ня кот, хто ходзіць разінуўшы рот. Пайшлі. І дзякую, што пачакала...

### Эпізод шосты

Завадзкая лазьня. Паўзмрок. Мельян і першы рабочы апранаюцца. Паміж імі ідзе гутарка.

Першы рабочы — Па мне, няхай вады ня будзе, абы пара была. А то-ж пары ні на грош. Чаго гэта варта. Ня лазьня, а зьвініце за выражэньне, як той казаў.

Мельян — Ты от апранайся, а то прадуць можа.

Першы рабочы — Ат, хай сабе, думаеш такім сьветам...

Мельян — Ты ня бурчы, ня бурчы, каму, каму бурчэць, а не табе

Першы рабочы — А бяз пары ўсёадно, як без вады. Корка нават не адтала. Худа. Дміністрацыя не глядзіць. Ім што, ня мыюцца!..

Мельян — Думаў я над гэтым.

Першы рабочы — Ты аб усім думаеш, а з тваіх думак нешта нічога ня выходзіць...

Мельян — Матар'ялу нястача. Мэтраў трыццаць труб патрэбна.

Першы рабочы — Ну?

Мельян — Гаварыў я ўжо. Што-ж, як будавалі ня ўлічылі. А цяпер, брат, трубы паспрабуй дастаць. За грошы няма...

Першы рабочы — А на чорта табе трубы.

Мельян — Трубы? Няўжо ня зразумеў. Паравік-жа на заводзе. А ад яго трубу пракласьці, ды ў лазьню. Крант адкруціў і пары колькі хочаш.

Першы рабочы — Здорава. Добра было-б, нават сьпіна зачухалася, пары захацела! *(сьмяецца)*. Эх, туды тваю туды, каб пары хоць крыху! *(чэша сьпіну)*.

З ражкай з лазьні ў разьдзявальню ўвальваецца маленькі чалавечак, агент Леспрому, Радкевіч, голы, чалавек сам у сабе.

Радкевіч — Надзвычайна памыўся! *(робіць гімнастычныя рухі)*.

Мельян — Новы...

Першы рабочы — Па складу відаць—ня з нашых...

Мельян — Куры!

Першы рабочы — *(Прыкурвае)* А, добрая табака...

Радкевіч — *(Прарабіўшы некалькі гімнастычных рухаў, зьвяртаецца да Мельяна).* Даўно ўжо ў вас лазьня гэтая пабудавана?

Мельян — Ды сёлета...

Радкевіч — Люба, дорага.

Мельян — Яно, канечня.

Першы рабочы — Ды ня зусім. Бяз пары...

Радкевіч — Асабліва, калі ты цэлую зіму ня мог памыцца ў вёсцы седзячы.

Першы рабочы — А вы-ж адкуль? Ня наш?

Радкевіч — Як сказаць, ваш—ня ваш. Агент я. З Леспрому. Вам на завод матар'ял загатаўляю.

Мельян — Загатаўляеце?

Радкевіч — Ага.

Мельян — Дрэнна-ж вы нешта загатаўляеце...

Першы рабочы — *(пэсымістычна).* Худа, худа! Па чалавеку відно.

Радкевіч — Прычыны, прычыны, таварышы! Вы-ж павінны ведаць, што вёска сёньня другая.

Мельян — Якая другая.

Радкевіч — Калгасная...

Мельян — Дык што?

Радкевіч — Ня едуць, ботаў патрабуюць, газы патрабуюць. Аўса патрабуюць. А я-ж адкуль вазьму?

Першы рабочы — *(пэсымістычна).* Худа няўжо стане? Вясна ідзе.

Радкевіч — *(Адзяючыся).* Не гарантую... А завод можа й стаць. Прычыны. Факты. Нашто доўга гаварыць. Узяць апошнія дні. Загадаў на адным вучастку ехаць на лесанарыхтоўкі, падпісаў дагаворы з калгасам, а выехала чалавек з дваццаць... А рэшта, дзевяноста... на печцы, знаеце, ляжаць.

Першы рабочы — *(пэсымістычна).* Ляжаць? Худа... Адно к другому *(чэша сьпіну).* Тут заставы, а там на печцы ляжаць... *(Раптам у лазьні гасьне сьвет).*

Першы рабочы — *(упоцемках).* Яшчэ ліха. Сьвет пагас. Добра, што штаны адзеў.

Мельян паліць сярнічку, апранаецца ў поцемках, глыбака час, ад часу зацягваецца цыгаркай.

Радкевіч — Мне што? Няхай звальняюць. І таго мець ня будуць. Падумаеш, шчасьце—за паўтараста рублёў... у такіх умовах. Ім тут добра... Трэст, завод, а от няхай зьезьдзяць, смаку папрабуюць.

Мельян — А здэцца-ж яны паехалі, брыгада наша...

Першы рабочы — Відаць, што не паехалі, раз агент тут.

Радкевіч — Паехалі, якраз паехалі ўсе, адзін я тут астаўся. І не па маёй віне. Спазьніўся на цягнік. І парашыў памыцца. Паеду заўтра.

Па цемнаце, з шумам уваходзіць у лазьню з венікамі група моладзі. Галасы абурэньня, што няма сьвятла. Разам з імі Міцька-практыкант. Запальваецца сьвятло. Міцька заўважае агента.

Міцька — Тут! Канешне, каму трэба ехаць, той тут, а Верка ў лесе! Здорава!

Радкевіч — Спазьніўся я, таварышы, за імі, за імі-ж ня ўгнацца.

Міцька — Раз так—з леспромам трэба распраўляцца. А ну, хлапцы *(моладзь падымае венікі. Міцька камандуе: „раз, два!)*, венікі лятуць у агента. Выкрыкі „чыста, цела, шоўкам венік").

Радкевіч — Таварышы—я беспартыйны!

Міцька — Табе ў лазьні мыцца! Каб змыліўся дашчэнту.:.

Радкевіч — Ды я ўжо ў лазьні мыўся... І паўтараю, таварышы, я беспартыйны...

Міцька — Партыйны—беспартыйны, усё адно дадзім мы жару Завод ня мае матар'ялу—а агент тут! Ганьба!

Усе — А ну!

Радкевіч — Дык я іду, ужо іду!

Усе — У лес.

Радкевіч — У лес, у лес.

Усе — На чорны лес.

Міцька — Ой глуп—па самы пуп. А агент. Загатоўшчык.

Усьлед агенту вясёлы сьмех моладзі.

## АКТ 2-гі

### *Інтэрмэдыя*

Вясковая вуліца. Зіма. Раньне. Каля студні з вёдрамі калгасьніца і аднаасобніца. Бяруць ваду—гутараць.

Калгасьніца — Здарова, Ксеня...

Аднаасобніца — Пахвалёны!

Калгасьніца — Ну, як жывеш?

Аднаасобніца — Жыву...

Калгасьніца — А што? А што?

Аднаасобніца — Шасьцёрку сьвінка прывяла...

Калгасьніца — Няўжо шасьцёрку?

Аднаасобніца — Учора пад вечар прыхожу я ў хлеў, гляжу аж мэнчыцца яна. Узялася я дапамагаць. І ножкамі ўсе шэсьцера ішлі. А кажуць, што ў вас, у калгазі сьвіньні пахварэлі?

Калгасьніца — Калі і хто сказаў?

Аднаасобніца — Ды мой казаў анэдысь...

Калгасьніца — От гэта і няпраўда. Агітацыя... Растуць. Растуць. І асабліва тыя, што ў калгас да нас прывезьлі—кірпатыя, буржуйскае пароды.

Аднаасобніца — Добра-ж вам... Ды праўда... мой казаў, што ў калгас прыехала цыганоў шмат...

Калгасьніца — Ага, прыехала! Чацьвёра! З гораду—на лесанарыхтоўкі...

Аднаасобніца — Дык што яны?

Калгасьніца — Як што? Працуюць разам з усімі...

Аднаасобніца — *(Затаёна)*. А мой наказваў перадаць—каб вы глядзелі *(шопатам з боязьню)*. Абакрасьці могуць...

Калгасьніца — Абкрасьці? Ды не... Ды як табе сказаць, яны ўжо і не цыганы, рабочыя яны, з заводу кажуць. І дзеўка разам з імі—слаўная дзеўка. Усім нам, бабам да спадобы.

Аднаасобніца — А мой казаў—каб наказаць. Анэдысь быў-жа выпадак у Вячы...

Калгасьніца — Які?

Аднаасобніца — Дамовіліся, значыць, цыганы ў Вячы коняй красьці. Ну, добра... Думалі яны, значыць, як-жа гэта зрабіць. Ну, от. Вось адзін і кажа, значыць:

— Стану я пасярод вуліцы, значыць, і пачну скакаць. Зьбяруцца, значыць, мужыкі глядзець на мае скокі, а ў гэты час, вы, значыць, за коняй...

— Так, значыць, і было. Вышаў цыган пасярод вуліцы, значыць. і давай скакаць. Спрытна скача цыган. Усе дзівяцца, не надзівяцца, А цыган, значыць, скача і прыпявае так:

Вяча, Вяча, паглядзі,
Як цыган скача...
А вы, хлоццы-малайцы,
Выбірайце жарабцы,
Ды ўцякайце за гару,
А я вас даганю...

Дзівяцца, значыць, мужыкі:

— Лоўка цыган скача!

Паскакаў цыган, ды пашоў, разьвітаўшыся з мужыкамі. А як папрыходзілі, значыць, мужыкі дамоў, глядзяць, значыць, а коняй і няма. Толькі тады і ўспомнілі, значыць, пра што падпяваў цыган, скачучы пасярод вуліцы. Так, от, яно, значыць было.

Калгасьніца — А-а... Пакралі коняй? Калі-ж гэта было?

Аднаасобніца — Ды так... Перад вайной... Яшчэ за Мікалаем.

Па вёсцы загуў царкоўны звон. Гул напоўніў сабою ваколіцу. Звон—да канца—малюнку.

Аднаасобніца — Раней хрысьціліся пачуўшы звон царкоўны... Чакалі дзён мы шэсьць штотыдзень, каб у нядзельку памаліцца. А цеперся—штодня. Прыпаў царкоўны звон калгазу да спадобы...

Калгасьніца — На працу ўсе выходзяць...

Аднаасобніца — Усе?

Калгасьніца — Ды, не, ня ўсе...

Аднаасобніца — А многа ня выходзяць?

Калгасьніца — А як калі, бывае й многа.

Аднаасобніца — А твой як у калгазі?

Калгасьніца — Ого! Цяпер не падступіся! Намесьнік старшыні Праўленьня...

Аднаасобніца — Праўленец, значыць? І ў партыю падаўся?

Калгасьніца — Як абіралі,—казалі — патрэбен серадняк, каб гаспадаркаю мог прыклад даць усім. А мой-жа, ведаеш, якраз такі— і серадняк і гаспадар. На фронце быў і граматны...

Аднаасобніца — Ну, я пашла. Бывай!

Калгасьніца — Бывай! Заходзь-жа...

Аднаасобніца — Як будзе час—зайду... *(Пайшла).*

Калгасьніца — *(Канчае набіраць другое вядро).* А можа й варта наказаць. Усё-ж такі прыехалі цыганы.

Прыходзяць Крысько і Архіпенка. Не сьпяшаюцца. У кожнага за плячмі—сякера. У Архіпенкі—у руках піла.

Крысько — *(Працягвае гутарку...)* ...І тут спакойна не даюць пажыць...

Архіпенка — Дык, от-жа...

Крысько — Завод пакінуў і думаў прыеду—спакойней будзе...

Архіпенка — Дык, от-жа...

Крысько — У горад ехаў—з калгасу ўцякаў...
Архіпенка — Дык от-жа...
Крысько — Прыехаў у калгас, а тут—што горад усё адно...
Архіпенка — Дык от-жа... Нядаўна, праўда, гэта стала. Сячэм...
Крысько — *(Многадумна).* Сячэм...
Архіпенка — А як падумаць, чый лес сячэм мы. Наш-жа. Наш—бывала гадоў шэсьць таму—паедзеш у лес, зрубіў сасну, пасек, ды пад павець, а там на рынак у мястэчка... А цеперся ня тое...
Крысько — Ня тое...
Архіпенка — А што, каб так паспрабаваць, ды падружыць з цыганамі. Канешня, асьцярожна. Спачатку падружыць, а потым абсьмяяць, пасьля і пасварыцца можна, а потым...
Крысько — Няхай сабе сякуць. І мы дапамагаць ім будзем, але па норме...
Архіпенка — Во, во. Па норме. От-то-ж...
Крысько — І па сіле.
Архіпенка — Па сіле і па норме, хэ-хэ.

Праходзяць калгасьнікі з сякерамі ды з пілямі—на працу ў лес зьбіраюцца.

### Эпізод сёмы

Праўленьне калгасу. Пасьля сходу. Ноч. Усхвалявана ходзіць па хаце Дуб—старшыня калгасу. Сьцяпан сядзіць на куце—піша ліст.

Сьцяпан — *(Адарваўшыся ад ліста).* Няўжо й цяпер, пасьля сходу табе неясная ўся карціна? Ды пасудзі, ты сам, як пагледзіш, дырэктывы парушаліся. Нельга-ж заключаць дагавароў з Леспромам ад імя ўсіх калгасьнікаў на рабочую зілу. А ты гэта якраз і зрабіў.
Дуб — Паверыш, мне аб гэтым ніхто не заікнуўся нават.
Сьцяпан — І атрымалася—ты заключыў дагавор—ты і працуй. Цэка ня раз ў сваіх дырэктывах гаварыў пра іншы падыход да калгасьніка, і да аднаасобніка пры вярбоўцы на лесанарыхтоўкі. А ты ня выконваў партыйных пастаноў.
Дуб — Лёгка табе гаварыць, таварыш. Цяжэй працаваць...
Сьцяпан — Здэцца ты бачыў, што я ня толькі гавару, але і працую. Мы-ж камуністы! У першую чаргу! Мы-ж праводзім пастановы партыі ў жыцьцё. Мы-ж кіруем масамі. І асабліва тут.
Дуб — Дык што з таго? Сам бачыш, цяжка.
Сьцяпан — Ну, вось першая прычына—агент Леспрому, гэты прараб, Радкевіч, шкодніцкую-ж работу праводзіў. І працаваў цэлы сэзон. А ты ня змог выкрыць яго. Паказаць яго твар, і ў канцы канцоў паставіць пытаньне аб звальненьні.
Дуб — Ну, ну, ну няхай сабе. Я вінаваты.
Сьцяпан — Ну вось, а па-другое. Ня змог дапамагчы ты вывазцы. Дарога была дрэнная, сьнегу мала, марозу ня было і чаму ты замест санак ня пусьціў вывазку на калёсах... Гэта, брат, нікуды няварта.

Дуб — Ну, што-ж! Пішы сабе. На маё месца не жадаю табе стаць. Інакш-бы ты загаварыў, таварыш. Вёска паганая. Вакол кулакі. Ліквідавалі і мала ліквідавалі. Агітацыяй заядаюць. Бачыў-жа сам на сходзе, як справа дайшла да лесанарыхтовак—ты-ж чуў, як гаварылі, як гаварыў, напрыклад, калгасьнік Архіпенка...
Наплывам — Архіпенка гаворыць прамову.

Архіпенка — Таварышы дарагія! Я, як у калхозі, з тысяча дзевяцьсот трыццатага году, хачу сказаць слова. Уласьць, праўда, харошая ў нас. Нечага наракаць. І разьвіція дае, і культуру ўсякую дае народу, і я, канешня, за ўласьць, таварышы. Толькі, таварышы прыежджыя, у нас свая ўласьць ні к мацеры нягодная, таварышы! Ды дзе-ж гэта відана, каб нашая ўласьць, ды дала наш лясок на зруб, таварышы. Ды нікуды ня варта. Ды потым нашая ўласьць ні зважае і безабразія робіць. Усіх, хто хацеў у наш стары калхоз, папрымалаці правільна гэта. А па мойму няправільна. А як былі ў нас хлебазагатоўкі, дык хлябец ўласьці аддала нашая дурная калгасная ўласьць, а сабе пакінула па нормі. А можа я хачу і на рынак зьезьдзіць, ды пудзік які прадаць. А мне—па нормі, па ідаку, па днёх. Дык па мойму і працаваць будзем па нормі. А норма ў нас—колькі хто хоча. А ў нас ня так робяць нашыя заправілы.—Склічуць сход, прагаласуюць, большасьць верх возьме, а ты падчыняйся. А можа я меншасьці падчыняцца хачу. А можа большасьць меншасьці павінна падчыняцца. Значыць—няхай сабе прыяжджаюць і сякуць лес, а мы, як меншасьць—па нормі. А ўласьць, канешня, харошая. І разьвіцьця дае, і культуру, і радыё, і ліхбесы і ўсякае такое. А я, як Архіпенка, у калхозі з тысяча дзевяцьсот трыццатага году, от што кажу. І дзела з канцамі. А вы—як знаіця...

Сьцяпан — Прамову чуў... І чуў я не адну прамову Архіпенкі. Крыху чуў і пра яго.

Дуб — А што ты чуў?

Сьцяпан — Ды рознае гавораць...

Дуб — А толкам што?

Сьцяпан — З былых, гавораць, Архіпенка.Ураднікам служыў.

Дуб — Служыў. Я гэта ведаю даўно, не навіна. Усе аб гэтым ведаюць.Ураднікам служыў, але ў правох адноўлены...

Сьцяпан — У правох адноўлены Архіпенка, а ўсё-ж такі. Кулаком кулак астаўся. Па крайней меры мне-ж самі вашыя казалі, што Архіпенка не раўня калгасьнікам усім...

Дуб — Каб ты знаў, таварыш, колькі ў нас за Архіпенку, палова калгасу, чэснае слова. Ставілі пытаньне пра выключэньне. У ячэйцы правялі, узгоднілі, а як паставілі на сход—на сходзе правалілі...

Сьцяпан — А як-жа ты глядзіш?

Дуб — Па мойму што... Работнік ён ня дрэнны. Душок кулацкі, праўда, у яго. І часам любіць шпільку падпусьціць. А трэба выключыць—давай, спрабуем...

Сьцяпан — Я маю мала матар'ялу...

Дуб *(Сьмяючыся, за зьдзіўленьнем)*. Матар'ялу... Колькі хочаш, ды толк які. Паглядзіш сам на сходзе будзе што. Дарэмна. Прабаваў. І праваліўся. Ну, от табе: ураднік быў—раз, ну, меў надзел—два, па рэвалюцыі—працуе на зямлі, у свой час батрачка трымаў—тры, ну, агітацыю разводзіць—чатыры, затое ў калгас уступіў ён першым і ўсьлед за ім пайшло ўсё серадняцтва. А наш калгас—калгас серадняцкоў...

Сьцяпан — Таму, відаць і беднату ў калгас пад націскам прымалі... І хто ўстанавіў быў такі высокі пай, каб уступіць у ваш калгас?

Дуб — Шчэ да мяне ўсё гэта было. Устанавіў агульны сход. А ўсё-ткі прынялі...

Сьцяпан — Чудны ты чалавек! У нас савецкая-ж улада. Бай-бай-бай-бай...

Са скрыпам адчыняюцца дзьверы. Пракатваецца па падлозе вал марознага халоднага паветра. Прыходзяць Вера і Мірутка, у кажухох яны, валенкі на нагах. Вера хусткаю галаву абкруціла. Холадна з дарогі. А прышлі—абцярушваюць сьнег з кажухоў, паціраюць рукі з холаду, нагою аб нагу пастукваюць стоячы ля дзьвярэй. Разапранаюцца. Моўчкі піша Сьцяпан. А Дуб ідзе насустрач—праз хату. Пытаюцца ўдвух:

Сьцяпан Дуб — Ну, як?

Сьцяпан — Як Ліцьвіны?

Вера — Пасьпееце...

Мірутка — Ды дайце адагрэцца.

Вера — А як у вас?

Сьцяпан — Быў бой...

Вера — Хто перамог?

Дуб — Пакуль ніхто.

Вера — Ніхто? Дык значыць заўтра зноў у вас прарыў з рабочай сілай...

Сьцяпан — А як у вас?

Вера разапрануўшыся падыходзіць да стала, абэруч абцірае твар, прыглажвае валасы, садзіцца. Мірутка становіцца каля печкі—грэе рукі.

Вера — Акачанелі! Пакуль дайшлі, дык замерзьлі. Такі сіберны вецер з сьнегам. І проста ў твар. Ідзеш—ідзешь, аж коле, нібы голкамі...

Сьцяпан — Ды як-жа там у вас? Кажыце?

Мірутка — Як?.. Зрушылі.

Вера — Кранулі з месца.

Мірутка — Каб не яна—от слова чэснае даю, нічога-б ня было...

Вера — Хваліць пакінь, Мірутка...

— Дык слухай ты, Сьцяпан, учора правялі мы сход. І давяла я, што загатоўкі лесу—галоўны фронт. Умовы расказала. А сёньня з Міруткай цэлы дзень да позьняй ночы дагавары падпісвалі па хатах ходзячы. І от, паводлуг дагавораў заўтра-ж усе Ліцьвіны выходзяць у лес. Восемдзесят сем калгасьнікаў, з іх з коньмі—трыццаць пяць... На сто.

Сьцяпан — Бай-бай-бай-бай.

Вера — А як у вас?

Сьцяпан — Казаў, жа бой быў. Цяпер мне ўсё відней. За гэты тыдзень, што правялі яны тут, хоць зруху ў загатоўках амаль няма, а раз знойдзены прычыны, упэўнен будзе зрух. Магу спрачацца. Папершае, раскрыты гэты агент. А па-другое *(зьвяртаецца да Дуба)*. Ты слухай, Дуб. У цэль па мойму я страляю. Бо ў калгасе ў цябе, магу ручацца, пачаўся бой. Быць можа й табе не паздаровіцца... У бойцы рознае, бывае... Па мойму неабходна вам правесьці, як хутчэй чыстку калгасу ад кулакоў... А ёсьць яны. І Архіпенка, першы...

Дуб — Скажу, таварышы, да нас, хто-хто не прыяжджаў, а мне не гаварыў пра неабходнасьць чысткі. Была праверка. На гэтым скончылася...

Сьцяпан — Ніхто табе не гаварыў, а я кажу. І тут-жа я раблю папраўку. На сходзе сёньня шчэ бою ня было. Была разьведка з боем. А бой—шчэ ўперадзе. Пра ўсё пішу я ліст Кавальчуку. Ён, бязумоўна, многім дапаможа. Кавальчук у нас возьмецца за справу. Давядзе да канца. А ў вас давесьці да канца патрэбна. Інакш калгас разваліцца. Успомніш ты мяне.

Вера — Стамілася за дзень. Хачу прылегчы.

Сьцяпан — Сьцяліся спаць і сьпі. Адпачывай.

Вера — *(Запальвае лямпачку, выходзіць у суседні пакой).* Дабраноч...

Дуб *(Да Сьцяпана).* Пайду і я. Спакойнай ночы. *(Сабе).* Раз бой, дык бой. Цыган, а так пачаў, так распачаў, што сьцеражыся, Дуб. Трымайся...

Сьцяпан піша ліст на завод, Кавальчуку. Цыган Мірутка падыходзіць да стала і ціха-ціха пачынае напяваць працяжную цыганскую мэлёдыю. Мірутка сьпявае песьню, тую самую песьню, што чуў Сьцяпан даўным даўно, пакідаючы першым табар, пакідаючы бацькоў. Песьня адрывае Сьцяпана ад справы. Ён перастае пісаць. Падымае галаву. Успаміны, усьмешка на твары. Недзе на вёсцы глуха запеў певень...

Сьцяпан — Романы зоря?..

Чукар... Чукар... *(паціху напявае Сьцяпан песьню...).*

Цыганская зорка
Усплыла над лесам.
У табары голадна,
У лесе—весела...
Цыганская зорка
Узышла над лесам...

———

У табары голадна,
У лесе--весела,
А нам—цыганам
Усё—адно...
Цыганская зорка
Узышла над лесам...
А нам—цыганам
Заўсёды весела...

Романы зоря... ці ня праўда... прыгожая песьня... Падабаецца яна мне, падабаецца...

Мірутка — *(Моўчкі ківае галавой, працягвае напеў мэлёдыі. Паступова гасьне сьвятло).*

### Эпізод восьмы

Чырвоная вечарынка ў калгасе. Гуляе моладзь. Старыя калгасьнікі сядзяць з боку, гуртам. Самы разгар гульні. Шум, выкрыкі. Галасы. Звонкія, бадзёрыя. Моладзь пад гармонік танцуе кадрылю. Час ад часу прарываюцца прыпеўкі. Танец скочаны. Сярод прысутных Сьцяпан і Вера.

Першы калгасьнік — *(філёзофска-высокім тонам).* Што значыць моладзь... Маладое. А некалі і я такім быў. Было, бывала. Як сукін сын на таку ў пана напрацуешся, а вечар прыходзіць, так і карціць, каб на вечрынку куды скокнуць... Ды тупануць! Ды скакануць!

Голас з моладзі — А можа-б..., дзядзька Анупрэй, вы скаканулі-б—тапанулі-б

1-ы калгьсьнік — Ногі старыя... Ня пойдуць... Нагуляліся... Наскакаліся. А вы—моладзь зялёная... Зялёныя вы ўсе, зялёныя, ня знаеце каго папрасіць... Ды нашага таварыша брыгадзіра папрасіце... Цыганы-ж скакалі бывала, як чэрці...

Галасы {
— Правільна!
— Брыгадзіра!
— Просім брыгадзіра!
— Просім!
— І брыгадзіршу просім!

Увага—і вочы прысутных у бок Веры і Сьцяпана.

Сьцяпан — *(сьмяецца).* Бай-бай-бай! Позна ўжо, таварышы! Ці варта?

Гарманіст не чакаючы, заіграў плясавы цыганскі танец. Пераглянуліся Сьцяпан з Верай. Вера вачмі сказала—паскачы. Сьцяпан устаў.

Сьцяпан — Раз скакаць, дык скакаць. Шырэй круг, хлапцы... А ну...

Шырокі круг. Сьцяпан скача спрытна, умела, з тэмпэрамэнтам. За кожным рухам Сьцяпана сочыць моладзь. Дзівіцца—не надзівіцца. Галасы адабрэньня.

Голас з натоўпу — Глядзі, Вяча—цыган скача!..

Прысутныя зарагаталі. Раптоўна абрывае Сьцяпан свой танец і як раптоўна абарваў, з такой-жа нечаканасьцю, спытаў:

Сьцяпан — Хто сказаў?

Голас — Янка сказаў, Архіпенкаў сын.

Сьцяпан падыходзіць рашуча і сьмела да Янкі — Архіпенкавага сына.

Сьцяпан — Хадзі, хадзі сюды... Сюды на сярэдзіну...

Янка — Пашоў ты... цыган... і адварнуўся Янка.

Сьцяпан — Быць цыганам — па майму не ганьба...

Галасы — Правільна...

Сьцяпан — А вось такім, як ты—ганьба! Ну, што-ж... я цыган. І бацька мой цыган. Цыганка мая матка... Я цыган. За тое я—рабочы, я бальшавік! Я ганаруюся гэтым. Будзь спакойны, сын Архіпенкі, бальшавікі—цыганы, коняй у твайго бацькі ня кралі і не пакрадуць...

Урываецца калгасьніца. Ад бегу задыхалася. Вочы ўсіх на калгасьніцу.

Калгасьніца — *(немым голасам)* — Пажар!..

Усе — „дзе“, „хто гарыць“?..

Калгасьніца — Гуляеце, а вунь шыбае полымя! Гарыць! Хутчэй... Ратуйце, ды не магу я. А в-о-о-й, калгаз гарыць: а в-о-й... Гарым... Ратуйце...

Суталака. Усе ўрываюцца. Каля дзьвярэй згрудзіліся моладзь, старыя. У Сьцяпана першага адразу-ж орыентыроўка.

Сьцяпан — голасам грубым, голасам загаду—Назад! Назад, таварышы! Спакойна! Спыніце суталоку...

Голас Сьцяпана сухі, ясны. Па аднаму пачалі вылятаць з хаты прысутныя.

Сьцяпан *(усьлед).* За вёдрамі хутчэй! Зьбірайся каля студні.

Вера — На бой, Сьцяпан, кулак ашчэрыў зубы! Хто скажа „не“— таму я не паверу!..

Сьцяпан — Пашлі. Хутчэй.

Сьцяпан і Вера зьнікаюць. Далятае з двара шум, ды гоман. У хату вяртаецца стары калгасьнік з пугаю. Відаць, пастух.

Калгасьнік-пастух — Трыццаць тры гады я пасьвіў панскае быдла... Трыццаць тры гады панаваў наш пан з падпанкамі, ды ніводнага разу не гарэў... А калгаз наш—два гады і два разы гарыць. Ня ўмеем мы сьцерагчы сваё дабро. Ой, ня ўмеем... Хто-б то гэта ўчыніў?

### Эпізод дзевяты

Ноч. Вясковая вуліца. На пярэднім пляне калодзеж. Удары ў царкоўны звон разносяцца па ўсёй ваколіцы. Канвэер людзей з вёдрамі. Час ад часу пралятае то мужчына, то жанчына, то юнак—на пажар.

З боку—палымнее вогнішча. На тварах людзкіх—водбліск пажару. Змаганьне з агнём—ня лёгкая справа. Бесьперапынна круціцца кола калодзежу, пераліваецца з вёдзер вада, вёдры канвэерам перадаюцца. Чутны крыкі:

— Вады... Вады... Не дапусьціць... Гасі... Ламай... Сена... Пуня... Волька... Сюды давай... Хутчэй... Ламай... Так яго... Апаліла... Вады... Стой... Стой. Як порах... Сячы...

Вылятае Сьцяпан.

Сьцяпан — Асьцярожна... Не сарвіце, таварышы, ланцугу!

Голас — Бог бацька... не сарвем...

Сьцяпан — Толькі спакойна, спакойна, таварышы.

Сьцяпан зьнікае.

Галасы:
— Добры з Сьцяпана камандзір.
— Добры.
— На, прымай...
— Пакруці хто кола... Рука самлела...
— Давай...
— Вады-б у студні хапіла...
— Хопіць...
— Цішэе...
— Страха села...
— Парахоўня...
— Дзіва сухое сена...
— Стаміўся...
— Ну...
— Сьцішэла полымя...
— Дзякуй, божа...
— Цыгану дзякуй...
— Без кармоў...
— Бог—бацька...
— Чым накормім скацінку...
— Памогуць...

Голас *(гіронічны)* — Памагаюць...

Галасы:
— Сьцерагліся дрэнна...
— Хто-б то...
— Цыганы...
— Што-о?..
— А мо' й свае?..
— Свой ня зробіць...
— Што-о?..
— Хто сказаў, цыганы?..

Улятае Сьцяпан.

Сьцяпан — Сто-о-о-й! Хопіць вады... Сто-о-о-й! Хопіць вады.

Выходзіць група зморaных калгасьнікаў. Рукавамі пот на тварах абціраюць.

1-ы калгасьнік — Асіліліl..

2-гі калгасьнік — Магло-б быць горш.

Голас — Яснае дзела, магло-б быць горш...

Стомленыя разыходзяцца ў розныя бакі людзі з пажару. Нехта падпаліў пуню з сенам. Але хто?

Сьцяпан спатыкаецца. Глядзіць пад ногі. Падымае кій. Чорны. Прыгожы кій. Пытае:

Сяцяпан — Хто кій згубіў? Чый кій пытаю?

Хто-ніхто падыходзіць да Сьцяпана, глядзіць на кій і адыходзіць. Пеўні пяюць раніцу. Ціхая музыка...

### Эпізод дзесяты

Вясковая хата. У вёсцы Ліцьвіны. У хаце Вера і старая калгасьніца. Подвечар. Гудзіць калаўрот.

Калгасьніца — Ня ўбівайцеся, галубка мая, ня ўбівайцеся. Ды гэта й ня дзіва. Такім надвор'ем. На пажары разагрэліся, ды па марозу прайшліся. Добра шчэ так. Магло быць горш. Вось анэдысь, прыяжджаў да нас з раёну таварыш. Ня дзіва, маразы такія стаяць. Як прыехаў, так і зьлёг. Адвозіць прышлося.

Вера — Усёткі заўтра пайду ў лес. Шкада, марне два дні згубіла *(дакранаецца руною да горла)*. Горла перастае балець і ў галаве ня так шуміць...

Калгасьніца — Пройдзе, дзеткі, пройдзе, як рукою здыме... Не пашкодзіла-б выпацець. Шкадую я маладых. Сама некалі маладою была, неўгамоннаю... Ды з гадамі старасьць прышла. А старасьць—ня радасьць. Трудненька жылося, ой, як трудненька. Адзіная з сынам век гаравала.

Вера — А што ў вас мужа ня было, цётачка?

Калгасьніца — Амарыканка я, мая дачушка, амарыканка... Дваццаць пяць гадоў пакутую мужа чакаючы.

Вера — А ваш муж у Амэрыцы?

Калгасьніца — У Амэрыцы, мая дачушка, у Амэрыцы. Як паехаў, дваццаць пяць год таму, мяне з сынком пакінуўшы, так і дагэтуль няма.

Вера — Дык вы, значыць, удава, цётачка?

Калгасьніца — Не ўдава я, дачушка, а амарыканка. Хто-ж ажэніцца на амарыканцы-бяднячцы, так мае, дзетка, маладыя годы марне прапалі. А прыгожая была я, галасістая, толькі цёмная—адна бяда. Дванаццаць год шыфкарты чакала, у Амэрыку ехаць. А ён... ажаніўся там у Амэрыцы на марыканцы... Выплакала я сваё горушка, у песьнях выпяяла:

Спакойна гудзе калаўрот. Калгасьніца спакойна-спакойна пачынае пець песьню пра сваю долю няшчасную, долю „амарыканкі":

Вой з-пад горы, з-пад гарушкі,
Едзе друг мой верны.
На вараненькім кані...
Я ў варотах стаяла,
У мілога праўды пытала:
— Ты чаму, рассукін сын
Учора ня прышоў?
— Ты наверна друг любезны
Сабе другую нашоў?
— Ня біжайся, каханачка, на мяне,
Начавала цёмну ночку без мяне,
Начавала ў садзе, з салаўём...
Ляці пташачка, ад гора
У шчыры бор шчабятаць.
Пташка ў борык не ляцела
Села ў садзіку пад акном

Громка песенкі пела
Аб горачку маём...
— Трунна, трунна адзінокай
Без мужчыны пражываць,
А шчэ надтруньней
Маме дзіця гадаваць...
Нет люлькі-калыбелі,
Нет чым дзіця калыхаць
Нет хадзяіна ў доме
Некаго аццом называць...
Пташка рана пела,
Пташка рана шчабятала,
Майму сэрцу
Дасады—жалі паддавала...
Ніхто цяпер мяне няшчасную
Замуж не бярэ...
Абмануў распракляты,
Кінуў, бросіў
Сам уехаў наўсігда...
Ці я ў цябе, мамка,
Ні дачка, ні дачушка
Нет шчасьця і долі
І харошага малайца..
Ці ты, мамка, мяне
На мястэчку купіла
Што ўсім дзеткам
Долю дарыла
А мне, маладой—не...

Скончыўшы песьню, яна рукавом выцірае сьлёзы.

Вера — Прыгожая песьня.

Калгасьніца — Дваццаць пяць гадоў я пяю гэтую песьню... І кранае ў грудзёх, кранае, да жалю даводзіць мяне сірату. Любіла-ж я свайго, любіла... А ён кінуў, сам паехаў... Такая яна дола бабская, дзеткі, бывае...

Вера — Ну, затое-ж сын у вас...

Калгасьніца — Выгадавала я сынка, дзякуй божа, удалага, ажаніўся сын мой—нявестку маю... камандзірам мой сын у Чырвонай арміі быў... От-то-ж я пакажу, дзеткі...

Пакідае старая пражу, ідзе да куфэрка, адчыняе, дастае картку.

Калгасьніца — *(З матчыным замілаваньнем).* Прыслаў...

Вера — *(у паўзмроку прыглядаецца на картку).* І не пазнаць...

Калгасьніца — Скуль знаеш, дачушка?

Вера — Ды на заводзе-ж ён у нас—не такі...

Калгасьніца — Ну, але на заводзе...

Вера — Цікава...

Калгасьніца — Ваяваў мой сын Пятрусёк... Паранены быў... а я адна гаравала... Ну, як-жа ён там? *(З дакорам).* Ажаніўся,—на старую забыўся...

Уваходзіць Сьцяпан, Юры, Васіль.

Вера — Сьцяпан, вось, дык здорава! Няўжо рэвізію рабіць у Ліцьвіны прышоў?

Сьцяпан — Бай-бай-бай! Хто сказаў, што здорава?

Сьцяпан — А што?

Вера — Ды я-ж у маткі таварыша Кавальчука жыву...

Сьцяпан *(зьдзіўлены).* Як так, у Кавальчука? Бай-бай-бай.

Калгасьніца — Значыць госьці ў мяне, а не брыгадзіры? Завіхнулася старая маці Кавальчукова.—Частаваць гасьцей трэба.

Сьцяпан—Чатыры тысячы дзьвесьце бярвеньняў, Верачка, адгрузіў для нашага заводу. Адгрузіў і адправіў. Чатыры тысячы дзьвесьце бярвеньняў.—Гэта вынік работы за тыдзень. Мала. Трэба куды больш. З эшалёнам паслаў Мірутку.

Вера — А дрэнна зрабіў. Я хворая.

Сьцяцан — У падмогу дам табе я Васіля...

Вера — А ўсёткі лепш сябе адчуваю. Пабыла ў хаце і горла балець амаль перастала.

Васіль — О, не! Вера ў нас—жанчына. Да жанчыны ў нас пашана. Раз баліць, ня выходзь, выйдзеш—горш будзе.

Сьцяпан — Нічога. Нічога...

Юры — Пройдзе, таварыш Вера. Вучыся жыць у нас. Холадна, голадна ў табары бывала. Сонца, як кажуць, вышы елі, а цыганы яшчэ ня елі, а жылі-былі, пажывалі і здаровы езьдзілі...

Вера — *(Усьміхаецца)*. Добра гаворыш пшал Юры...

Юры — А ты адкуль па нашаму навучылася гаварыць?

Васіль — А ці знаеш Вера, што такое дром?

Вера — *(Усьміхаецца, глядзіць на Сьцяпана)*. Дром? Дарога...

Юры — А кгам?

Вера — Сонца.

Васіль — А скажы, што такое чукар чхай?

Вера — Ды што гэта,—думала рэвізію вы праводзіць прыехалі, як справа з лесанарыхтоўкамі ў Ліцьвінох, а вы экзамен закацілі...

Юры — А вот ня ведаеш, што такое чухар чхай. Чухар чхай— гэта прыгожая... прыгожая... маліна.

Васіль — Ня дуры! Не маліна, ня прыгожая маліна, а прыгожая дзяўчына. Вера—чухар чхай...

Усе сьмяюцца. Вера па плячуку б'е Васіля за жарт.

Калгасьніца — Дык, госьцейкі, да стала прашу. Чым хата багата, тым і рада. Скварку-злыбеду зьешце.

Сьцяпан — А цётка, разам з намі.

Калгасьніца — Раз ад сына вы—сяду з вамі, сяду з маладымі, хоць на старасьці.

Сьцяпан — А скажы, цётка, нам цікава, што пра нас гавораць тут?

Калгасьніца — Гавораць, сынкі, гавораць. Цыганы, кажуць, прыехалі, ды распараджаюцца.

Сьцяпан — Ну?

Калгасьніца — Нядобрае гаворуць. Ды, таварышы, надобрыя тут людзі. І асабліва ў Дзяніскавічах. Да тут мовяць, што сена падпаліў сам старшыня Дзяніскаўскага калгасу—Дуб. На вас нагаварылі-б, адно баяцца вас зачапіць...

Сьцяпан — Хто гаварыў?

Калгасьніца — Гаворуць, гаворуць. Ад Архіпенкаў усё няшчасьце і для Дзяніскавіч і для Ліцвіноў. У нас ужо ўсе Ліцьвіны гавораць, што Архіпенкаў раскулачыць час. Адно толькі падпору маюць, што ў Архіпенкі брацёнік у міліцыі служыць...

Сьцяпан — Новыя факты...

Калгасьніца — Ой, дзеткі, лепш не гаварыць. Скажаш—помсьціцца будуць. Не дажыць мне веку свайго. Сьцеражыцеся вы дзеткі, сьцеражыцеся, новыя вы людзі тут. Людзей вы нашых знаць ня знаеце

і ня ведаеце. А людзі ў нас паганыя—мужыкі цёмныя. Ходзяць усе, працуюць, а ў сваю камору паглядаюць... Было гэта ў летку ў нас. Памерла адна баба калгасная ў Дзяніскавічах. На могілкі трэба было адвесьці, ды магілу выкапаць. Даручылі праўленьнем Архіпенку гэтаму. Дык што вы думаеце. Багацей гэты, кулак паганы, сказаў:

— Няхай запіша праўленьне мне працадзень, тады я пахаваю...

Такі ў нас народ. Бізкультурны. Бязжаласны. Гору недапаможа, беднаце... а ўсё глядзіць сабе ў камору.

Сьцяпан—Ой, задумаўся, Васіль. На твары стомленасьць відаць. Пашлі адпачываць.

Васіль—Нутро гарыць...

Сьцяпан—З чаго?

Васіль—Сьцяпан! Сьцяпан! Скажы... Гады ўжо з тры прайшло, як мы працуем на заводзе. Здавалася-б і час прывыкнуць мне. А не магу я... Што рабіць, усё часьцей мне хочацца ў сьвет.

Юры—А дзе к таму патрэба? Няма патрэбы жаднай, раз дом будуем мы камунай...

Васіль—Паглядзіш на жыцьцё і мне здаецца, што не патрэбен гэты дом для нас...

Юры—Ты памыляешся, Васіль.

Васіль—Быць можа...

Сьцяпан—Бай-бай-бай... Гаворыць хто? Васіль! Нягодна так, нягодна. Дзе слова цыгана?

Вера—Пра што вы тут гаворыце?

Сьцяпан—Ды так... Васіль засумаваў...

Вера—Па хаце?

Сьцяпан—Па табару засумаваў Васіль, хістаецца... *У хату уваходзяць старшыня калгасу Дуб і міліцыянэр.*

Дуб—Таварыш Сьцяпан, цябе можна?

*Сьцяпан падыходзіць да дзьвярэй.*

Дуб—Таварыш Сьцяпан! Пастановаю раённай міліцыі мяне арыштавалі па падазронасьці ў падпале калгаснага сена. Я пакінуў калгас і іду ў раён. Думаю, што не надоўга. Але не аб гэтым хачу гаварыць. Прашу—даглядай дзяніскаўскі мой калгас. Толькі цяпер зразумеў, што ўзарваць наш калгас нехта хоча з калгасу. Заўтра павінна адбыцца чыстка. Прыедуць з калгассаюзу. Званілі. Праводзьце без мяне. Астаўся мой намесьнік. Яго ты знаеш. Бывай. Пашлі, таварыш міліцыянэр...

Міліцыянэр—Пашлі...

Сьцяпан—Бай-бай-бай! Ясна і выразна. Развал замест замацаваньня. Ну, што-ж паглядзім, хто каго?

### Эпізод адзінаццаты

Лес. Шумна ў лесе. Поўна людзей і падвод. На пярэднім плане Сьцяпан, групы калгасьнікаў. З розных бакоў даносяцца выкрыкі „сьцеражыся“... „каня адводзь“... яшчэ і яшчэ „сьцеражыся“...

Юры *(Да Сьцяпана).* Другі такі ўдарны дзень на лесанарыхтоўках. Учора вырубілі цэлую дзялянку і зьвезьлі ўсё на станцыю. Сёньня-ж па працы відно, што зробім ня менш...

Сьцяпан—Ня менш! Гарантавана тысяча кубамэтраў!

1-ы калгасьнік—Такой працы даўно нявідно было.

2-гі калгасьнік—Цяпер на нас вашыя скардзіцца ня будуць. Завалім мы завод аж пад страху... бярвеньнямі... смалістаю сасной.

3-ці калгасьнік—Яснае дзела, што завалім. Толькі таварыш *(да Сьцяпана)*. Нам-бы махорачкі крыху падсыпаць. Спарней работа ішла-б. Закурыў-бы сабе, ды за пілу. Нібы завод ваш. Адно толькі дымок папускай...

Сьцяпан—Махорка будзе. Я тэлеграму даў даўно.

1-ы калгасьнік—Хярова знаеш у нас з табакай. Свайго не пасадзілі, дык і няма...

Юры—Па мне, няхай табакі век ня будзе...

2-гі калгасьнік—Няўжо ня ўсе і з вашых кураць? У нас, як на ліха тое, бабы пачалі курыць, таварышы. Раней я сваю бабу за курава з хаты выгнаў-бы, а цяпер ня тое, ды й я ня той стаў. Пашана да бабы нейкая зьявілася. Баба, братка, цяпер усё. Сьвет, можна сказаць, на бабе трымаецца.

*(Усе сьмяюцца)*

Юры—Сьцяпан!

Сьцяпан—А што?

Юры—А ліст ты адаслаў?

Сьцяпан—А як-жа даўным даўно...

1-ы калгасьнік—Так... цяпер, браточкі, жонкі, як табе сказаць, на тыя. У нас тут быў такі выпадак. Паехаў адзін хлопец у горад на работу, а жонку пакінуў у вёсцы. Ня быў ён нешта месяцы з тры ў хаце і што-ж ты думаеш? Прыяджае ў хату, а хата пустая. Дзе жонка?—А жонкі няма. Кінула хату, да да другога пайшла. Так цяпярся там жыве. А той пакруціўся, пакруціўся, ды зноў у горад.

3-ці калгасьнік—Мая жонка, канешня, не з такіх, як смала прыліпла. Зубамі не аддзяреш. Хай-бы, хай на яе ліха, да другога пайшла, а ня йдзе...

2-гі калгасьнік—Любіць значыць *(Да Сьцяпана)*. А ў таварыша брыгадзіра жонка ёсьць?

Сьцяпан—*(Сьмяецца)*. Няма. Шчэ думаю жаніцца...

2-гі калгасьнік—А можа і вясельле адгуляем. Быць можа таварыш брыгадзір, ды на брыгадзіршы жэніцца... Такую за жонку ўзяць, усёроўна, як за царыцу марскую ўладычыцу.

1-ы калгасьнік—На яе, я вочы заплюшчыў-бы, а сваю бабу прамяняў.

*Прыходзіць на дзялянку група калгасьнікаў.*

4-ы калгасьнік—Таварыш старшы брыгадзір. Дарога цяжкая. Ці нельга нашым коням порцыю павялічыць. Заганяем мы нашых коняй дашчэнту з гэстым лесам. По сьнегу з сілы выбіваюцца. Трэба было-б вам пра гэта дзе трэба сказаць.

5-ы калгасьнік—Усьцельку мокрыя. Проста ткі пашкадаваць коняй трэ'. Бедныя...

Сьцяпан—А мы ня мокрыя? А вы ня мокрыя?

4-ы калгасьнік—Яно то так...

Сьцяпан—Авёс выдае Леспром. Выдаецца-ж вам авёс. Ды нарэшце коням яшчэ з месяц перад вясною пастаяць час будзе. Ня такія ўжо й загнаныя ў вас коні. Вы гэта дарэмна.

1-ы калгасьнік — А ліха іх ня возьме. На жывой касьці мяса не расьце.

4-ы калгасьнік—Казалі, што боты прывезьлі.

Сьцяпан—У якасьці прэміі будуць выданы боты! *(сабе)* і ўвесь час спажывецкі настрой. Авёс—махорка—боты—авёс. І ад калгасьнікаў, і ад аднаасобнікаў—адно і тое. Праўда, гэта неабходнае. Але ўсё з такімі труднасьцямі прыходзіцца даставаць. Каб не Кавальчук націскаў там у горадзе—прапаў-бы. На заводзе ў нас ня так. Інакш-па іншаму...

*Юры і Сьцяпан адкатваюць сасну. Улятае агент Леспрому Радкевіч.*

Радкевіч—*(з газэтай у руках, хвалюецца).* Чуеш, таварыш Сьцяпан. Не магу працаваць. Працуеш, а тут яшчэ на, табе. Закусачка *(суе Сьцяпану газэту).* Я—шкоднік, я зрыўшчык, я, я, усё я і я... Я ведаю, чыя гэта работа. Ведаю. Я дам у газэту апраяржэньне. Я за паклёп гэтага пісаку аддам пад суд. Пад суд аддам. Дармо, што беспартыйны. Управу я найду. Я не магу.

Сьцяпан—*(глядзіць спакойна на гэтага маленькага чалавечка).* Заметку я чытаў і лічу...

Радкевіч—Ну, пасудзіце, як вы лічыце, скажыце?

Сьцяпан—І лічу, што заметка правільная. А вы Радкевіч, шкоднік. Вы перакруцілі дырэктывы партыі працуючы на месцы. Вы ледзь на сарвалі лесанарыхтовак. Вы да нашага прыезду спакойна чакалі вясны. Вы вярбавалі рабочую сілу няправільна. Так, вясны вы чакалі, разводзьдзя. Чакалі часу, пакуль пройдуць маразы і стапнее сьнег. А наш... завод чакаць ня можа. Ня могуць чакаць нашы завадзкія пілы. Вы чалавечак, вы маленькая шрубачка і вы не на месцы. Заметку пісалі: я і брыгадзірша Вера...

Радкевіч—*(зьдзіўлена).* Што пісалі вы заметку, магу паверыць. Але, што Вера Ігнацьеўна пісала, чалавек культурны—ня веру.

Сьцяпан—Вер, ня вер.

Брыгада падае бервяно на падводу. З усіх бакоў сходзяцца лесарубы-калгасьнікі пакурыць, да адпачыць. З розных бакоў выкрыкі: „перакурка"... „перакурка".

Архіпенка—І падумаць толькі, сам старшыня сена падпаліў.

1 калгас.—А скуль ты ведаеш, а можа і ня ён.

Крысько—Каб ня ён—не арыштавалі-б.

Архіпенка—Ня бойся, дарма не арыштуюць, прадаў мо' сена, а рэшту падпаліў.

2 калгасьн.—Ды пуня-ж нашая на ваччу. Плявузгаеш...

Крысько—Шчэ добра, што коні цэлыя.

1 калгасьнік—Ня верыцца мне, што вінаваты Дуб.

Архіпенка—Усе такія старшыні.

1 калгас.—Усе!

Архіпенка—*(сьмяючыся).* Не разумее жартаў. От дурыла! Хто-хто не за калгас. А я з тысяча дзевяцьсот трыццатага году ў калгасе састаю. Раней шчэ за цябе. Прымаў-жа я цябе ў калгас.

1 калгас.—Прымаў... А як прымаў?

Крысько—Як прымалася, так прымалася, як жылася—так жылася, як працавалася—так працавалася, як курылася, так курылася. А Дуб быў, ды здубіўся. А калгас быў, так скалгасіцца. От паглядзіце. Слова чэснае даю...

*Прыходзіць Сьцяпан.*

Сьцяпан—Бай-бай-бай! Перакурка, дык перакурка. Але-ж не на гадзіну. Давайце, давайце, таварышы, за работу.

Архіпенка—Мы, таварыш брыгадзір, па нормі. І жывем па нормі. І працуем па нормі. І ядзім па нормі...

*Архіпенка і Крысько бяруцца за пілу, падыходзяць да сасны, піляць. Піляць павольна, несьпяшаючыся.*

Архіпенка—Нядобрае чую.

Крысько—Відаць таму і ў лес пашоў.

Архіпенка—Ня пойдзеш—больш гутарак будзе.

Крысько—Праўленьне засядаць будзе сёньня. Перад чысткай.

Архіпенка—Па мойму—усё гэта работа цыгана.

Крысько—Чаго добрага пачысьціць...

Архіпенка—Я-б яму пачысьціў...

Крысько—Гады з тры таму, дык пачысьціў-бы. У сіле былі. А паспрабуй цяпер. Пачысьціш—кулак. На высылку раз, раз...

Архіпенка—А трэба так, каб шыта-крыта і мы—ня мы...

Крысько—Трудна. Па лес прыехаў, а ў нас парадкі хоча навясьці.

Архіпенка—Каб так гакануць, што мы—ня мы, а сам ён вінаваты.

*Валіцца сасна, крышацца гольлё. Водгульле пракацілася па лесе.*

Архіпенка—Яго-б вось так, паганца гэтага цыгана...

Эпізод дванаццаты.

Раньне. Лес. Зьбіраюцца лесарубы-калгасьнікі. Большасьць у ботах. Скідаюць у кучу кажухі. Разьбіраюць пілы, сякеры, разыходзяцца па лесе. Сярод лесарубаў Архіпенка і Крысько.

1 калгас.—Дзівы дзіўныя на сьвеце.

2 калгас.—Ого.

1 калгас.—Давёў. Дармо, што цыган.

2 калгас.—А цяпер, чаго добрага сельсавет і раскулачыць.

1 калгас.—І раскулачыць. А ты што думаў... Даўно пара.

2 калгас.—І не баіцца.

1 калгас.—Яму чаго баяцца. Ня кум, ня сват і ня брат.

*Прыходзіць Сьцяпан.*

Сьцяпан—Здарова, таварышы!

1 калгас.—Таварышу брыгадзіру! *(здымае шапку, вітаецца).*

Сьцяпан—*(разапранаецца).* Давайце, хлопцы, за работу. Атрымаў ліст з заводу. Нашы рабочыя дзякуюць вас за ўдарную працу.

2 калгас.—А мы ім за боты дзякуем! *(любуецца сваімі новымі ботамі).*

Да Сьцяпана падыходзіць Архіпенка. На твары ў Архіпенка лісьсяя ўсьмешка. Здымае шапку і ветліва вітаецца.

Архіпенка—Вы, вось выключылі нас з калгасу можна сказаць, а мы прышлі на работу... Такія мы, безабідныя. Усё савецкую ўласьць падтрымоўваем... Лес-жа вашаму заводу патрэбен. Ці няпраўда, таварыш, старшы брыгадзір.

Сьцяпан—*(суха).* Лес то патрэбен, гэта праўда, а з калгасу вас я не выключаў... Вас выключыў сход калгасьнікаў, як чалавека, які шкодзіў калгасу...

Архіпенка—Ну, што-ж...

Архіпенка бачыць ў руцэ Сьцяпана свой уласны кій, знойдзены Сьцяпанам у часе пажару. На твары адразу перапалох, зьбянтэжанасьць у рухах. Сьцяпан заўважае перамену ў настроі Архіпенкі, але не разумее з чага гэта сталася.

Сьцяпан—*(холадна).* Прышлі—станавіцеся на работу...

Сьцяпан—Давайце, хлопцы, паднацісьнем, каб сёньня высечы ўсю дзялянку.

3 калгас.—Пабольшаў дзень. Павінны скончыць.

4 калгас.—Павінны.

1 калгас.—Чаго тут доўга гаманіць. Бярыцеся за пілы.

Разыходзяцца лесарубы па лесе. Архіпенка і Крысько выбіраюць сасну. Сьцяпан закурвае, паглядае на Архіпенку. Углядае ў вачох Архіпенкавых ненавісьць да сябе няскрытную. Зьвіняць пілы. Веярамі рассыпаюцца апілкі. Час ад часу ў лесе чудно: „сьцеражыся"... „лягла"...

Больш яшчэ загарэліся вочы Архіпенкавы раптам! Шчэ напружней зазьвінела яго піла. Сьпіленая сасна валіцца. Крышыцца гольлё. І раптам вырываецца стогн. Усе лесарубы абарачваюцца. На тварах ва ўсіх „што здарылася", „якое няшчасьце".

Архіпенка—*(нібы ў адказ)*. Самі вінаваты... Сасна гаканула... Хутчэй ратаваць...

Архіпенка першым кідае пілу. Першы кідаецца па напрамку, дзе ляжыць прыдаўлены сасною Сьцяпан.

1 калгас.—Нічога я ня разумею. Хто тут вінаваты? Дуб—старшыня наш арыштаваны. Архіпенку і Крыську з калгасу выключылі, а Сьцяпан—цыган, старшы брыгадзір, пад сасною...

*Канец другога акту.*

## АКТ ТРЭЦІ

### *Інтэрмэдыя*

Цыганскі табар. Ясны, сонечны дзень. Вясна. У табары—вясельле Марты. Музыкі—скрыпач і цыган з бубнам неўгамонна - нясьціханна выігрываюць цыганскія скокі. Спачатку танцуе група старых цыганак. Затым скача група дзяўчат. Удзельнікі вясельля—табар, у такт музыцы б'юць у далоні. Гоман—вясельле. На сцэне зьяўляюцца дзьве вялікія падушкі. Іх кладуць у цэнтры—месца для маладых. Уваходзяць маладыя. Жаніх адразу садзіцца на падушку. Марта перш чым сесьці побач—выконвае танец нявесты, канчаючы яго ўклонам свайму жаніху. Бацькі становяцца з-заду маладых. Прасьціраюць над імі рукі — бласлаўляюць. У адзежы нават, ня кажучы пра гэсты відно—багацьце сям'і жаніха і беднасьць сям'і Марты.

Бацька Маркі—*(прасьцёршы рукі)*. Раз вышла так — няхай шчасьце не абміне вас... Няхай маё багацьце цяжка здабытае будзе багацьцем Маркі майго сына...

Бацька Марты.—Я бедны... багацьця я ня меў ніколі... *(прасьцёршы рукі)*. Я выгадаваў Марту прыгожай, працавітай нявестай... Я так шчасьлівы, што мая дачка спадабалася багатаму жаніху... Бласлаўляю вас... Блаславіце і вы, людзі, маладых... Як добра быць багатым—усё яму дазволена ў жыцьці...

Сумная Марта. За нялюбага замуж яе аддаюць. Любіла Ігната,— а прыходзіцца жыць з Маркай... Марта заплакала.

Група цыганоў з пугамі выконвае танец. У часе найбольшага ўздыму

*цёмна.*

*(Сьвятло прожэктару асьвятляе бальнічны ложак. На ложку сьпіць Сьцяпан).*

Сьцяпан—*(гаворыць праз сон)*. Ён, ён забойца... Марка забіў Ігната... Ён... *(вырываецца крык болю. Сьцяпан прачынаецца. Паўза.*

*Сьцяпан прыходзіць у сябе і ціха, ціха—успамінаючы).*—Даўно гэта было... На вясельлі Марты... Як усё сплялося... І трэба—сон такі...

На гутарку прыходзіць дзяжурная сястра.

Сястра—*(глядзіць).* Вы ня сьпіце?

Сьцяпан—Толькі што прачнуўся. Прысьніўся сон...

Сястра—*(сабе).* Брэд... павышаная тэмпэратура...

Сьцяпан—Чуеш сястра... сон прысьніўся... Хочаш я раскажу табе мой сон...

Сястра—Раскажэце.

Сьцяпан—*(гаворыць ціха).*—Ня сон прысьніўся мне, а ў памяці праз сон было адноўлена старое—жыцьцё ў табары... Ха-ха...

Сястра—Пра табор успомнілі...

Сьцяпан—Ага... Выпадак быў у табары ў нас... Даўным-даўно... Я быў хлапчук... Наш табар аддаваў цыганку Марту замуж за багатага цыгана... А Марта любіла бязроднага, бяздомнага беднага Ігната. А перад вясельлем зьнік Ігнат... Шукалі мы Ігната...

Сястра—Найшлі?

Сьцяпан—Я знайшоў... У лесе, у хмызьняку ляжаў скрываўлены Ігнат. Багаты Марка забіў свайго праціўніка і пераступіўшы праз труп нябожчыка ўзяў у жонкі прыгожую Марту з нашага табару

## Эпізод трынаццаты

Зіма. Рог гарадзкой вуліцы. Іграе катрыншчык. Праходзяць прахожыя. На рагу стаяць дзьве цыганкі, а трэцяя сядзіць і варожыць. Перад цыганкай—сялянка.

1 цыганка—Каму з вас пагадаць?

2 цыганкка—Праўду скажу, што было, што ёсьць і што будзе...

1 цыганка—Хадзі, маладзец, пагадаю...

3 цыганка—*(раскладаючы карты).* Быў няшчасны гадок, хадзяюшка для цябе,—сьмерць у доме... Многа ты пражыла, сьлёз праліла, а цяпер плачаш. І была ў цябе прапажа. І гэты год для цябе нешчасьлівы, а той год будзе шчасьлівейшым—паглядзіш, што я праўду гавару. Дай руку!..

*(Сялянка дае руку).*

3 цыганка—*(гледзячы на руку).* А жыць ты будзеш удавою трыццаць і тры гады—і шчасьце цябе не абміне. На старасьці год будзеш жыць лёгка і сьмерць у цябе будзе лёгкая—мяне ўспомніш.

1 цыганка—*(да прахожых).* Хадзі, хадзі сюды, пагадаю...

*(Прахожыя азіраюцца, усьміхаюцца і праходзяць).*

2 цыганка—*(да прахожага ў кажуху).* Хадзі, маладзец, пагадаю.

Мірутка сцыняецца, глядзіць. Нямая сцэна.

Мірутка—От чэрці паганыя, бабская вы душа! І спакою на вас няма, Гэта што такое? Мужы паехалі ў лес, з рабочаю брыгадай а вы ізноў за карты, варажыць. *(Да сваёй жонкі).* Ну, уставай, не пацярплю, ідзі да хаты. Дзяцей пакінула, пашла гадаць. Ну, ну, жывей... А вы—слупы, ці што? Няхай прыедзе Юры і Васіль—я раскажу як вы гадалі...

1 цыганка—Гадаць мне Юры дазваляе. На дом-камуну пай у нас яшчэ вялікі. Патрэбны грошы...

Мірутка—*(з дакорам).* Ударнік муж, а тут ударніца...

1 цыганка—Дык што з таго... А Юрага ты бачыў? Як там яму?

Мірутка—Прыедуць хутка ўсе. Ну, ну, пашлі... Ударніцы...

2 цыганка—*(да прахожай).* Хадзі, хадзі сюды, пагадаю з кім жыць будзеш, маладзіца...

Прахожая—Адчапіся...

Мірутка—Кажу—пашлі. Няма чаго стаяць на завугольлі.

Вінавата, з апушчанымі галовамі, нехаця ідуць цыганкі.

Ззаду іх—Мірутка.

Мірутка—Няхай прыедуць Юры і Васіль,—на сходзе слова далі вы не варажыць. Вы не шануеце сябе...

Вінавата ідуць цыганкі.

## Эпізод чатырнаццаты

Кантора заводу „Герой Кастрычніка", Габінэт дырэктара. Бухгальтэрыя—праз бар'ер шырокі калідор. Праводзіцца мэдагляд рабочых і служачых заводу. У габінэце доктар і доктарша праводзяць мэдагляд. Аглядаюць сакратара парткалектыву—Кавальчука.

Доктарша—На што скардзіцеся?

Кавальчук—Ды, можна сказаць, ні на што. Праўда, бяссоньніца дапякае. Прыходзіш дамоў, ня можаш заснуць...

Доктарша—Працягніце рукі...

Кавальчук—*(працягвае рукі, усьміхаецца).*

Доктарша—Зачыніце вочы...

Кавальчук—*(зачыняе вочы).*

Доктарша—Так... Сядайце. Нага за нагу...

Кавальчук—*(садзіцца).*

Доктарша—Зачыніце вочы...

Кавальчук—*(зачыняе вочы).*

У гэты момант урываецца ў габінэт цыган Мірутка.

Мірутка—Ледзь знайшоў таварыша Кавальчука!

Доктарша і доктар просяць Мірутку выйсьці.

Доктар—Уваходзіць нельга!

Доктарша—Выйдзеце, калі ласка!

Мірутка—Ды, няма часу выходзіць! Таварыш Кавальчук! Чатыры тысячы дзьвесьці бярвеньняў для нашага заводу на станцыі. Вось накладная. За прастой плоціць завод. Апранайцеся хутчэй!..

Кавальчук—*(апранаецца).* Добра! Добра! Пачакай! Пойдзем разам...

Мірутка—Пачакаю. Пачакаю...

Кавальчук—*(да доктароў).* Выбачайце, таварышы, няма часу аглядацца. Лесаматар'ял прымаць трэба. *(Да Міруткі).* Пашлі.

Доктар і доктарша паціскаюць плячмі.

Доктар—Прасіце наступнага...

Доктарша—Хто наступны—прашу...

У габінэт уваходзіць рабочы Гаеўскі. За ім зачыняюцца дзьверы. Сьвятло—у калідор заводзкай канторы. У калідоры група рабочых зборачнага цэху—Мельян.—першы рабочы, другі рабочы. Мельян расказвае рабочым пра сваё жыцьцё.

Мельян—...А многае перажыта: ой многае... Як пачнем успамінаць, усяго і ня ўспомніш. Нібы казка тая жыцьцё прайшло...

Ну, вось і арыштавалі мяне. Допыт здымалі. А я і не сказаў. Ня знаю і канцы ў воду... А дырэктара мы спрытна на тачцы, ды за браму, зьвіняюсь, у самае адліўное мейсца к мацеры выкінулі... Так вось, яно было. А потым праз год на гэты завод паступіў. І прадаў сябе гаспадару хітраму навекі, аж да магілы...

2 рабочы—Чым-жа ён хітры быў?

Мельян—Ты слухай. Хітры, кажу быў... Пашлі па заводзе чуткі, што гаспадар выклікае штодня да сябе ў кантору па аднаму рабочаму... Выклікаў ён і мяне.

Наплывам кантора гаспадара лесазаводу. *(Габінэт дырэктара).* Дубовы стол. За сталом гаспадар. На адным воку чорная павязка — пан Ванькові́ч. Перад гаспадаром стаіць Мельян малады з апушчанаю галавою.

Ванькові́ч—Я выклікаў цябе, пане Мельяне, па аднэй важнай справе...

Мельян—Слухаю!

Ванькові́ч--Ведаю я, Мельяне, што дзеткі ў цябе падрастаюць, што жыцьцё ты сваё апрадзяліць павінен, а як ты можаш апрадзяліць сваё жыцьцё, раз у цябе ні кала, ні двара, а сам, як гавораць, з жонкай, ды дзяцьмі, у гнілым сутарэньні жывеш...

Мельян.—Слухаю...

Ванькові́ч.—Ты, вось слухай, пане Мельяне! — Ты разумны чалавек і сталы. Будуй хату...

Мельян—Хату? Хату? Уласную? А грошы дзе? А зямля дзе?

Ванькові́ч *(сьмяецца).* І ўсё адно і тое. Адно і тое. А што, калі і табе, пане Мельяне і зямлю, і грошы, і матар'ял дам. Што скажаш тады?

Мельян—Тады... тады... слухаю.

Ванькові́ч—Сорак тры рабочых майго заводу ўжо заключылі са мною ўмовы. Умовы такія—даю ў чынш сваю зямлю, раз. Даю і лес—два. Трыста рублёў грашыма даю—тры. А з твайго боку ці ня ўсёроўна дзе і каму працаваць. Будзеш працаваць у мяне, а там паглядзім... Ты згодзен?

Мельян—Яно канешна.

Ванькові́ч—Трыста рублёў даю гатоўкай. Дзьвесьце рублёў каштуе лес на хату. Гэтыя пяцьсот рублёў ты павінен будзеш мне ўносіць роўнымі ратамі па пяць рублёў у месяц. За тое, што я табе пазычаю грошы, ты мне выплачваеш працанты. Глупства... Выходзіць дванаццаць капеек з рубля на год. Ты згодзен на такія ўмовы?

Мельян—На такія ўмовы? Ці згодзен? І зямлю, і лес, і грошы? Ці згодзен?

Ванькові́ч—І зямлю, і лес, і грошы. Я-ж ня цыган! Усьляпую не прадаю. Мы-ж свае, адзін бог у нас, а мы яго роўныя дзеці...

Зноў калідор. Мельян працягвае апавяданьне:

1 рабочы—І ты згадзіўся?

Мельян—Ня ведаў, што іду ў западню да пана Ванькові́ча. А ён злавіў. На дванаццаць гадоў хлопнуў, прадаў быў сябе аж да рэвалюцыі...

Мельян цяжка ўздыхае. Задумаўся, у памяці ўваскросла мінулае.

Мельян—Хату будаваў два гады. Грошай, канечне, не хапіла. Прыходзіў спрацаваны да хаты, браўся за сталярку. Перабраўся ў недабудаваную хату. Жонку прадуло, захварэла. Хварэла і памёрла. А сам з малымі астаўся. *(Мельян уздыхае, паўза).* Ажаніўся ў другі раз... Дзеці пасыпаліся на старасьці, але не даўгавечныя яны былі. Маці, жонка мая прачкаю была. Стузаецца за дзень у прачашнай, вочы на лоб выпірае, адпачыць ёй хоць крыху, а тут дзеці за спадніцу — трэба-ж есьці даць, ды на заўтра згатовіць — такое жыцьцё... Шэсьцера мела дзяцей мая другая баба, ды двух скінула, дзе ўжо тут пасьля прачашнай,—каб былі лёгкія роды... *(Мельян уздыхае).* Прышла вайна, сына старшага ў армію забралі. Астаўся з бабай. Дык вось яно якое было жыцьцё. Хоць кніжку пішы, каб умеў напісаць...

2 рабочы—Каму гэта цікава, няцікавая-б была кніжка...

Мельян—*(абразіўшыся).* Ой, не, не! Цікавая-б была кніжка кажу... Яшчэ якая цікавая. Бо ты паглядзі, усіх старых рабочых жыцьцё такое. Паганае жыцьцё было... Зразумеў я яго цяпер, раскусіў. А тады—у западню, на вудачку папаўся, закабаліў пан у кабалу, жылы мае высмактываў, ды харомы сабе будаваў, ды на воды езьдзіў... у нашай крыві купаўся.

Адчыняюцца дзьверы габінэту дырэктара. Выходзіць рабочы Гаеўскі.

Гаеўскі—Ну, Мельян—твая чарга.

Мельян—Дык ужо-ж! Прыдзецца схадзіць!

Уваходзіць Мельян у габінэт. Ветліва сустракаюць дактары Мельяна,

Доктар—Прашу, сядайце! На што скардзіцеся?

Мельян—Так ні на што ня скарджуся. Ногі слабаватыя толькі, ды ў паясьніцы па начох ломіць...

Доктар—Распранайцеся.

*(Мельян скідае кашулю).*

Доктар—Так. Колькі вам гадоў?

Мельян—За шэсьдзесят пяць!..

Доктар—На многа?

Мельян—Ды на гады са два.

Доктар—А на заводзе колькі гадоў працуеце?

Мельян—Можна сказаць, адзін са старых рабочых. Сорак гадоў, як працую.

Доктар—*(аглядае, а пасьля кажа доктаршы).* Паглядзіце вы. Расьцяжэньне вен, рэўматызм, склероз... *(Да Мельяна).* Можаце ісьці.

Мельян—*(апранаючыся).* Таварыш доктар. Адно папрашу. Ня пішэце, што я хворы. Ня хочацца мне ў інваліды. Можа яшчэ дасьць бог і другую пяцігодку адпрацую...

Доктар—*(сьмяецца).* У інваліды, не ў інваліды, а на курорт, на гразі, мы вам прыпішам...

Мельян—Ну, гэта, пажалуй і можна. На гразі не пашкодзіць. От на воды, дык паны езьдзілі, а мне і на гразі добра будзе. Бывайце.

Мельян выходзіць.

Доктар—Хто наступны?

## Эпізод пятнаццаты

Кантрольная будка пры браме дрэваапрацоўчага заводу „Герой Кастрычніка“. Зіма. У валенках ходзіць міліцыянэр. На паўголаса напявае песьню, ды падскаквае грэючыся.

Міліцыянэр *(падпявае).*

На вуліцы дым, дым, ды мяцеліца
Дзе-ж мае сэрца ды падзенецца...
На вуліцы дым, дым, ды мароз будзе,—
Дзе-ж маё сэрца начаваць будзе...

Стук у браму. Міліцыянэр перастае пець, падыходзіць да форткі, адчыняе. Ля брамы стаіць група цыган. Сярод іх пазнаць можна Сьцяпанавага бацьку—старога цыгана, матку Сьцяпанаву.

Міліцыянэр—Вам каго? Куды?

Цыган—На завод прышлі. Наймацца, а стары *(пакаэвае на бацьку Сьцяпанавага)*—сына шукае.

Міліцыянэр—Ці мала тут сыноў працуе. А працу ў нас заўсёды знайсьці можна. Многа ў нас з вашых працуе. Скажыце, хто ваш сын?

Стары цыган—*(голас дрыжыць).* Шэсьць год прайшло... Цяжкіх шэсьць год...

Міліцыянэр—Дакладна гаварыце, хто вам патрэбен.

Стары цыган—Шэсьць год прайшло... Цяжкіх шэсьць год, як кінуў табар мой Сьцяпан...

Міліцыянэр—Сьцяпан ваш сын?

Маці—Сьцяпан, Сьцяпан.

Міліцыянэр—Сьцяпанаў у нас шмат. Усіх ня знаю. Быць можа і працуе... Які ён з выгляду?

Да брамы са двара падыходзіць Мельян. Спыняецца.

Міліцыянэр—Сьцяпана нейкага шукаюць...

Мельян—Сьцяпана? Ёсьць, ёсьць у нас Сьцяпан. А вы адкуль?

Цыган—Сюды прышлі восьмы. Вось бацька, Сьцяпанава вось маці...

Мельян—Сьцяпана знаю я. Жывы, здаровы ваш Сьцяпан Працуе ў нас. Са мною жыў гады са тры. Як сын быў у мяне.

Маці—Дык дзе-ж ён, дзе?

Мельян—Вам прыдзецца чакаць. Сьцяпан паехаў брыгадзірам у лес—за лесам для заводу.

Стары цыган—Шэсьць год прайшло... Цяжкіх шэсьць год. Па сьвету езьдзіў табар наш, пакуль...

Мельян.—А што пакуль?

Стары цыган—Пакуль наш табар трапіў у Польшчу... Былі мы ў Пінску ў Бярэсьці, былі мы ў Горадні і Вільні, у Новагрудку, у Міры, усюды былі мы... Ня раз мы прабавалі прыехаць зноў сюды, ды ня пускалі нас палякі... А гэтаю зімой—галоднай сьмерцю засталося паміраць. Зьнішчэў увесь край... Рабункі і падаткі, ды голад пануе там... Ды не раскажаш усё адразу. Мы парашылі ехаць, будзь, што будзе. У восень шчэ было... Пачулі мы, што ў вас зямлю цыганам далі, што многа цыганоў працуе на заводах, у фабрыках у вас. Былі мы ў Вільні, у ваяводы, прасілі візу даць... А ён ня даў. Ды загадаў паліцыі нас ня пускаць у горад... Прышлося паміраць у лесе І дзеці амаль усе памерлі ад марозаў лютых ды з голаду... Дарос-

лыя—жывіліся канінай... І быў такі дзянёк—жывыя перайшлі дзяржаўную мяжу бяз візы. Парушылі закон... Вось я шукаю сына, я яны —шукаюць працы...

Мельян—Вось гэта так...

Цыган—А праца ў вас ёсьць?

Мельян—*(сьмяючыся)*. Каб у нас, ды ня было працы. Працы во сколькі, каб толькі хацеў працаваць... Працуюць у нас вашыя... Многа вашых у нас працуе. Ня дрэнна працуюць. Магу сказаць ударна працуюць і вучацца... І дзеці вучацца, і дом-камуну цыганы нашыя будуюць.

Стары цыган—Дык як-жа нам тут быць?

Мельян—Як быць? Што за пытаньне. Вось зараз пойдзем у сталоўку. Ня елі-ж вы відаць... *(сьмяецца)*. А сонца вышы елі... пад'ядзім, а пасьля пойдзем да Сьцяпана на кватэру. Яго пакой—са мною побач. У пасёлку. А заўтра з раніцы ў кантору і станеце на працу...

## Эпізод шаснаццаты

Пакой парткалектыву завода „Герой Кастрычніка“.

Старшы па лесапілцы—Ты прасіў, таварыш Кавальчук, падрыхтаваць сьпісы лепшых ударнікаў лесапілкі. Вось яны *(кладзе на стол)*. Вельмі брыдкая зьява—цыганская брыгада ў ліку першых... Па цыганскай брыгадзе заданьні выкананы за дзьве дэкады на сто і трыццаць процантаў...

Кавальчук.—У чым-жа ўглядаеш брыдкія зьявы?

Старшы—У тым, што цыганы ідуць наперадзе.

Кавальчук.—Чудзіла, ты чудзіла, інакш я не магу сказаць... Гэта якраз гаворыць аб адваротным. Мы часта недааацэньваем тых новых сіл, якія ідуць да нас...

Уваходзіць дырэктар заводу—Чаркас.

Чаркас—*(вітаецца)*. Ад Сьцяпана атрымана тэлеграма—пагружан лесам трэці эшалён.

Кавальчук—Вось гэта так. Чуеш? *(Да старшага)*. Мы часта недааацэньваем тых новых сіл, якія ідуць да нас. Колькі гутаркі было... Колькі прарокаў было... Колькі гаварылі... і нават партыйцы пра памылку Кавальчука... І ўсім прароцтвам цяпер грош цана *(да Чаркаса)*. Нават і ты сумняваўся ў тым, што Сьцяпан нічога ня зробіць—праўда?

Чаркас—Часткова.

Кавальчук.—А я ўпэўнен быў. Я вывучыў Сьцяпана. Настойлівыя і ўпартыя—адзнака іх становічага парадку. Адна бяда змагацца з ёю трэба—абмежаванасьць. Яе перамагчы павінны мы таварыскай увагай да цыганоў-рабочых. Дапамагчы пазбавіцца старога. Я знаў, з якой няпрыязьню маглі сустрэць іх на раёне. Лісты Сьцяпанавы гавораць мне пра ўсё. І ўсё-ж ня гледзячы на ўсё, Сьцяпан давёў. Канкрэтна прапаную:

— На ўрачыстым адчыненьні новага мэбельнага цэху прэміраваць гаспразьліковыя цыганскія брыгады. І мала гэтага—за кошт заводу бясплатна абсталяваць цыганскі дом мэбляй... Галоўнае—умовы для рабочых—адна са Сталінскіх умоў...

А за заставу, за барацьбу, за якасьць, за лес для нашага заводу прэміяваць Сьцяпана трэба.

Чаркас — Заставы на заводзе вынікі далі. У мяне цікавы матар'ял... Дадаўшы прэміяльную сыстэму да заставы, высокай якасьці мы дамагліся. Я сьмела цяпер перакіну ў экспартны цэх любую з завадзкіх брыгад...

Зьбянтэжаныя і неспакойныя прылятаюць у партыйны калектыў Міцька і бухгальтар Лялечка.

Міцька — Таварышы! Тут тэлеграма...

Лялечка — Тэлеграма тут.

Міцька — Ад Сьцяпана...

Лялечка — Ад Сьцяпана...

Чаркас — Якая тэлеграма?

Кавальчук — Спакойней не маглі?

Лялечка—ня знае што сказаць.

Чаркас — Давайце—давайце.

Чаркас бярэ тэлеграму, чытае, перадае Кавальчуку.

Кавальчук *(чытае).* У баёх за лес загінуў лепшы перадавік таварыш Сьцяпан. Сасна прыдавіла героя. Сьцяпан знаходзіцца ў раённай больніцы. На месцы праводзіцца следзтва. Выяжджаю на завод. *Вера.*

Нямая паўза.

Кавальчук — Нечаканасьць...

Міцька — Нечаканасьці ня бывае, таварыш Кавальчук. Усё законамерна... Учора я атрымаў ліст ад Веры. У лісьце яна піша пра Сьцяпана, пра лес... І мне стала брыдка за самога сябе і за мае нізкія, нават больш таго, нікчэмныя развагі...

Кавальчук — Сёньня склікаю партсход. Унечарговы партсход. Крыху ўскладніліся абставіны. На завод прышлі эмігранты цыганы, бацька, маці Сьцяпанава, а тут такая нечаканасьць.,. Як гэта здарыцца магло—сабе пакуль не ўяўляю.

Чаркас — Пра ўзнагароду гаварылі..., а тут...

### Эпізод семнаццаты

Завод „Герой Кастрычніка". Завадзкі двор. Адбываецца разгрузка лесу. Працуе брыгада цыганоў. Яны спрытна складаюць бярвеньні у штурсы.

1 Цыган — Ну, і лес... З такога лесу і золата рабіць можна. Смалістая сасна. Як звон...

Рабочы — Цешышся? Няма чаго цешыцца. Усёроўна вашу хату з такога леса ня будуюць і не пабудуюць, а што гаворыш золата рабіць можна—ты не памыляешся, золата і робім...

1 Цыган — Ты не падумай, што наш дом-камуна цыганская з горшага лесу. Не, сасна ў сасну...

Рабочы — Сасна ў сасну?.. Добра-ж вам.

1 Цыган — А хто-ж вінаваты?

Рабочы — Канешня, ня мы. Мо' думаеш, адмовіліся-б ад такіх кватэр? Мо' думаеш не прамянялі-б барак на дом-камуну? Тут вінаваты Кавальчук. У паліціку гуляе з вамі, таму і дом будуюць вам...

1 Цыган — Ты, братка кінь! Нічога ты ведаць ня знаеш. Ой-ёй, колька мы ўжо ў гэты дом сваіх капеек улажылі... Нас вось восьмера... Восем сем'яў было. У кожнага ўсёткі было сёе-тое. Адны рукі ў нас цяпер мазолістыя. Во...

2 Цыган — *(Гаворыць стоячы на штурсе бярвеньняў).* Чаго стаіш Марка. Праца бяз нас ня зробіцца. Давай-давай скарэй...

1 Цыган — Прымай! *(падае бервяно).*

2 Цыган — У часе работы языку волі ня давай.

1 Цыган — Ды ты ня злуйся,

Уваходзіць Чаркас і Кавальчук. Выгрузка лесу адбываеецца надзвычай шпарка. Бервяно за бервяном выплываюць з пляцформ, складаюцца ў штурсы. Дырэктар і Кавальчук усьцешана глядзяць на вынік работы Сьцяпана.

Чаркас — Ізноў кажу пра ноткі недавер'я. А сёньня бачу—лес ідзе. Прымай, брат лес. Сасна ў сасну.

Кавальчук — Такіх шалёных тэмпаў у дастаўцы даўно ня бачыў наш завод.

Чаркас — Цяпер упэўнен я—з прарыву выйдзем мы. На сёньня— матар'ял усё. Усё ён вырашае. І новы корпус пусьцім мы ў тэрмін. *(падыходзяць да рабочых).*

1 Цыган — Дырэктару дзень добры!

Чаркас — Здаровы, хлопцы. А сёньня выгрузіце?

2 Цыган — Як сказаць, можа й выгрузім, а ня выгрузім, на заўтра застанецца.

1 Цыган — Ды выгрузім, таварышок, выгрузім, абы было што выгружаць...

Сьвісток цягніка. Адзін рабочы мігам узлазіць на бярвеньні, углядаецца ў далячынь. Радасьць вырываецца з грудзей рабочага.

Рабочы — Новая пасылачка, таварыш дырэктар! Новая пасылачка, таварыш Кавальчук!

Паўза. Рабочы ўглядаецца ў далячынь.

Рабочы — Не пасажырскі, і ня скоры, і не таварна-пасажырскі. А таварны, таварышы! І пляцформы і вагоны! А на пляцформах, а ў вагонах—лес! І лес для нашага „Героя". А на цягніку, таварышы, чырвоны сьцяг. Значыць, чырвоны абоз! Ой, выбачайце, браткі, ня чырвоны абоз, а чырвоны ашалён. Лес ідзе!

Паўза. Рабочы ўглядаецца ў далячыню.

Рабочы — Ад Сьцяпана пасылачка, таварыш Кавальчук.

Галасы
— Ну, добра!
— Лес пашоў!
— Лес ідзе!
— Завод ня стане!

Выплывае апошняя пляцформа, гружаная бярвеньнямі. На пляцформе кандуктар у форме і Вера. Сьвісток.—Цягнік стаў. І раптам загула трывожная сырэна. З усіх бакоў на двор завадзкі лятуць рабочыя, пакінуўшы работу. На тварах усіх адно пытаньне—што здарылася? Перапытваюцца адзін у другога. Чутны крыкі: „на двор", „на тэрміновы сход", „на сход". Кавальчук і Чаркас вітаюцца з Верай, гутараць пакуль зьбіраюцца рабочыя. Праходзіць некалькі хвілін. Кавальчук становіцца на бярвеньні, здымае шапку, нэрвова камячыць яе ў руцэ, а праз хвіліну пачынае сход.

Кавальчук — Я склікаў вас на тэрміновы сход.

Галасы:
— У чым справа.
— Па што?
— Трывога...

Каапупаўнаважаны *(кулем прылятае, глядзіць—багата рабочых, з захапленьнем гаворыць).* От добра што народ амаль увесь сабраўся... Ня прыдзецца хадзіць мно па цахох... *(і раптам—да ўсіх).* Браточкі! Навіна ў мяне... Абвестка... *(бліжэйшыя павярачваюцца)* у наш рабочы зээрка прывезьлі мыла, прывезьлі боцікі і боты...

Кавальчук — Што там за шум... Цішэй таварышы... Увага...

Каапупаўнаважаны — Абутак будуць выдаваць... *(Да 1 рабочага).* Глядзі, не праваронь, прасіў-жа наказаць...

Кавальчук — Спыніце шум, таварышы...

2 Рабочы — *(голасна).* Сьвірыда кажа, што боты выдавацьмуць у закрытым піраціве... Запісвае...

Кавальчук — Таварышы... Я вас сабраў на тэрміновы сход... У маіх руках, вось, тэлеграма... *(паказвае. Зацікаўленасьць і ўвага).* Тэлеграма у мяне ў руках... З лесанарыхтовак...

Рабочы — Ад Сьцяпана?

Кавальчук — Я прачытаю тэлеграму, каб ясна было вам, як змагаюцца за пабудову сацыялізму. А рэшту раскажа Вера. Чытаю тэлеграму *(чытае).*

— У баёх за лес загінуў лепшы перадавік таварыш Сьцяпан. Сасна прыдавіла героя. Сьцяпан у раённай больніцы. На месцы вядзецца сьледзтва.

Цяжка ўздыхнулі рабочыя. Усёй масай. Пачалі здымаць шапкі.

Кавальчук — Шапкі здымаць ня прыходзіцца, таварышы! Сьцяпан жывы! Але Сьцяпан сёньня з нашага строю выбыў. Замяніць нам усім Сьцяпана трэба, таварышы.

Голас — Загінуў.

Кавальчук — Слова мае таварыш Вера.

Вера — *(цяжка ёй).* Таварышы! Усёадно, што бацьку, ці брата страціла... яшчэ некалькі дзён таму мы ішлі са сходу. Па дарозе мне Сьцяпан вельмі многа гаварыў пра сваю сям'ю. Успамінаў пра сваіх бацькоў. Хацеў быць разам з імі... А гэтага ніколі ня бывала з ім. Так вось, слухайце... Два месяцы наша брыгада змагалася за лес. Нам ня страшны былі ні маразы, ні мяцеліцы. Сьцяпан, я, уся брыгада пабальшавіцку ўзялася за працу. Мы мабілізавалі ўсіх калгасьнікаў на барацьбу за лес. Калгасьнікі, арганізаваныя намі ў брыгаду лесарубаў, змагаліся так, як і вы на заводзе. У калгасе дапамаглі мы выкрыць кулакоў, іх перамаглі, і змагаліся далей... І раптам Сьцяпана прыдавіла сасна... Магло быць горш. Сьцяпан жыве. Такія, як Сьцяпан—патрэбны нам! Яны ня маюць права паміраць. Вось, што хацела вам сказаць...

*Паўза.*

Мельян — Дай прапанову.

Кавальчук — Мае слова таварыш Мельян.

Мельян — Коратка скажу—любіў Сьцяпана я. За сына роднага ён быў. Я прапаную...

Мельян заўважае, як адна з цыганак—работніца сталоўкі, адразу-ж на бярвеньнях раскладае карты.

Мельян — Ды ты не варажы... Жыве-ж Сьцяпан...

*Паўза.*

Мельян — Коратка скажу. Пашто гаварыць доўга. Вось гэты эшалён я называю іменем Сьцяпана і прапаную разгрузіць яго адразу. Найлепшая пашана будзе для Сьцяпана. Мельянава брыгада пакажа

прыклад, сілу. А ну, хлапцы, з маёй брыгады, хадзіце да мяне! Прымайце бервяно!

Мельян лезе на пляцформу, бярэцца за бервяно і спускае з пляцформы адзін канец.

Кавальчук — Прапанова правільная, таварыш Мельян. Справаю, тэмпамі, змаганьнем пакажам усім як змагаемся мы за вялікі ленінскі плян.

Кавальчук і Чаркас уключаюцца ў работу.

Мельян — Гэта і будзе наша пастанова.

Голас — Няма лепшай пастановы, чым ударная праца!

Галасы:
— На заводзе!
— На фабрыцы!
— У цэху!
— У калгасе!
— У лесе!
— На полі!
— На балоце!
— Усюды—усюды!..

Голас — Бо нашая праца—справа гонару, геройства і славы.

*Канец.*

Ліпень 1931 - сакавік 1932 г.
г. Менск

Пятро Глебка

# Эма

Можа казкай цябе назавуць,
непачатая
мая поэма,
будзе слухаць гаворку тваю
гераіня маленькая Эма.

Засьмяецца з выгадкі скупой,
а ці бровы нахмурыць сур'ёзна—
я пра лёс не гадаю твой,
бо і лёс надзвычайна розны.

Мы гаворым:
— Гамоняць палі
віратлівым прыбоем калгасным...
А нашчадкі запішуць калісь
нашы словы
як дзіўную казку.

Мы гаворым звычайна у слых:
— Наступіла камуны прадвесьне...
З гэтых слоў,
як жыцьцё, дарагіх
зложаць некалі дзіўную песьню.

Разнастайны на колеры лёс,
але ўчуюць нашчадкі ў наступным
у дзіцячых усьмешках да сьлёз
крокі нашай эпохі чыгуннай.

Бо мы гневам змаганьня гарым,
сілай мужнай ударнай дэкады,
а усьмешкай вясновай зары
усьміхаецца нашая радасьць

Няхай казкай цябе назавуць,
непачатая
мая поэма,
разьвінаю аснову тваю,
песьню мужнае сілы пяю
і усьмешку маленькае Эмы.

* * *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць першы год.
Студзень. Сівер. Зіма.

Вецер салому зьмяў,
вецер салому растрос,
холадам вецер прарос
у цёмным гнілым хляве.

Курчыцца,
як чалавек,
сагрэцца ня можа цялё.
А вецер—
яшчэ налёг,
а вецер—
праз шчыліны сьцен і дзьвярэй
за горла жыцьцё бярэ.

Вышаў з хлява гаспадар,
патушыў самадзельны ліхтар,
пастаяў,
запаліў ізноў,
моўчкі у хлеў увайшоў,
на рукі падняў цялё.

Глянула матка здалёк,
бегма падбегла да госьця,
лізнула ласкава хвосьцік,
лізнула яшчэ капыткі,
папрасіла вачыма:

— Пакінь,
пакінь мне дачушку маю,
я ў салому яе спавію,
я прыгрэю яе сваім целам,
выліжу лобік белы.

Гаспадар не паслухаў слоў,
гаспадар забраў цялё,
вышаў з хлява гаспадар,
патушыў самадзельны ліхтар.

* * *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць першы год.
Студзень. Холад. Ноч.

Нехта лёг
каля ног,
нехта цёплы,
касматы,
як воўк...

Эма ножкай пагладзіла шоўк,
перабегла па целе шчыкотка,
узьнялося дзяўчо на ўзлакоткі—
штосьці ў змроку ляжыць на палку;
— Можа воўк прыблудзіўся адкуль?

— Мама!—
шэпча спалохана Эма,—
— Паглядзі,
у нас страшная мэма!

Зьсьмяялася маці:
— Хавай галоўку!

Запаліла на гзымсе газоўку.
Палахліва пабегла сьвятло,
бліснуў белы цялячы лоб.

— Бачыш мэму,
мая дачушка?
Гэта-ж наша малая цялушка!
Холадна ёй у хляве...

— Дык няхай яна з намі жыве,
мы нагрэцца палезем на печ...

— А яна
не пакрыўдзіць цябе?

— Не!—
саскочыла Эма з ложка,
узагнала цялушку на ножкі,
пагладзіла белую лысінку:

— Цялушачка мая,
кісінька!

Так пазнаёмілася
з цялушкаю Эма,
і гэта—
пачатак
маёй поэмы.

* * *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць трэці год.
Дванаццаты дзень вясны.

Сьняцца Эме прыгожыя сны
залатога маленства,
як песьні,
сакавітыя на прадвесьне.

Але існасьць
над сном усплыла—
чуе Эма матулін плач.

— Раскажы,
дарагая,
чаго ты?

— Атруцілі мяне клапоты...
Ты ня знаеш,
мая дзяўчынка,
гаспадарскай тугі і кручыны.
Яна каменем цяжкім на плечы
апусьцілася ўчора увечар...

Пачыналася летась вясна,
людзі вышлі палетак падняць
ад зімовага
доўгага сну,
яны радасна стрэлі вясну.
Толькі наша істужка-палоска
дзірваном зарастала за вёскай.

І ня выцерпеў болей бацька,
пакланіўся багатаму дзядзьку.

— Узары і засей палетак,
мы адробім табе за гэта...
І за гэту кулацкую „ласку"
Петрык лета служыў падпаскам,
працавалі мы дні і ночы,
ад натугі вылазілі вочы,
ад зьвярэды дрантвелі рукі
і згіналіся плечы крукам.

Але доля прышла і да нас—
далі ў воласьці нам каня...

А цяпер,
дарагая дзяўчынка,
зноў адолела нас кручына,
зноў на поле прышла вясна—
трэба-ж мець да каня і снасьць...
Бацька вывеў на продаж карову...

Уздрыгнулі шырокія бровы,
страпянуліся вейкі-крозы,
зазьвінелі буйныя сьлёзы.

— Дык чаго-ж ты,
матулька,
плачаш?!

— Над жыцьцём тваім,
дзетка,
жабрачым:
зноў сухі будзе хлеб,
дачушка...

— Дык-жа ў нас засталася цялушка!
Я сама павяду на пашу
маладую кароўку нашу,
яна вырасьце хутка,
як бачыш...
А ты, мамка, чагосьці плачаш?!

Усьміхнулася горка маці:
— Што-ж ты скажаш
такому дзіцяці!

* * *

Тысяча дзевяцьсот
дваццаць чацьверты год.
Раніца. Верасень. Восень.

Вецер над полем галосіць,
вецер праймае наскрозь,
студзіць і цела і кроў.

Холадна босай дзяўчыне,
твар аж да чорнага сіні,
рукі малыя пакрэплі...

— Выгляні,
сонейка,
ветла,
высьвеці,
сонейка,
цёпла,
яснае
выйдзі на поплаў!

Марныя толькі упросы—
ходзіць над пожняю восень,
хмарныя зьвесіўшы крыльлі,
сонейка імі укрыла.

— Хай сабе,
хай сабе ходзіць,
думак яна не пашкодзіць,
сэрца яна не астудзіць,
хай сабе,
хай сабе блудзіць!

Цешыць дзяўчыну надзея;
будуць зімою завеі,
пойдзе дзяўчына у школу,
будзе у хаце вясёласьць—
стане цялушка маткай,
пойдзе вясною у статак.

— Дык-жа старайся,
сястрыца,
жвава скубі ты травіцу!

Гладзіць дзяўчына цялушку—
лысінку,
вочы
і вушкі.

Холадна босай у ногі,
вецер шуміць на дарогах,
вецер халодны скаголіць
над абязьлюдзелым полем.

Пэўна чытач ужо сам
дзеўчынку гэту пазнаў:
мы ёй далі у поэме
імя прыгожае Эмы.

(Канец будзе).

Аркадзь Куляшоў

# КРЫЗІС

## Сацыял-дэмакрат

Яшчэ не растаяў пах сігар,
у попелцы гас агарак,
Калі падышоў да стала качагар
і вытрас дым качагарак.
— На сухоты хварэе мой меншы брат
і дзеці калеюць у хаце...
Падняўся з крэсла проф-бюракрат,
прапанаваў:—Сядайце!
— Сягоньня ў працы адмовілі мне
і я дачакаўся галоднай кары...
— Як толькі пракляты крызіс міне
і Таварыства прадасьць тавары...
Наступіць эпоха вялікіх мар...
і проф-бюракрату—казаў качагар:
— У бацькавай хаце быў той-жа холад,
скрыпела пад тымі-ж вятрамі хата,
Як выпраўлялі мы ў паход
старэйшага майго брата.
Ён прайшоў дванаццаць расійскіх рэк,
сам кіраваў батальённым боем,
Трыццаць рускіх рабочых засек
і вы яго звалі героем.
Але праз год ён казаў:—Салдаты!
Расійскі паўстаў салдат!
Здрадзілі нам сацыял-дэмакраты!
Садзіцца ў крэсла проф-бюракрат
і доўга глядзіць у справы:
— У вастрозе згніе ваш старэйшы брат—
ён вораг нашай дзяржавы.
Ваш брат бальшавік,
ваш брат асьлеп:
Не краіна Саветаў,
а кулацкі Нэп!
Даведзена:
капіталізм—СССР,
Сацыялізм—
Эўропа!
Ткач падышоў і—глуха:—Гэр,
вы зьнізілі наш заробак!
Сястра мая за грахі чые
заклікае начных гасьцей?
Тупыя, галодныя вочы яе
за чорную сьмерць чарней!

— З голаду пухнуць дзеці мае,
я дваццаць год працаваў
качагарам!
— Як толькі пракляты крызіс міне
і Таварыства прадасьць тавары...
Наступіць эпоха вялікіх мар...
Падняўся з крэсла стары качагар:
— Ты нам не прароч рай,
Веры ня будзе табе сабакар!
— Мы пачынаем штрайк!

17-18/II-1932 г.

---

## КРЫЗІС

Хвалі білі яму ў бакі
на захад плыў параход.
Сёмыя суткі раўлі быкі,
раўлі і глядзелі на ўсход.
На восьмыя—рык бычыны сьціх
і золак чужы займаўся.
З далёкай калёніі везьлі іх,
каб потым рэзаць на мяса.
Але покуль іх даглядаў матрос
і афрыканскі нэгр трывалы
Старую Эўропу крызіс патрос
звалі яго—
крывавы.
Банкроты банкіры—каралі,
Эўропы патрыархі
Крычалі ва ўсе канцы зямлі:
— Анархія! Анархія!
А той, што бяз працы застаўся—ткач
на могілкі вёз сястру,
І жонка казала яму:—Ня плач!
ты сам скамянеў, як труп!
А той, што банкротам стаў—банкір
маліўся ў саборы богу,
І тыя, каго ён згадаў—быкі
ўчулі тады трывогу.
І вось капітану грашовы туз
Анархія! Анархія!
Шле тэлеграму:—Зьнішчайце груз!
Анархія! Анархія!
— Затопім!—яму адказаў капітан.
І бык зламаў сабе рог.
Завыў, зароў стары акіян
ад шаленства і ад трывог.
А нейкі матрос, вар'ят—не вар'ят
закрычаў і нагамі пратопаў:
— Сьвятая гара Арарат,
ратуй іх ад патопу!
Калі разгружаны параход
па хвалях меў перагар,
Выцершы з твару чорны пот,
качагару сказаў качагар:
— Загружаны рынкі гніе тавар
Анархія! Анархія!
А мы галадаем з табой таварыш!
Анархія! Анархія!

26-27/II-1932 г.

Макар Пасьлядовіч

# Хада ў заўтрае *)

*Аповесьць*

Зробленыя з тонкіх аполкаў сходцы трыбуны жалобна рыпяць, калі па іх цяжка ўзыходзіць наверх сакратар сельпарткому Мацьвей Юрчык. Ён ступае цьвёрда і ўпэўнена, як стары, спрактыкаваны жыцьцём, мядзьведзь.

Крыху ў бок ад трыбуны, ля зьветраных сьцен школы, парадкуе шумлівыя шарэнгі вучняў Ладуцька. Яму памагае высокі, худы і смуглявы старшыня вучкому Андрэй Сялівончык.

Калгасьнікі і аднаасобнікі—сотні шырокіх плеч, маўклівых, напружаных чаканьнем вачэй—шчыльнай, непраніклай сьцяною непарушна зрасьліся з выцерабленай ад травы зямлёю.

— Таварышы!..

Натоўп узрыгануўся, як ад электрычных іскраў, што рэзка працінаюць прытоеныя пачуцьці.

З краю, там, дзе прыніклі да мужчынскае лавы жанчыны, пачынае дрыжэць плачам голас жонкі Чубіка. Таго ўжо даўно паімчалі на парцы коняй у раён.

— Таварышы!..

Цьвёрдым крэменем слова выскрабае Юрчык агнёвыя іскры ў галовах людзей, якія сабраліся сюды з усяе вёскі. З дальніх канцоў Поўначы і Поўдня прыімчаліся верхам на конях.

Ён кідае важкія, як удары цяжкога кавальскага молата, словы на спружыністую распаленую цішыню. Ён успамінае п'янае, турботнае, патлівае цяжарам работы і адвечнага дзікунскага ладу жыцьцё старой вёскі. Цемень, няпісьменнасьць, галоднае нябыцьцё і зьверскую эксплёатацыю мас групкай прагных да багацьця кулакоў. Ён гаворыць пра дні Кастрычніка, які ў жорсткіх баёх рабочае клясы і працоўнага сялянства з уладай капіталу нарадзіў у старой Расіі новы сацыялістычны лад. Дні бязьлітаснага змаганьня з белымі генэраламі, драпежнымі чужаземцамі, польскімі акупантамі і бандамі Балаховіча паўставалі ў галовах непазабыўнай карцінай. Ён гаворыць аб прадажніцкай палітыцы нацыянал-дэмакратаў, прышчэпаўцах, якім адзінства працоўных мас нанесла сакрушальны ўдар. У краіне саветаў напорыстаю воляю рабочай клясы, калгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў узьнімаюцца над зямлёю новыя, нябачныя раней волаты заводы і фабрыкі, вырастаюць новыя гарады. Ён гаворыць пра Магнітагорск, Сталінградзкі і Харкаўскі трактарныя заводы, Ніжагародзкі аўтагігант, Асінстан і Днепрабуд, пра „518“ і „1040“, якія ўступілі і ўступаюць сёлета ў баявыя рады сацыялістычнага наступу на тэхнічную адсталасьць. У нас не хапае кваліфікаванай рабочай сілы, а замежамі дзесяткі мільёнаў беспрацоўных, эканамічны крызіс, галеча і голад. На адной шостай частцы мы робім найадважную

*) Гл. № 3.

справу, якое да нас яшчэ ніхто не пачынаў. Мы расьцем у эканоміку, у культуру, мы зьмяняем твар зямлі і перарабляем стары быт. Мы паказалі і паказваем замежным рабочым і працоўным сялянам выхад з пад уціску буржуазіі. СССР—ударная брыгада сусьветнага пралетарыяту...

Людзі бліжэй падступаюць да трыбуны. Моўчкі слухаюць, ловяць вачыма ўсе рухі Юрчыка: як вострай сякерай, косіць рукою ён трухлявую праўду капіталістычнага ладу. Недзе прытаілася сярод жанчын са сваёю бядою Надзя Чубік.

— Рост, якога ня ведала і Амэрыка, індустрыі СССР прымусіў перабудавацца дробную гаспадарку. Дробная гаспадарка ня здольна забясьпечваць сацыялістычную прамысловасьць сыравінаю, а рабочых—прадуктамі. Корпаючыся на дробнай гаспадарцы, бядняк ніколі ня вылезе з нуды і галечы. Толькі праз буйную калектыўную сельскую гаспадарку можна поўнасьцю задаволіць патрэбы фабрык і заводаў сыравінаю, а тых, хто на іх працуе—пражыткам. Толькі калектывам можна будаваць на вёсцы новае сацыялістычнае жыцьцё. Беднякі і серадняки гэта зразумелі. Бядняк і серадняк стаў і становіцца на шлях калгасаў.

— Але і тут,—голас Юрчыка цьвярдзее на крэмень,—мы сустракаем шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў. Кулак, які трымаў у сквапных кіпцюрох вёску, ня хоча бяз бою здаваць пазыцыі. Раней ён агітаваў супроць арганізацыі калгасаў. Бо калгас—пагібель для кулака. Ён падпальваў будынкі беднякоў, страляў у цемені па актывістых. Там, дзе кулакі ня выяўлены і не раскулачаны—засьмечанасьць калгасаў. Прабраўшыся ў калгас клясавы, вораг падрывае яго з нутры: агітуе супроць зьдзельшчыны, за ўраўнілаўку і абязьлічку, распальвае спажывецкія настроі, займаецца шкодніцтвам. Адсюль—невыкананьне плянаў, падрыў таварнасьці, зьмяншэньне прыбытка ў калгасьнікаў. Ці-ж будзе такі дрэнны калгас паказам для бедняка і серадняка—аднаасобнікаў, дзе іх дарога? Кулакі, падкулачнікі і тыя, хто ім патурае і дапамагае—апартуністыя—падрываюць гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, загараджваюць дарогу калгаснаму прыліву, перашкаджаюць нашай хадзе ў заўтрае новага жыцьця. А хто робіць нам перашкоды—той ня наш! Той вораг! Выяўляць і выганяць такіх з нашага асяродзьдзя! Каб бесьперабойна працавалі калгасныя машыны, каб небясьпека больш не пагражала Чубікам... Ніхто ня спыніць таго будаўніцтва, якое распачала і пасьпяхова праводзіць партыя бальшавікоў...

Ён канчае прамову і моўчкі зноў рыпіць цьвёрдаю цяжкай, як трактар, хадою па тонкіх сходцах. Цяпер будзе гаварыць Колер. Яны пра гэтае дамовіліся раней: ля Юрчыка нэрвова тупае аднаасобнік, серадняк Кастусь Таўкач.

— Каб мне што сказаць...—кідае ён вачыма на трыбуну.—Якіх дзесяць слоў...

Прашываюцца да сакратара сельпарткому брыгадзір будаўнічай брыгады Ясючэня, Канаплянік. Выдзірае сьціснутую людзьмі крысу жакеткі Бабоўскі.

— Наша сіла, наш рост—у адданай дружнай рабоце,—кідае зьверху Колер. Цесная згуртаванасьць калгасьнікаў, беднякоў і серадняков аднаасобнікаў вакол партыйнай ячэйкі,—перамогуць усе цяжкасьці. А іх у нас, пры такім разгорнутым будаўніцтве, шмат. Партыя ніколі іх не абыходзіла, а адкрыта паказвае на іх, каб з большай

упартасьцю ісьці да новых перамог. Кулакі стараюцца гэтых перашкод натварыць яшчэ больш, падрываюць і тое, што зроблена. Але хіба спужаецца калектыў больш як у сто гаспадарак агідных клясававарожых выступленьняў адзінак?

Колер гаворыць пра свой завод, пра тое, як па віне падрыўшчыкаў, апартуністых ён ішоў да ганебнага прарыву. І як потым, пад кіраўніцтвам партарганізацыі, пасьля ачысткі шэрагаў рабочых ад чужых людзей, ударнікі пачалі браць вышыні прамфінпляну. Самакрытыка, сацыялістычнае спаборніцтва зноў вярнулі завод у рад перадавых прадпрыемстваў...

Ён перагінаецца з трыбуны.

— А хіба ў вас няма тых, з каго па ўдарнай рабоце трэба браць прыклад? Ёсьць! З кім трэба раўняцца ўсім калгасьнікам: ці з тымі, хто выбірае бульбу з пяці сотак, ці па тых, хто сёньня дае восем сотак?

Колер змоўчаў і выпрастаўся. Здавалася, чакаў адказу, патрабаваў яго ад людзей, якія сталі на калгасны шлях.

— Ён пра Зосіну брыгаду гаворыць,—зашумеў мітынг.

Ясючэня, бацька Зосі, нізенькі паджылаваты калгасьнік, пачаў клопатна аглядаць натоўп. Заўважыў Сьцяпана Лявіцкага, стальмаха, і пазваў яго пальцам да сябе. Дастаў яшчэ праз плячо суседа Міколу Размысловіча, цесьляра, маладога хлапца.

— Як гэта, каб нам тут сказаць, калі мы, як добра ўзяцца, можам скончыць першы сьвінарнік і аформіць другі?

— Каб з усёю брыгадаю пагаварыць...—пачаў Размысловіч, зьбянтэжаны такою выдумкаю старога. — Цяпер-жа нас не чатыры, а дванаццаць чалавек.

— То склікай іх хутка пад школу. Я ўжо туды іду.

Зноў рызыдаваў голас Колера:

— Сёньня мы павінны вынесьці рашучы пратэст супроць кулацкіх нападаў. Сёньня мы павінны патрабаваць ад сьледчых органаў тэрмінова расьсьледваць і выявіць тых, хто падкладае пруцікі ў колы калгаснай вытворчасьці. Суд павінен сурова пакараць вінаватых. А нам самім трэба быць больш пільнымі.

Ён ставіць перад калгасьнікамі неадкладныя задачы:

— На полі дзесяткі гектараў бульбы. Усе на выбарку! Ніводнага калгасьніка не павінна застацца дома. За тыдзень скончыць малацьбу. Здаць дзяржаве ў тэрмін бульбу і хлеб! Як мага раней скончыць сьвінарнікі і выканаць пляны камплектаваньня ў першую чаргу за лік сьвінога пагалоўя ад саміх калгасьнікаў. Камсамольскай ячэйцы засіласаваць усё націньне буракоў і капусьніку.

— Таварышы,—пытае нейчы голас.—А сёньня сход калгасьнікаў будзе?

Колер сьпяшаецца адказаць:

— Будзе, будзе.

— Аднаасобнікам можна прыйсьці?

— А як-жа! Гэта не калгас, што адгароджваецца ад беднякоў і серадднякоў—аднаасобнікаў.

На трыбуну лезе Сітнік. У руках—скручаны прагнымі цапамі, высьлізганы грызьнёю жалеза, акрываўлены скручаны грубы дрот.

— Во дзе быў падкоп,—глуха паўтарае, выказаныя раней ля малатарні думкі.—Падкоп пад калгас, пад Чубіка, пад усіх нас.

Чубікава жонка, згледзеўшы прычыну цяжкага раненьня Майсея, зноў пачынае енчыць. Шумнымі галасамі супакойваюць яе суседкі. Усё гэта, як пугаю, падсьцёбвае Сітніка.

— Пусьцілі гадзюк у калгас, дык яны паказалі шкодніцкае джала. А наш Зьмітровіч, думае, што ўсё гэта—хаханькі. Дык гарнастайчыкі і кладаўшчыкі як дома раскашаюцца. Кулацкую агітацыю праводзяць, сукіны сыны,—канчае ён высокім усхваляваным голасам.—Я ўсё скончыў. Можа хто больш скажа,—дадаў, асьцярожна злазячы з ходкай трыбуны. Потым, ужо стоячы на зямлі, крычыць:

— Растраляць гэтую пэшкудзь!..

Блізка вучняў, прыпёршыся плячыма да сьцяны школы, горача спрачаецца з людзьмі будаўнічай брыгады Ясючэня. Ладуцька з заклапочаным выразам на твары нешта мяркуе са старшынёй вучкому.

— У адказ на вылазку клясавых ворагаў па-ўдарнаму, за тыдзень, засіласуем усю зяляніну, — зьвініць над галовамі голас Бабоўскага. —Кожны камсамолец абвясьціў сябе ўдарнікам па камплектаваньні сьвінаматак. Зося Ясючэня абяцае выбіраць штодзень па восем з паловаю сотак бульбы...

Як грозны судзьдзя пачынае сваю гаворку аднаасобнік Кастусь Таўкач:

— Хіба гэта работа—выбіраць за дзень чатыры-пяць сотак, як робяць некаторыя калгасьнікі? Гэта—падрыў. Вы корпаецеся і думаеце, што ніхто ня бачыць? Не! Мы, аднаасобнікі, добра цікуем, што і як у вас робіцца! І хіба гэта работа—выбіраць чатыры соткі?—не адставаў ён ад калгаснай бульбавыбаркі. І раптам пачаў страшыць:— ламяне праз які тыдзень мароз, дык усяму вашаму бульбяному ўраджаю будзе алог. Хіба гэта работа? А што гэта за распанельства— узваліць зябліваe ворыва толькі на трактар, калі калгасныя коні цэлыя дні падбрыкваюць на выгане?.. Мы цікуем усё!

Потым ен паніжае грозны тон:

— Бульбу трэба выбраць. Не гаспадарская справа, каб яна засталася ў зямлі. Сорам будзе і калгасьнікам і аднаасобнікам. Я сёньня выпраўлю сваіх баб. А сам на сьвінарнік—Ясючэні дапамагчы. І другія не адстануць.

Таўкач дапытна ловіць погляды аднаасобнікаў:

— Дапаможам?

— Ты менш гавары, а больш рабі!—абзываецца Яўхім Чарняк. —Хіба я калі адмаўляўся? Трэба хутчэй канчаць мітынг, а то ўвесь дзень скруцім.

— Ну, і добра. Дык я канчаю,—згаджаецца Таўкач і здаволены выказанымі думкамі і прапановай аб дапамозе злазіць з трыбуны.

Ясючэня ня лезе па ўсходцах. Ён, стоячы роўна, як у вайсковым радзе, гаворыць:

— Дык мы згаварыліся: насупраць ахвоты падрыўшчыкаў, першы сьвінарнік абсталяваць як мае быць за чатыры дні. Другі канчаем да дзесятага лістапада. Кожны з мае брыгады дабраахвотна здае на фэрму па адной сьвінаматцы. Дзесятага лістапада на сходзе робім справаздачу пра выкананьне ўзятых абавязкаў. Выклікаем на спаборніцтва сьвінарнік...

Юрчык чытае сьпешна напісаную рэзалюцыю мітынгу-пратэсту. Словы важкія, як удары кавальскага молату, падаюць з трыбуны.

— А цяпер на поле, штурмаваць прарывы!—магніціць ён людзей, скончыўшы чытаць рэзалюцыю.

Разам з бацькамі разыходзяцца і школьнікі. Апярэджваюць падбегам старэйшых, каб схапіць кошык, вядро.

Шумліваю гурбою падаюцца камсамольцам на поле—абрываюць бурачнае націньне.

Юрчык і Колер ідуць у сельсавет.

— Сёньня гадзіне а трэцяй трэба склікаць бюро ячэйкі,—рашае сакратар сельпарткому, цяжка ступаючы па зьвільгочанай зямлі.—Пытаньні тыя, што мы з табою дамовіліся: Новіку даць вымову. Будзе добрым сакратаром Раманчук. Зьмітровіча і Баравіка за апартунізм—вон. Даволі ўжо цацкацца!

Ён паскарае хаду.

— Колькі ні папярэджвалі—не дапамагае. Адбаярваюцца толькі абяцаньнямі. На іх месца прыдуць новыя, дзейныя людзі.

— Калі прыедзе Раманчук з раёну?

— Заўтра пад вечар. Раніцай будзе бюро райкому. Новік вернецца зараз. Ён пад'едзе з Раманчуком толькі да Верхменічаў.

Ля Сідорыкавага гумна зноў пачаў дыхаць звонам стальных лёгкіх матор. Гулка загудзела складаная малатарня.

У другім пакоі сельсавету Колера чакаў член рэдкалегіі камсамолец Пятрок Багун. Старанна перапісваў на чысты ліст допіс калгасьніка.

— Ці хопіць у нас матар'ялу?—спытаў ён у Колера.

— Будзе!—пачаў даставаць з кішэні матар'ял Колер.—За гэтыя дні разварушыліся. На мітынгу чатыры заметкі падалі. Адна з іх падазрае ў шкодніцтве кладаўшчыка Зьмітровіча. Учора ўвечары бачылі, як ён выкручваўся ля гумна.

— А глянь на гэтую паперку!—аж затросься радасьцю ад выкрытага сакрэту Багун.—Толькі што адзін калгасьнік прыцёг. Зьмітровічы (старшыня і кладаўшчык) хмельнага квасу хвацянулі ў Гарнастая..

16

Праз гадзіну рыпнуў сельсавецкімі дзьвярыма Ладуцька.

— Ну і пашло-ж!—аж пырскае срэбным пылам сьліны на Колера.—Паўтары сотні адных толькі аднаасобнікаў!..

Сянчук абрывае гаворку па тэлефону:

— Хто пайшоў? Куды?—і сьпешна крычыць у мікрафон.—Гэта я тут, са сваімі гавару, таварыш Война. Хвілінку пачакай!

— Калгасьнікам бульбу пашлі дапамагчы выбраць аднаасобнікі,—зноў пырскае ад радасьці Ладуцька—Чалавек сто пяцьдзесят... і калгасьнікі, як ня ўсе, паперліся з кошыкамі на поле.

Сянчук аж падскаквае ля тэлефону. Нястрыманая радасьць дрыжыць ухмылкай на твары. Хуценька лапоча ў мікрафон:

— Дык, таварыш Война, у нас сёньня з бульбавыбаркай перелом. Ці прысылаць прафсаюзную брыгаду? Не-не! Самі ўправімся. А Раманчук табе расказваў?.. Дык малатарня зноў пашла. Сітнік яшчэ два прэнцікі ў снапох абмацаў... Гаспадарчае замацаваньне?.. Ячэйка разгортвае работу...

Ён пераказвае ўсё, што было на мітынгу. Тады доўгі час, бясконцна паўтараючы слова „так“, застывае з прыцятай да вуха трубкай.

Прыходзяць астатнія сябры рэдкалегіі. Колер папярэджвае ўсіх

— Газэту трэба рабіць увечары. А то рабочы час зрываем.

Усе дружна абзываюцца на яго прапанову.

Ладуцька дастае з кішэні шэрыя лісткі паперы, сьпісаныя алоўкам і атрамантам.

— Матар'ял у газэту! Яшчэ ніколі столькі ня пісалі. А сёньня і аднаасобнікі падалі...

У пакоі надзвычайнае ажыўленьне. Праз парог тыкаюць галовамі наведвальнікі па сельсавецкіх справах. Доўгі час моўчкі глядзяць і зноў, зьбянтэжаныя шумам, зачыняюць рыплівыя дзьверы.

— Толькі перашкаджаць будуць,—аглядаецца Багун і круціць у замку ключом.

Калгаснае бульбяное поле аж кішыць людзьмі. Вазы віда-віда напаўняюцца бульбай. Віда-віда расьце ўгару капец. Новік ужо не распрагае каня. Не распрагаюць і астатнія пяць фурманак. Чатыры паркі коняй няспынна ходзяць з плугамі ў радох. Срэбнымі кроплямі дрыжыць пот на твары разгоншчыкаў.

— Дзесяць гектараў сёньня выграбем,—кажа Зося Ясючэня Надзі Чубік.

— За дні тры, каб такі гурт, усю бульбу ў капцы ссыплем.

Надзя нічога ёй не адказвае. Недзе ўглыбіні нутрэўя яшчэ ня прытуплены вострыя боль сёнешняй раніцы. Яна стараецца забыцца пра скрывянелы твар мужа. Шпарка драпсуе пальцамі вільготныя скібы. Тады ёй лягчэй, бо галаву запаўняе нейкае заспакаеньне работай. Але ўспаміны і войканьне якой жанчыны з боку пра сёнешні выпад—зноў пачынаюць тузаць болем яе кароткае заспакаеньне. Вочы набракаюць сьлязьмі і плечы дрыжаць ледзь стрыманым плачам.

— Ты ня думай!—спагадліва глядзіць ёй у вочы Зося.—Майсей падправіцца. А хто падстроіў жалезцы да снапоў—пойдзе пад суд. Ты ня плач...

„Хто? Хто падстроіў?"—пытае сама сябе Зося. І адчувае, як зьмяняецца крыўда ненавісьцю: падкоп пад калгас, падкоп пад іх, Чубікаў.

— Бандыты!—аж шэпча яна распаленымі думкамі.

— Што ты кажаш?—ціха перапытвае яе Зося.

Надзя аж крычыць сваімі пачуцьцямі.

— Напралазіла халернай слаты ў калгас, дык яны цяпер кулацхія мандрымоны паказваюць! Дзе гэта відана, каб багацей зьмірыўся з тым, што наша ўласьць робіць? Каму ў калгасе цяжка працаваць? Гарнастайчыкам і Зьмітровічам, бо яны раней панамі былі, жывучы з нашай працы. А тут ім давялося нараўне з намі бульбу выбіраць і ўзяць толькі тое, што вырабяць. Дык хіба яны даруюць тое, што зрабіла калектывізацыя? Іх і блізка ня трэба было пушчаць у калгас. А робяць яны тут для віду толькі, каб няпрыметна ламаць і крышыць агульнае дабро...

З таго боку вёскі, дзе выхібілася даўжэразная страха сьвінарніка, вецер гоніць сюды кароткі грукат тапароў. Чуваць, як вострымі зубамі пераядае дрэва піла. Іх скарыстоўваюць для выганкі сьцен другога, новага, вялікага і прасторнага сьвінарніка.

Цімох Пачакай, папраўляючы супоню ў хамуце, увесь жыве гэтым так узьнятым сёньня напорным гулам работы. Здаецца, толькі цяпер, прышоўшы памагчы калгасьнікам, агледзеўся, што *ён* і што *яны*. Дзень сёнешняй бурлівай работы ў калгасе пачаў разьядаць яго сумненьне, народжанае ранейшымі малымі вынікамі агульнае працы. А гэта залежыць ад людзей, якія падпісалі статут арцелі, залежыць ад таго, *як* гэтыя людзі будуць працаваць. Сёньня, апрача аднаасобнікаў, вышлі на работы амаль усе калгасьнікі. Дык і работы будзе

ўсім калектывам зроблена ольш, чым тады, як на працу выходзіла, напрыклад замест 100 чал бек толькі 60 або 80. Больш будзе зроблена работы, добра яшчэ гэтую работу зробяць—мацнейшым стане калгас, больш атрымаюць тыя, хто працаваў. Ды ў гурце і рабіць весялей. Што-ж траціць аднаасобнік, калі ідзе ў калгас?

У галаве, як перад вачыма, выпростваюцца яго доўгія вузенькія шнуры. Чатыры дзесяціны, а разбэрсаны, абгароджаныя быльняговымі межамі, на восем кавалкаў. Завязеш два вазы гною, дык і дзень міне. А ці-ж хапае хлеба на шэсьць душ сям'і? А прыадзецца, прыабуцца?

„Падам сюды,—думае пра калгас,—заяву. Удваіх з жонкаю, яшчэ Васіль і Наста, больш зробім, як на шнурках. І з канём цёгацца ня трэба будзе...“

— Чаму тыбульбы не адвозіш?—спыняе разгон Цімаховых думак Новік. Яго разлуплены брыль ужо ня лезе на вочы: учора, разьюшаны бясконцнымі кпінамі жанчын, пабег у каапэрацыю і справіў новую шапку.

Пачакай схамянуўся і „нокнуў“ на каня.

— Сёньня падам заяву,—рашыў ён сморгаючы лейцамі.

Пасярэдзіне людзкое руплівае, ходкае лавы, расьселася ў радох Зьмітровічыха, жонка кладаўшчыка. Побач корпаецца лянымі рукамі Гарнастаіха.

— Як-жа жывяце?—пытае ў іх Лукер'я Хадун, аднаасобніца.

— Што гарох пры дарозе: хто ідзе, той і скубе,—пераймае Лукер'ю Гарнастаіха.—Хіба сваё робім?

— А то чыё-ж?—дзівіцца Лукер'я, перастаўляючы наперад кошык.

— Калгаснае,—сіпіць Зьмітровічыха.—Хіба ты ня ведаеш?

— Калі калгаснае, дык і сваё. Сколькі вы тут вырабіце, дык столькі і атрымаеце.

— Ого!—заляскала языком, узяўшыся за бакі, Зьмітровічыха.— Як раз і атрымаеш! Вунь і на калгас налажылі хлеба. Усё вымятуць!

Лукер'я ўпарта кідае свае словы.

— А казалі, што сёлета калгасу на дзьвесьце пудоў менш трэба здаць хлеба, як летась здавалі ўсе разам тыя, хто пайшоў у калгас. Няўжо сёлета вы больш зьясьце хлеба, як летась елі?

Жаўтушныя рукі Гарнастаіхі аж трасуцца.

— Ці каб тое было сёлета, што я мела летась! Большага я сёньня і ня хочу. Ажно—не! Што вымераюць працаднямі, толькі тое і дадуць!

— Дык з вас, дваіх, і хопіць...

— Хопіць? Каб ужо табе, мая маладзіца, хапіла, што мне дадуць! Ці ня мы аддалі ў калгас млын, парку коняй, кароўку, зямлі дзесяць дзесяцінак?

Яна аж енчыць ля кошыка. Злосьцю трасуцца яе тонкія губы.

— Агітатарша нашлася,—косіцца вачыма Гарнастаіха на Лукер'ю—Можаш ісьці з нашага поля. Хто цябе сюды запрашаў?

— Мяне ніхто не запрашаў,—абыякава гаворыць Лукер'я.—Я сама прышла.

— Дык можаш сама і адправуляцца.—з рызыкай паварачваецца да яе шырокім задам і Зьмітровічыха.

Твар Лукер'і раптам чырванее ад крыўды. Яна хуценька ўскаквае, вываpачвае бульбу з кошыкаў і подбегам ідзе да вёскі.

— Кудыр Што такое?—абарачваюцца зьдзіўленыя калгасьніцы і аднаасобніцы, якія ня чулі сваркі.—Лукер'я, вярніся!

Тая паскарае хаду.

— Лукер'я!

— Лукер'я!

— Луу-кее-р'я!

Праз вывернутыя плугам, нявыбраныя рады бульбы падбягае зьбянтэжаная Зося. Іскрацца, гараць дапытлівасьцю яе вочы. Голас глухі і абрывісты.

— Чаго гэта яна? Што тут вышла? Чаму высыпана бульба?

— Захацела пайсьці, дык і пашла,—глядзіць нахабна на твар Зосі Зьмітровічыха.—Што ты яе—прымусіш бульбу калгасную выбіраць? Такая з *іх* дапамога...

Жанчын чатыры, аднаасобніцы, зрываюцца з радоў. Слова „іх" сьцебанула, як пугай.

— Ня верна!—затупалі яны ля Зосі.—Усё вышла з-за Гарнастаіхі і Зьмітровічыхі. Яны сварку пачалі...

Зосіны вочы халаднеюць. Гаснуць у іх ходкія іскры. Моўчкі выслухоўвае гаворку аднаасобніц. І пасьля:

— За гэта-ж з калгасу трэба гнаць!—як жорсткім крэменем рэжа карабаватую нядобрую цішыню.

— Гані, гані, такая ўправіцелька!—разыходзіцца лютаю зьмяёю Зьмітровічыха.—Што ты за асоба, каб законы ўстанаўляць?

— Яшчэ што?

— Глядзець на цябе брыгда! Думаеш, калі кансамолкаю зрабілася, дык табе ўсё дазваляецца вычвараць.

— Яшчэ што?

— Ідзі адсюль, а то каменем галаву разаб'ю!—рэзнула піскліым голасам Зьмітровічыха.—Ідзі...

І пачала хуценька выгортваць языком сьлізкія, разбухлыя чорныя словы лаянкі.

Зося моўчкі глядзіць на яе шаленства. Толькі боль дрыжыць на губах: боль ад таго, што ўсё гэта чуюць аднаасобнікі, якія з вялікім уздымам, зламаўшы ранейшыя абыякавыя настроі, прышлі дапамагчы калгасу. А тут...

— Калі ты ня хочаш працаваць, дык *не падрывай* работы другіх,—холадна глядзіць Зося на Зьмітровічыху.—Пра сварку і яшчэ што—пагаворым асобна.

Яна абарачваецца і гаворыць да ўсіх. Яе голас зноў зьвініць:

— Як будзе сход—усе прыходзьце. І калгасьнікі і аднаасобнікі.

Ад гэтага маладога і задорлівага голасу, як не маладзеюць і паджылыя жанчыны. Гаворка пачала аднаўляцца зноў. Буянілі дзявоцкія галасы. Здавалася, усе забыліся на тое, што адбылося тут колькі хвілін таму назад. Жонка Кастуся Таўкача, як-бы толькі цяпер згледзела што Зосіна брыгада яе абагнала. Зьдзівілася і крыкнула:

— Глядзіце, тыя малакакосы нас абагналі! Божухна мой, божухна! Няўжо мы, старыя гаспадыні, адстанем?!

Суседкі таксама зьдзівіліся:

— А-яй-яй! Дзеці нас абагналі,—і пагразілі:—Ну, глядзіце-ж—цяпер хто за кім астанецца!

— Пакуль што вы за намі!—ганарлівым голасам матнула выклік Тэкля.—І заўтра будзеце за намі, і пасьлязаўтра...

— Якая ты рызыкоўная!—пачала абсаджваць Тэклін гонар Сітнічыха.—Ця з хлопцамі так ня рызыдуй.

— А што мне хлопцы?

— Пачакай, пачакай. Пакуль хлапец—ціханькі і ласкавенькі, а потым, калі будзе мужам, як асядлае...

Усе дзяўчаты аж зайшліся сьмехам.

— Жартуйце, жартуйце,—падзадорвала іх Сітнічыха.—А некалі памянеце мае слова... Лепш-бы пашлі ды богу памаліліся.

Зноў, яшчэ мацней, зьвініць дзявоцкі сьмех.

— Грахаводніцы!—бурчыць Сітнічыха і ўспамінае, што і сама ўжо больш году ня была ў царкве.

Як раз і меціць на гэтае Тэкля:

— А сама, цётка Сітнічыха, ці кленчыш у царкве? Чаму гэта ты нядзелькаю ў школу ўчашчаеш?

— Ат, што з вамі, жарабіцамі такімі, гаварыць,—махае яна рукою.—Толькі сораму нагоніце. Я хоць дома сяды-тады хрышчуся, а вы і пальцаў складаць ня ўмееце...

З-за вёскі даходзіць сюды няспынны грукат тапароў. Гудзе малатарня ля Сідорыкавага гумна. Глухою злосьцю набракае нутрэўе Зьмітровічыхі. Гарнастаіха, сьцяўшы тонкія хцівыя губы, выграбае з раду лянымі пальцамі халодныя, буйныя клубні бульбы.

## 17

Маўклівае цікаваньне аднаасобнікамі калгасных спраў адышло некуды ў бок. У каапэрацыі, у сельсавеце, пры сустрэчы на вуліцы—гаворка пра сёнешні выпад. Бабы—пра Надзіну бяду (можа Майсей і не паправіцца?), мужчыны—больш глыбей. Але і яны пачынаюць з Чубіка, з яго калецтва, потым няпрыметна ідуць думкамі далей, залязяць у самае нутро гаспадарскіх спраў калгасу.

Каапэрацыя—на рагу раскрыжаванай дарогаю ў раён вуліцы. Над ганкам—шыльда, на ёй зьверху: *„Зьмітровіцкая спажывецкая каапэрацыя“*—шэрымі, ледзь прыметнымі літарамі. А ніжэй гэтага надпісу, як раз пасярэдзіне дошкі, больш буйна:

Крама № 1

*Міранскага раёну“*—цьвіце даўнім часам адрас у самым нізе дошкі.

Даўней у гэтым будынку была карчма. Пакурынцы, балачанцы, седлавічане, едучы ў Міраны, ніколі ня міналі яе хмельнага прытулку. За сухога тарана, за п'яную, чадную радасьць вытрасалі апошнія грошы. Распаленыя вялікай прагнасьцю да нябыцьця, каб ушчэнт атрэсьці з сябе прыедлівыя клопаты пра зямлю, кавалак хлеба, пакідалі тут хамуты, коняй, калёсы, прапівалі кажухі, жакеткі. І ў сварках, узгрэтыя гарэлкай, у бойках, разьюшаныя сваркамі, былі лютымі і нячшаднымі. Чарната жыцьця спушчалася тады на вочы, а рукі, узброеныя нажамі, бутэлькамі, дручкамі, мясілі мазкі з чэрапам, на век крамсалі, ламалі цела. Тады здавалася, што сусед, такі-ж самы галапупец, вінаваты, што ў суседа не стае хлеба да каляд, грошай для выплаты падатку. Успаміналі парушаную неасьцярожным плугам мяжу, грэбаньне чужых курэй на гародзе, перакошаныя тычкі на сенажаці. І ў празьмернай злосьці, да зьнямогі, да калецтва, тузаліся за грудкі, радыя, што дарвалі часу адпомсьціць за ўсе крыўды вясковага жыцьця...

Цяпер зьмітроўцы, як праз сон, толькі ў якой гаворцы, прыпамінаюць мінулыя чадныя дні. Біцца за зямлю? Яе цяпер вунь колькі, ня зглёдзець! Тыя-ж самыя паўтары тысячы дзесяцін, а ўсім стае: і калгасу і аднаасобнікам. Бо няма таго, што ў аднаго яе, зямлі, 40 дзесяцін, а ў дваццаці, трыццаці гаспадарак—па адной, дзьве. Рэвалюцыя семнаццатага году адразу зьнішчыла голад на зямлю. І тады пачалося другое: як на гэтай зямлі гаспадарыць, каб жыць па-люцку, жыць ня так, як жылі даўней. Адважныя Зьмітравічане выбралі і цьвёрда парашылі зьмяніць старыя спосабы гаспадараньня: калгас арганізавалі, скромсалі трактарамі МТС і конскімі плугамі межы на адведзенай ім плошчы. Працуюць на агульным полі, на канюшні, кароўніку, сьвінарніку. А другія, 220 гаспадарак, яшчэ баяцца пераступіць сваю мяжу: што калі пераступіш, а там—голад? Дык чаго ўсім спрабаваць! Пацікуем, як другія, адважныя, будуць упраўляцца. А тут шэпты: няпрымеціш калі ад каго яны, гулкія і трывожныя, ідуць—ці то скажа багацей, ці то бядняк, які ўчора пазычаў у гэтага багацея на адработ пуд хлеба:

— У калгасе людзі з голаду папухнуць!

— У калгасе гультаём толькі і выжыць!

Вось яно што!

Або:

— Каапэрацыя да цурынкі ўсё выскрабе з калгасных засекаў...

Дык цікуюць бяднейшыя і сярэднія аднаасобнікі, як яно спраўдзіцца. А можа ўсё наадварот выйдзе: хто больш працаваў, то больш і атрымае? Што калі так усё выйдзе?

*(Далей будзе).*

**Міхась Зарэцкі**

# Якуб Лакота

*(урывак з раману—„Вязьмо“)*

У Сівалапах дагараў у шчасьлівым запале новае цудоўнае працы старшыня калгасу „Наша перамога“ Якуб Лакота. Ён доўга і настойна адмаўляўся ад гэтае пасады—не таму, што не хацеў, а што ня пэўны быў у сваіх фізычных сілах. Яго ўгаварвалі з цёплай сваяцкай ласкай, абяцалі поўную ад усіх дапамогу, і ён нарэшце згадзіўся. На сэкратара калгасу з яго прапазыцыі выбралі Мікіту Лаўрынёнка, маладога кемкага гаспадара, што спрабаваў некалі ўчыцца на агранома.

У Якуба Лакоты ад першага таго сходу асталося ўражаньне радаснага зьдзіўленьня, блізкага да неймавернасьці. Сапраўды, цяжка было даць веры, што гарачыя сьмелыя яго імкненьні, якія часьцяком самому яму здаваліся недасягальнымі лятункамі, сталі раптам на парозе свайго зьдзяйсьненьня. І сам ён будзе ня толькі браць чынны ўдзел у гэтай казачна-новай будоўлі, а нават будзе яе кіраваць.

Для Якуба Лакоты канчаткова згінулі хвіліны спакойнага адпачынку—і дні і ночы абярнуліся яму ў бязупыннае напружанае гарэньне. Трагічны разлад паміж яго маладым нязгасным запалам і ўбогімі рэшткамі глыбока паве́раджонага здароўя дасягнуў найвышэйшага пункту. Гэта, ён чуў, не вяшчуе яму нічога добрага, але не задумляўся дужа над гэтым, бо наогул на сваё фізычнае здароўе глядзеў з спакойнаю абыклаю безнадзейнасьцю.

У маладым калгасе адразу занялося жвавае бадзёрае жыцьцё. Першыя праблескі яго—дзіўна-сьвежыя, неабыклыя—атулены былі вясёлым, чыста сьвяточным уздымам. Якуб Лакота добра разумеў, што калектыў тады толькі адчуе сваю дзейную злучнасьць і сваё значэньне, калі возьмецца супольна за якую канкрэтную жывую работу, і таму з першых-жа дзён зачаў шукаць такое работы.

Пастанавілі адразу пачаць падрыхтоўку да калгаснага будаўніцтва, і на першую чаргу назначылі будоўлю вялікае стадолы на ўсю, якая мела быць абагулена, жывёлу. Дасталі дазвол на вывазку леса, і з вясёлых масавых выездаў па яго зрабілі праўдзівую дэманстрацыю свае дружнае сілы і энэргіі.

Якуб Лакота здабыў аднекуль будаўнічага тэхніка, і некалькі вечароў узапар зьбіраліся ў яго ў „габінэце“ самарослыя сівалапаўскія архітэктары, каб разам з тэхнікам абмяркоўваць плян новай будоўлі. Гэта былі дзівосныя незабыўныя гадзіны, калі з непраходна-дзікіх зарасьляў цёмнай мужыцкай сьвядомасьці, аплеценых атрутным хмелем спрадвечнага чмуру, раптам завязваўся і паволі расьцьвітаў пышны квет калектыўнай творчай фантазыі, імклівага домыслу і ініцыятывы. Забываліся на ўсё—на позны час, на змору, на нямінучыя турботы заўтрашняга дня, і ў шчыльна зьбітым, сагрэтым гарачай дружнасьцю, гуртку ламалі галовы над найдрабнейшымі дэталямі складаных будаўнічых канструкцый.

Гэта была першая брыгада калгасу „Наша Перамога“. Вынікі яе працы—яшчэ хісткія, няпэўныя, праблематычныя—разыходзіліся па ўсіх

Сівалапах і залучалі ў кола далейшых меркаваньняў амаль усіх калгасьнікаў, а часам і аднаасобных гаспадароў. Бо што-ж можа з такой сілай захапіць знудзелую ў тупой абыдзеншчыне сьвядомасьць земляроба, як ня сьмелыя пляны хоць яшчэ й неверагоднага, але канкрэтнаўяўлянага ўжо дабрабыту.

Так пачынаў жыць калгас новымі супольнымі інтарэсамі, так завязвалася новая творчая сувязь паміж яго сябрамі.

Тым часам старшыня калгасу меў яшчэ свой асаблівы клопат, якому аддаваў ён пазасталыя ад штодзённых турбот часіны: ён перарабляў свае вялікія, з такой стараннасьцю і з такім цяжарам складзеныя пляны. Фактычна, гэта была не пераробка, а скарачэньне, звужэньне да сьцiслых меж сівалапаўскае рэчаістасьці. І праца гэта была Якубу Лакоту бадай не лягчэйшая, чымся першапачатковае іх складаньне. Гэта была вельмі балючая праца, бо выпадала з бязьлітаснай жорсткасьцю абцінаць пышныя, квяцістыя галіны таго дрэва новага жыцьця, якое стварыў быў ён у сваім творчым парываньні. Яго стан быў падобны да стану мастака-рэзьбяра, які, стварыўшы бязьмежнапрыгожы вобраз, прымушаны быў-бы груба абсеч яго чароўныя формы, каб мог ён зьмясьціцца ў прызначанай яму нішы. Але вострае адчуваньне плодатворнасьці свае працы, упэўненасьць у блізкім зьдзяйсьненьні сваіх новых—хоць і меншых, хоць і ня гэткіх яскравых, плянаў компэнсавала яму вымушанае самаабмежаваньне, і ён працаваў з даўнейшым запалам, з даўнейшай фанатычнай адданасьцю справе.

Часамі траплялася, што ў сваёй заложнай рабоце сярод глухой маўклівай начы ён натыкаўся раптам на нечаканую перашкоду—на брак якіх-небудзь канкрэтных матар'ялаў пра расплянаваньне калгаснага поля, пра разьмяшчэньне тых ці іншых дзялянак, якія мог ён здабыць толькі непасрэдна пабыўшы на месцы. Тады адкладаў ён справу да раньня і да раньня ня зводзіў вокам, да раньня кавэнчыўся на сваім мулкім ложку, пазіраючы што хвіліны, ці ня сівее ўжо вакно марудлівым зімовым золкам.

Нарэшце ў скрозь пракалупанай нецярплівымі вачмі цемры азначаўся хісткі квадрат вакна, і Якуб Лакота зрываўся з абрыдзелага, абмуленага непакойнымі бакамі ложка. Насьпех апрануўшыся, ён наўмысна млявай разьмякчонаю сном хадою праходзіў цераз агульную хату і, абмінаючы старую матку, якая поркалася ўжо каля печы, пазяхаў з такой заразьлівай слодыччу, што той і ў думцы ня было, каб гэта ён куды выбіраўся з гэткай пары на работу. Так з наіўнай дзяцінай хітрасьцю падманьваў ён пяшчотную чуйнасьць маткі, якая з балючай трывогай сачыла за няўхільным згасаньнем свайго каханага сына.

У сенцах цішком, па-зладзейску намацваў ён старыя лыжы—рэшткі свайго калішняга маладога раздольля—і, ухапіўшы іх пад палу, выбягаў за двор, сьцеражліва азіраючыся, каб часам не злавіла яго на месцы злачынства руплівая маці.

Па полю хадзіў сінімі халоднымі хвалямі апошні перадранішні змрок. Поле драмала лядовай дрымотай—глыбока самотнае і чулае ў сваёй сіратлівай закінутасьці. Працавіты шоргат лыж працінаў маркотна-застылую цішыню з жорсткай нахабнай рэзкасьцю, нібы прынёсшы з сабой сьмелы водгалас няспынёнага людзкога жыцьця, дражніўся з санлівай зьмярцьвеласьці зімовага поля.

Якуб Лакота з гоні ішоў шпарка, размашыста, успамінаючы свой калішні спрыт і падманьваючы самога сябе гарачкавым выбухам свае

астатняе сілы. Потым сунімаўся, зьнясможаны, і, хваравіта аддыхваючыся, усьміхаўся пакорнай вінаватай усьмешкай.

Адылі радасна было і раздольна апынуцца аднаму ў пустым засьнежаным полі, дзе бяскрайная самота давала чароўна-зманлівую магчымасьць забыцца на сваю няўздольнасьць і пачуць у сабе былога, поўнага нязбытых сіл, чалавека. Абкружэньне здаровых людзей заўсёды падкрэслівае слабасьць хворага, даючы яму відочную, неабмыльную мерку ягонае немачы, і толькі пазбыўшыся гэтых хадзячых узораў фізычнае дасканаласьці, можа ён пацешыць сябе мімалётнымі бліскамі збавіцельнага самаспадману.

Прайшоўшы з чвэртку вярсты—павольным ужо, спакойным крокам—Якуб Лакота з глыбокім здавальненьнем адчуваў, што ён амаль зусім яшчэ ня чуе зморы, і пачынаў старанна вымяркоўваць, колькі-б ён здолеў прайсьці за гадзіну, за дзьве, за тры—вядомая рэч, з адпачынкамі, спакваля, не сьпяшаючыся, бо чаго-ж яму канечна ляцець, як няпрытомнаму? Выходзіла, што дужа многа, і тады на паружавелым ад хады і марозу твары ў яго грала бясконца шчасьлівая радасная ўсьмешка. Яму здавалася, што ён зусім яшчэ здаровы чалавек. І, неўзаметку для самога сябе, ён зноў пераходзіў на шпаркі размашысты рух, каб, з гоні прайшоўшы, зноў спыніцца, задыхаўшыся і закашляўшыся.

Згарнуўшы з сябе астатнія косы ночнага змроку, зімовае поле ў раптоўнай яснасьці паказвала свае прасторы. Гонка, імкліва разьбягаліся ў розныя бакі белыя прытульныя далі, хаваючыся за шызыя драцяністыя хмызьнякі, за гладкія пукатыя ўзгоркі. Навокал—куды ні зірні—паўставалі ў ваччу з дзяцінства знаёмыя куточкі, дзіўныя і інакшыя ў сваім зімовым убраньні. Якуб Лакота бесцарамонна зрываў з іх гэтае пышнае вялічнае ўбраньне і апранаў іх у лёгкія квяцістыя шаты залатога лета. І нейкую часіну жыў ён тады жыцьцём даўно прамінулым, сьветлым, праменіста-прыгожым...

Успаміны пацешна пераблытваліся, зводзячы ўместа далёкія адзін ад аднаго і дзіўна розныя моманты жыцьця.

Вось засыпанае сьнегам глыбокае гліні́шча вытыркнула абвеяны ветрам кавалак свайго стромкага звалу. У чорнай адубелай гліне відаць цэлая сыстэма пячурак, што дзеля забаўкі пакапалі, пасьвячы коняй, сялянскія хлапчукі. Напэўна, дзе-небудзь яшчэ захавалася такая пячурка, выкапаная калісьці даўно-даўно ягонымі рукамі. Што яна мела тады выабражаць у тых чароўных казках-гульнях сонечнага дзяцінства? Можа якую хату, можа печку—сапраўдную, зусім такую, як у хаце, нават можна паліць яе і пячы ў ёй бульбу,—можа таемнае логва якога-небудзь дужа страшнога зьвера?

Якуб Лакота з усьмешкай успамінае, што ягоная—і ўсіхныя—пячуркі выяўлялі тады, як абстрэльвалі яны з гэтага глінішча атрад белапалякаў. З гэтых пячурак слаўныя вышлі былі байніцы!

Успамін далёкага дзяцінства шчытна сплятаецца з пякуча-яскравымі карцінамі партызаншчыны. І цяжка азначыць, што мілей ўспамінаецца: тое ці тое?

А вунь далёка леваруч паўстае густая сьцяна лесу. Гэты лес завуць—Ганьніна Пушча, і пра рамантычна-таемную Ганну блукае па ўсёй акрузе ці мала страшных і прыгожых легенд, якія калісь былі яму глыбейшай сапраўднасьцю, чымся тое, што бачыў наўкола на свае вочы.

Якуб Лакота ўспамінае, што яму як-раз і трэба да гэтае пушчы, і збочвае туды з вялікай ахвотай.

Тут зноў: ружовыя карціны дзяцінства (грыбы, ягады, арэхі, лісавы норы) і праз кволую іх ружовасьць гарачай чырваньню выступаюць нязводныя плямы першага пачуцьця—магутнага і дурнога, дзівачнага і бяз меры прыгожага, яснага.

Ён зварачае ў лес па вузкім, абвешчаным сьнегавым сарпантынам прахоне, які застаўся на месцы летняй дарогі. З ціхім зьдзіўленьнем прыглядаецца ён да знаёмых мясьцінак, што пахаваліся ад яго пад белай маскай зімы, вышуквае іх, выцягвае вокам з-за сьнегавой заслоны. Ад яго не схаваешся, не!

Вось пад гэтым дубам—ня йначай, як пад гэтым—знайшоў ён некалі дваццаць баравікоў за адзін раз. Як марудна расьце гэты дуб! Ён амаль астаўся такі, як тады, колькі дзесяткаў год назад. А можа гэта зьмяніўся маштаб ягоных вачэй, і тое, што ўдвая ці ўтрая пабольшала, яму выдае гэткім самым?

А вось тут трэба зьвярнуць з дарожкі і пашукаць аднаго дужа патаемнага і дужа зацішнага месца. Да яго ня лёгка дапасьці—тут і ўлетку цяжка прайсьці, а ўзімку, на лыжах, і пагатове. Але дзе-ж ён, быўшы тут, абміне той чароўны куточак, што некалі цьвіў у яго сэрцы адзінымі, непаўторнымі ў чалавечым жыцьці, краскамі?

Пяць прысядзістых шырокіх дубоў абсталі маленечкі лапік-палянку. Па-праўдзе тут улетку павінна быць дужа прыгожа. Жывы шацёр.

Але як не падобна тут цяпер да таго, што было! Урослыя ў сьнег дубы паніжэлі, адрузьлі, сталі старыя і няпрыязныя. Замест прытульнае палянкі—крывы сумёт шорсткага сьнегу.

На вуснах у Якуба Лакоты стыне маркотная балючая ўсьмешка. Ён няўцямна азірае палянку, потым узьнімае вочы ўгару—мо' там асталося што ад ранейшага хараства?—і бачыць жудасна пакарожаныя чорныя рэбры, а на іх дзе-ня-дзе, як лахманы на брудным целе старога жабрака, чмарае, трупехлае лісьце.

Ён зноў пераводзіць погляд на паляну і спрабуе ўявіць на ёй далёкі напоўзабыты вобраз. Ён бачыць яе—самотную, беспарадную—яна плача і працягвае да яго свае рукі, як тады, у астатні раз. З сэрца ў яго цяжка выціскаецца кропля даўнае—рэдкае, вадзянае пяшчотнасьці. і разам з тым, як падае з сэрца гэтая ўбогая кропля, ураз зьнікае і той смутны перабалелы ў нутры яго вобраз.

Іхнае каханьне скончылася пасьля таго, як дзікая белагвардзейская экзэкуцыя абярнула яго ў недалужныя руіны былога чалавека. Вобраз яе смутнае, з сьлязьмі ў вачох, з выцягнутымі да яго рукамі—гэта апошняя сустрэча іх на гэтым вось месцы перад тым, як ішоў ён на страшную рызыкоўную справу.

Якуб Лакота ўсьміхаецца ўжо бяз смутку і болю.

Пакуль ён праз колькі год лячыўся, зьбіваў сяк-так абломкі свайго разьбітага цела, яна вышла замуж. Як ён нарэшце вярнуўся ў Сівалапы і сустрэў яе, яна пастаралася была зірнуць на яго з ранейшай пяшчотнасьцю і балюча абразіла яго сваім вымушаным поглядам.

Яна й цяпер жыве тут—з яе вышла грубая зьвяглівая баба. Якуб Лакота часам думае: якая была-б яна, каб іначай тады, у другі бок павярнулася было іхнае жыцьцё?

І тады ўсьміхаецца бяз смутку і болю...

Аддаляючыся ад знаёмага куточка і ўглыбляючыся ў нетры лесу, Якуб Лакота адначасна аддаляецца думкамі ад сацьмелых вобразаў таго чароўнага часу і ўглыбляецца ў густыя нетры далейшага свайго жыцьця. Сьмешна і сумна: у гэтым жыцьці ня было ў яго больш жанчыны. Думка аб гэтым уводзіць яго ў сарамлівае зьдзіўленьне, за якім цішком хаваецца настойлівая нязбыўная прагнасьць да непазнаных уцех, якую ён за-звычай бязьлітасна душыў у сабе цьвёрдай сьвядомасьцю свайго няўздольнага стану.

Сёньня ён адчувае сябе поўнамоцным чалавекам і сёньня злачынная прагнасьць бярэ ў ім сваю законную неабмежаваную сілу і абарачаецца ў шчымліва-журботнае імкненьне.

Няўжо ён, ня жыўшы, пражыў ужо ўсё свае мужчынскае жыцьцё? Няўжо ён ня можа знайсьці сабе—хай ня зусім поўнага, хай палавіннага, але сапраўднага чалавечага шчасьця?

З раптоўнай сьмеласьцю і задорам ён пачынае перабіраць Сівецкіх жанчын, успамінае свае мімалётныя сустрэчы з імі і ператлумачвае ў пэўны кірунак іхную сяброўскую да яго прыязнасьць і ласку. З асаблівай упартасьцю бязульная думка яго сунімаецца на Тацяне Шыбянковай.

Тацяна ад таго часу, як паехаў Зелянюк і як утварыўся Сівалапаўскі калгас, часта прыходзіць да яго. Яна не баіцца, не бярэ жаднае ўвагі на тое, што гэтыя прыходы могуць выклікаць якія-небудзь нядобрыя дзейкі, могуць набыць сабе ў грамадзе непажаданае тлумачэньне. Ці гэта добра яму ці дрэнна? Можа яна проста ня мае яго за мужчыну і таму так спакойна ідзе да яго, часам нават позна зусім, амаль уначы?

Яна прыходзіць і заўсёды з спакойнаю, трошачку сарамліваю ўсьмешкай пытаецца:

— Я не перашкаджаю табе, Якубе?

Потым сядае і пачынае распытваць пра калгас, пра ўсе драбніцы яго маладога жыцьця і ў адказ на ягонае захапленьне радуецца ціха і проста, з мяккай жаночай стрыманасьцю. Неадменна пытаецца кожны раз пра Зелянюка, ці няма ад яго якой весткі, і заўсёды пахваліцца, калі атрымала ад яго ліст, нават троху-па-троху перакажа ўвесь яго зьмест. Яна заўсёды глядзіць на яго, на Якуба Лакоту, з яснай, але зноў-жа трошачку сарамлівай ласкай, нібы хавае ў сабе нейкае сваё бабскае замяшаньне.

Можа гэты мяккі надзвычай прыемны погляд яе тоіць у сабе незразумелае яму салодкае абяцаньне? Можа яе прыходы—гэта выяўленьне яе асаблівага да яго пачуцьця?

Сэрца ў Якуба Лакоты ад гэтае думкі пачынае тукаць у хворых грудзёх з недазвольнай заўзятасьцю і зьбівае навокал сябе клубок даўкага болю, які прымушае спыніцца і аддыхацца. Разам з гэтым і спыняюцца сьмелыя, ня ў меру гарэзныя яго думкі-лятункі, з разгону наткнуўшыся на адчуваньне безнадзейнае фізычнае немачы.

Канчаецца лес і разам з ім канчаецца кароткі экскурс Якуба Лакоты ў цьмяна-ружовы край яго пачуцьцёвага раньня, і асядаюць жорстка стрыножаныя лятункі яго пра нязбытнае (а можа ўжо й непатрэбнае?) шчасьце.

Адгарадзіўшыся ад свае хвіліннае слабасьці сьцяной бязьмернае дзелавітасьці, ён бярэцца за патрэбныя яму выгляданьні, і робіць іх перш з хмураю напружанасьцю, з халоднай увагай. Адылі твар яго

распагоджваецца, чыстыя вочы загараюцца сьветлым іскрыстым агнём, а вусны шукаюць абыклае радасна-шчасьлівае ўсьмешкі.

Ён зноў удаецца ў палкія нястрымныя лятуценьні. Гэтыя лятуценьні законныя, поўнапраўныя, і ён ня толькі ня гоніць іх ад сябе, а старанна песьціць у сваім сэрцы, бо-ж у іх, у гэтых сьмелых і разам з тым такіх блізкіх, такіх дасягальных лятунках—праўдзівае, неад'емнае ягонае шчасьце!

Пустое бязьмежнае сьнегавое поле—ці ёсьць дзе большая прастора вольным разьлётам гарачай фантазіі чалавека? Тут нічога ня трэба бурыць, ці перайначваць, пераабражаць—на чыстым шырокім раздольлі можна сьмела ўзнасіць якія-хоця гмахі, можна разводзіць пышныя райскія сады, можна ствараць зусім новы сьвет, ня зьвязаны абыклымі формамі сучаснасьці.

Ён стварыў сабе такі сьвет. Хто яго ведае?—можа сьвет гэты зусім аблудны, няўжытачны чалавеку, можа ён адно сьмешны ў сваёй наіўнай нязграбнасьці? Пра гэты сьвет ён нікому не гаварыў і ня скажа—ён робіць яго для сябе, каб аздобіць сваю жыцьцёвую дарогу ясным хараством далёкае мэты. Ён рабіў яго здаўна, складаў яго па маленькім кавалачку—і таму ў ім дзівосна памяшаліся кволыя краскі дзяціных лятункаў з цаглінамі сталых вымеркаваньняў дарослага чалавека.

Ён стаіць сярод самотнага поля і, пільна ўзіраючыся ў сьнегавую даль, бачыць там абрысы збудаванага ім сьвету. Яны—перш нявыразныя, бледныя—набіраюць з кожнай хвілінай усё большае лёгкасьці, яны відочна ружавеюць і, сагрэтыя гэтай ружовасьцю, яшчэ большую маюць прывабнасьць.

І яшчэ больш яскравеюць фарбы, празрыстая ружовасьць насычаецца новаю сілай, пыхае новым агнём—і ўжо гарыць, паланее гордая пераможная чырвань!

Гэта ўзышло нарэшце познае зімовае сонца. Яно вынырнула з пульхнае белі сьнягоў, як з белых пухавых падушак вясёлы тварык дзіцяці, і з шчырай цікавасьцю зірнула на дзівачную будоўлю апантанага чалавека. І, глыбока расчуленае нечаканым хараством, з цёплаю ласкай пагладзіла яго сваімі мяккімі косамі.

Якуб Лакота сьпяшаўся да дому, да тлумных шчасьлівых турбот, у якіх дагарала яго павераджонае здароў'е і сіла.

---

Т. Кляшторны

# Думкі вартавога

Ля клеці
Ходзіць вартавы,
Вясну
Ад ворагаў вартуе...
І выплыў месяц
Як жывы,—
Палі
Яснотамі гартуе.
Вось перайшоў ён
Шлях лясны,
Вось прыпомніў, бадай,
Сядзібы...
Настроем
Раньняе вясны
Ён проста
Ломіцца ў шыбы.
Вось
Па азёрных берагох
Ён заіскрыўся
Бляскам мляўкім...
І пад праменьнямі яго
Трымцяць
Марозікам прыталкі.
На ўсім—
Узрушаны настрой
Яго
Вясновага праменьня...
І,
Набухаючы вясной,
У клеці
Шэпчыцца насеньне.
І ўсё
Гатова ў паход,
І ўсё
Гатова сон пакінуць...
І,
Набухае карняплюд
У склепе
Сокам першай сіні.
І ходзіць месяц
Як жывы,
На ўсё глядзіць,
Усё ён чуе,
А з ім
Ля клеці вартавы

Вясну калгасную
Вартуе.
Яго
Узрушаны настрой
Не давяраецца
Нікому,
Ён
Абавязак помніць свой:
„Драмаць
Ня можна вартавому!“
На твары
Пільнасьць залягла,
За ўсім
Трывожна сочаць вочы,—
Глядзіць,
Каб часам, з-за вугла
Не заіскрыўся
Позірк воўчы.
І бачыць
Жвавы вартавы:
Нібы
Сасланыя на кару
Стаяць
Без працы трактары,
Пра нафту Бакінскую
Мараць.
Нібы
На вечны сон гатоў,
Нібы
Забыўшы дні былыя,
Крыху
Аддаль ад трактароў
Стаіць і мерзьне
Новы трыер.
Даўно
Ён голас слухаў свой,
Даўно
Ён працы бачыў дугласьць...
...І,
Набухаючы вясной,
Па ім
Насеньне ў клеці тужыць.
А ў поле
Раньняя вясна
Праклала
Першыя дарогі...
І думка вострая адна
Кранула сэрца
Вартавога:
—Чаму так
Марна ўсё ідзе?
Рабоце нашай
Што пярэчыць?

Чаму ў калгасе
Кожны дзень
Бясконца
Лаянкі і спрэчкі?
Чаму ў калгасах
У другіх
Падрыхтавана
Ўсё на трыста?
Насеньне
Чыстае ў іх,
Ад ворагаў—
Таксама чысты.
Там ад зары
І да зары,
Як дужы пульс,
Як вартавым,
Вясну гукаюць
рактары
Т ня гуляе
Кожны трыер.
А тут
Штодзённа „ералаш“,
А тут
Ідзе работа туга...
Дык
Ці ня ходзіць
вораг наш
замаскаваўшыся
Пад друга?! . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
Знадворку
Крокаў ня чуваць,
Ня ходзяць цені
Самапасам,
Ды мусіць трэба
Вартаваць
Пільней
За дзейнасьцю ў калгасе?!...

Язэп Зяньковіч

## На вучобу

Раса зіхацела глянцам,
Вірліва лілася рака...
Такою вясноваю раніцай
Я Зіну ў палёх спаткаў.

— Зіна! зямлячка!
Як справа?
І ты на фабрыку... у горад?
І ты ад палёў кучаравых
Прыйшла
З камсамольскім задорам?!
— Спалілі гумно
Са збожжам,
Вясною раскідалі гаць...
Язэп, ты ўявіць ня зможаш,
Як цяжка было
Працаваць...

Жанчыны крычалі:
„Выпісвай!"—
Падстроена лоўка было...
І шмат ананімак-запісак
Дарыла кулацкая злосьць.

Крычалі:
„Давай гумно мне!"
Крычалі:
„Давай каня!"
Гразілі:
„Ты, сволач, помні!"...
А здолелі ўсе-ж суняць:
Прыйшлося
ня спаць начамі,
Што вечар сялянскі сход...
На сходах шчэ горш
крычалі,
сьціраючы з твараў пот.

Расой зіхацелі вочы,
ружовіўся твар малады...
— Я чула—
Ты ў горад хочаш...
У тэхнікум, пэўна, куды?..

— У тэхнікум, Зіна,
Чаго-ж там...
Ды толькі ці пусьціць Райком!
А поле прапахла потам
Цьвіло веснасіньню вакол.
. . . . . . . . . . . . .
Яе энэргічнасьць
Ня згасла,
А ў голасе тая-ж уцеха...
Яна ад палёў
калгасных
Прыйшла
ў навучальны цэх...

---

# Супроць схэматызму

**Кніжка вершаў С. Ліхадзіеўскага „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“.**

Сацыялістычная перабудова вёскі, ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы, у беларускай паэзіі амаль зусім яшчэ не адлюстравана. Пралятарска-калгасная паэзія яшчэ значна адстае ад бальшавіцкіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Але гэта не гаворыць за тое, што гэтае адставаньне можа быць ліквідавана за кошт схэматычнай, штампоўнай літаратуры.

Узорам гэтага тыпу літаратуры зьяўляецца зборнік вершаў Сьцяпана Ліхадзіеўскага „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“.

Перш за ўсё: агульныя разважаньні аб жняярках, аб трактарах, аб шырокіх калгасных палёх, а не паказ герояў калгасных палёў— ударнікаў.

Узяць хоць-бы верш „Бальшавіцкая сяўба“. Прачытаўшы загаловак, чакаеш, што, вось, паэта разгорне перад вамі малюнак правядзеньня бальшавіцкае сяўбы, малюнак барацьбы за поўны і якасны засеў калгасных палёў.

Аднак, акрамя таго, што

„Зрушан калгасны спакой,
Ветры гамонку разносяць“.

і

„Грудзі раскрыла зямля—
Сейце, узрашчу ўраджай“.

—вы тут больш нічога і ня знойдзеце.

І далей:

„Глянь на людзкія абліччы—
Сочыцца промняў аснова...
Жоравы сонца клічуць—
Значыць:
вясна і вясновасьць“.

Хіба-ж гэта асноўнае ў бальшавіцкай сяўбе! А дзе-ж тыя, хто праводзіць гэтую сяўбу, дзе той, хто кіруе сяўбой. Няма.

Які гэта, таварыш Ліхадзіеўскі, „зрушан калгасны спакой“? Наўжо калгасьнікі спалі, а хтосьці падышоў і крыкнуў: „Сяўба прышла, уставайце“. Няўжо калгасьнікі не рыхтаваліся да сяўбы? Няўжо калгасьнікі ня вывозілі ў поле гной, ня прывозілі штучных угнаеньняў, не ачышчалі насеньня, не рамантавалі сельска-гаспадарчы інвэнтар, каб узрасьціць багаты ўраджай?

Ударнікам бальшавіцкай сяўбы паэта змог ахвяраваць толькі адну страфу, у якой гаворыцца:

„Армія творчае працы
Выйшла сягоньня ўся ў бой.
Гоні ўзараны—вітайце
Іх з бальшавіцкай сяўбой“.

І гэта называецца паказ герояў бальшавіцкай сяўбы!

Таксама паказана і калгаснае жніво. Паэта абмежаваўся „жняярачным рокатам“, тым, што „Бярозавай дуброве барвістая зара

сьніцца", а не паказам самога жніва. Ліхадзіеўскі ўхітраецца выкруціцца ад непасрэднага паказу калгаснага жніва. Замест гэтага ён заклікае:

„Грымніце-ж, маладыя дзяўчаты,
Калгасную.
Жніўную".

А чаму сам паэта яе ня „грымнуў"?

Калгасьнікі-ўдарнікі ў Ліхадзіеўскага паказаны як „сьмельчакі", якія „жывуць дзівоснаю зарой", а не сапраўднасьцю, не будаўніцтвам сёнешняга дня.

Ня лепш паказаны і тыя ўмовы, у якіх адбываецца сацыялістычная перабудова вёскі—клясавая барацьба.

Адносна ліквідацыі кулацтва як клясы на грунце суцэльнай калектывізацыі Ліхадзіеўскі кажа:

„Пад посьвіст мяцеліц,
Пад сьнежную дую
Як клясу яго (кулака—Е., Х.) мы
Цяпер ліквідуем"!

Прычым тут „посьвіст мяцеліц" і „сьнежная дуя"? Нейкая недарэчнасьць.

Разьвіваючы гэтае пытаньне, паэта да кагосьці зварачаецца:

„Чаго вы ў жалобе,
Як цень, захадзілі...
Каб жыць мільёнам—
Ня шкода адзінак".

Цікава, хто гэта ў Ліхадзіеўскага галосіць па кулаку: мо' бядняк, або серадняк, якія пашлі ў калгасы і якія на сваіх уласных сьпінах несьлі ўвесь цяжар кулацкай эксплёатацыі? А мо' Ліхадзіеўскі ўпрашвае ня плакаць замежную буржуазію, якая, губляючы ў асобе кулака апошнюю сваю апору ў нашай краіне, яшчэ больш ліхаманкава ўзбройваецца супроць нас?

Лічым неабходным асобна спыніцца на паэме „Крывавыя зьнічкі на сьнезе", якая цалкам прысьвечана клясавай барацьбе на вёсцы.

Зьмест „паэмы" такі:

„Хтосьці рукою дастае з кішэні" і „раздае па хатах аганькі". А ў хаце за сталом „у кажушку аўчынным, у заячай аблавухай шапцы" сядзіць селькор Сымон і піша ў газэту допіс. Назаўтра адбываецца партыйны сход, дзе Сымон кажа: „Слухай, слухай, хлопцы, выйдзем дружна ў далейшы плаў (?) мы". У гэты час „Дзесьці там (дзе гэта: там?), ды зьвякаюць зубамі, дзесьці там наточваюць нажы" (хто на каго?). Ідучы з партыйнага сходу да дому, Сымон адчуў „сілу незнаёмых рук". Чыіх рук—невядома. Ліхадзіеўскі кажа, што гэта рукі кулака.

Назаўтра рана „дзеўчына-выбраначка" знаходзіць у калодзежы „скрываўленае цела" Сымона.

Стаўшы ў позу Напалеона, Ліхадзіеўскі тут-жа выкрыквае: „Хто паўстаў на раздарожжы (хто, чаго і-на якім раздарожжы?—Е., Х.) злым і зьверскім сьмельчаком". У адказ на забойства Сымона—

„Рукі працоўныя пішуць загад:
— Вораг павінен быць зломан".

За што забіты Сымон—невядома. Гэтае забойства нічым не абгрунтавана, нічым не адрозьніваецца ад звычайнага хуліганскага забойства.

Ліхадзіеўскі не разьвярнуў перад чытачом малюнку клясавай барацьбы, не паказаў яе сацыяльных карэньняў. У паэме вы ня знойдзіце ні ідэі, ні мэты, за што-б змагаўся Сымон. Як дзейнай, жывой фігуры, сапраўднага вясковага актывіста—змагара за калгасы—Сымона ў паэме няма. Уся грамадзкая дзейнасьць Сымона зводзіцца да пісаньня ім у газэту допісу, у выступленьні на партсходзе. Зноў-жа як у допісе, так і ў выступленьні на сходзе Сымон казырае гучнымі, агульнымі ён і аб чым не гаворачымі фразамі, заклікае „хлопцаў“ у нейкі невядомы, далёкі „плаў“.

Таксама не паказана, як сьлед, у паэме і дзейная асоба з варожага нам лягеру—кулак Тарас.

С. Ліхадзіеўскі—не пачынаючы паэта. „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“—трэцяя яго кніжка вершаў. Гэта дае нам права патрабаваць ад яго, як ад пралетарска-калгаснага паэты, шырокага і ўсебаковага паказу перабудовы вёскі на сацыялістычны лад ва ўмовах жорсткай і абвостранай клясавай барацьбы, паказу сапраўдных герояў будаўніцтва сацыялізму на вёсцы, а ня схэмы і штампу, прыкрытых звонкай фразай, вычурным вобразам.

Я. Ермаловіч.
Р. Хацкевіч.

г. Чэрвень.

---

# ПАРОДЫІ

Сабасьцян Старобінскі

## З паэмы „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“

*(Пародыя на С. Ліхадзіеўскага)*

На белую столь
Утрапённа глядзелі
Хлопцы ляжалі
І радасна дулі.
Песьні юнацкія
Весела пелі
І залівалі
Хто пушкі,
Хто кулі.

Аж раптам пачуўся
Стукат і грукат,
І лямант, і сьлёзы,
І поўна, мочы.
А потым прыбеглі
Схапілі за рукі,
Схапілі за ногі,
Зьвязалі за вочы.

Адрэзалі вушы,
Адрэзалі шчокі,
Разьдзелі дагола,
Паклалі на лёд.
І дзесьці на ворыве
Трактар зашчокаў,
І жніўныя песьні
Зьвінелі ў палёх.

Адрэзалі вушы,
І вынялі вочы,
А потым саджалі
Навостраны нож.
Здавілі за горла,
І горла ляскоча
І нехта халодненькі
Бегаў сьпіной.

Скрываўіўшы губы
Пранізвалі цела,
А потым плявалі

На бораду мне.
Скакалі і грызьлі,
У смак, як хацелі,
Сьпявалі, ігралі
На ўсе, на лады.

Дык вось якіх жахаў
Нацерпіўся сам я.
Але я жывы,
Тыя дні адышлі.
Адростаюць вочы,
Адростаюць грудзі,
І вушы, браткі мае,
Ужо адрасьлі.

Ляжу сабе, дую
Нікому ня дзела,
Няма ў мяне мочы,
Бяз мочы жыву.
Субота, аўторак,
Ізноў панядзелак,
Ляжу сабе дую
І кулі лію.

---

# ХРОНІКА

## Першая літаратурная канфэрэнцыя пагранахраны і войск АДПУ БССР

15—17 красавіка гэтага году ў Менску працавала першая акруговая літаратурная канфэрэнцыя пагранахраны і войск АДПУ БССР. На канфэрэнцыі прымалі ўдзел 54 дэлегаты-прадстаўнікі літгурткоў пагранахраны і войск АДПУ і пісьменьнікі.

Ад імя БелАПП канфэрэнцыю вітаўт. Лынькоў.

Канфэрэнцыя заслухала наступныя даклады.

1. Пагроза вайны і задачы мастацкай літаратуры—т. Л. Бэндэ.
2. Падрыхтоўка вайны ў заходня-эўрапейскай літаратуры—т. Е. Гальперына.
3. Паказ герояў-ударнікаў па матэрыялах чырвонаармейскай творчасьці—т. А. Самахвалаў.
4. Заклік ударнікаў у літаратуру, формы і мэтоды літаратурнай работы ў пагранчастках—т. Я. Шапавалаў.

У спрэчках па дакладах выказалася каля 50 таварышоў (сярод іх т. т. Навумаў, Александровіч, Галавач, Броўка і інш.).

На канфэрэнцыі афармлена пагранічная сэкцыя БелЛАЧАФ. Адказным сакратаром сэкцыі абран т. Шапавалаў.

На ўсебеларускую канфэрэнцыю ЛАЧАФ абрана 17 дэлегатаў.

Канфэрэнцыя выказалася за выданьне літаратурна-мастацкага пагранічнага часопісу.

### Пісьменьнікі да XV гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі

Міхась Лыньков канчае другую кніжку новай аповесьці, якая прысьвячаецца тым вялізарным зрухам і зьменам, якія адбыліся ў нас у сувязі з Кастрычнікавай рэвалюцыяй і якія адбываюцца зараз. Асноўная ідэя аповесьці—інтэрнацыянальнае адзінства працоўных.

Пятрусь Броўка піша лібрэта для музычнай рэчы, а таксама працуе над матэрыялам для паэмы пра ўдзел камсамолу ў партызаншчыне і грамадзянскай вайне.

Мікола Хведаровіч працуе над п'есай „Уласнасьць", якая да XV гад. Кастрычнікавай рэвалюцыі будзе здадзена аднаму з беларускіх тэатраў. У п'есе паэта ўскрывае рэакцыйную сутнасьць уласнасьці.

Сымон Баранавых да XV гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі піша раман на тэму грамадзянская вайна. У рамане будзе адлюстравана франтавое жыцьцё Чырвонай арміі. Будзе паказана партызанскае змаганьне з белапалякамі. На фоне беларускіх палёў будзе паказана гераічнае змаганьне сялянскай беднаты ў часе адступленьня белапалякаў. Усе падзеі будуць увязаны з нашым сучасным сацбудаўніцтвам. Раман накіраван на падагуленьне пройдзеных 15 год: ад дзён руйнаваньня, разбурэньня і да нашых гістарычных перамог у будаўніцтве сацыялізму.

Барыс Мікуліч да XV гад. Кастрычнікавай рэвалюцыі піша для Дзяржаўнага ТРАМ'у п'есу „Рот фронт", якая прысьвечваецца інтэрнацыянальнай еднасьці, адзінаму фронту камсамолу ўсіх краін у барацьбе за сусьветны кастрычнік.

К. Крапіва працуе над раманам, першую кнігу якога ўжо канчае. У першай кнізе будзе паказана, як ачуньвала вёска пасьля вайны і акупацыі, як нарасталі ў ёй супярэчнасьці, як нараджаўся і рос той актыў, што будуе сёньне сацыялістычную вёску. Асноўнай тэмай другой кнігі раману будзе арганізацыя і гаспадарчае замацаваньне калгасаў.

Сьцяпан Ліхадзіеўскі працуе над вершамі, у якіх будзе адлюстроўвацца кіруючая роля партыі бальшавікоў у барацьбе працоўных за сацыялізм, а таксама над вершамі з жыцьця і работы камсамолу, пра перарастаньне селяніна-дробнага буржуа ў сьвядомага члена сацыялістычнай грамады. Працуе над паэмай, якая будзе адлюстроўваць інтэрнацыянальную еднасьць пралетарыяту і як часткі яго—рабочай моладзі.

Зьмітрок Бядуля да XV гад. Кастрычнікавай рэвалюцыі піша дзьве аповесьці. У аднэй будзе паказан адзін з нашых „глухіх куткоў" каля савецка-польскай мяжы. Прымежны калгас, выкрыцьцё шкодніцкіх элемэнтаў унутры калгасу, гаспадарчае замацаваньне калгасу, дапамога прымежнікаў-чырвонаармейцаў ва ўсёй гэтай рабоце, удзел чырвонаармейцаў у падвышэньні культурнага ўзроўню калгасьнікаў. Другая аповесьць будзе адлюстроўваць падзеі з 1920 году,—з тых часоў, калі была ўстаноўлена нэўтральная зона паміж БССР і белай Польшчай, калі беларускія эсэры разам з польскай шляхтай спрабавалі „адваяваць" адно мястэчка. Удзел у гэтай справе розных слаёў местачковага насельніцтва, жыцьцё мястэчка ў сучасны момант.

Васіль Сташэўскі да XV гад. Кастрычнікавай рэвалюцыі піша п'есу, у якой будзе паказана клясавая пільнасьць чырвонаармейца-вартавога меж дыктатуры пралетарыяту.

Цімох Зарэчны працуе над раманам з жыцьця камсамолу на вёсцы. Раман будзе ахапляць пэрыяд ад вайсковага камунізму да

ступленьня краіны ў сацыялізм. Раман удзе ў двух кнігах. Першая будзе скончана а XV гад. Кастрычнікавай рэвалюцыі.

### Пабудова Дому Пісьменьнікаў

СНК СССР і СНК БССР пастанавілі адпусьціць патрэбную колькасьць грошай на пабудову ў г. Менску Д. Пісьменьнікаў. Будаўніцтва дому распачынаецца ў бяг учым годзе. Закладка дому мае адбыцца ў дзень вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Фэдэрацыяй аб'яднаньняў савецкіх пісьменьнікаў вылучан па будаўніцтву дому камітэт, у склад якога ўваходзяць: Барашка, Купала, Нёманскі, Чорны, Шапавалаў. Дом будзе пабудован на рагу Чырвонаармейскай і Унівэрсытэцкай вуліц — насупраць Дзяржаўнай бібліятэкі. Дзяржплян БССР уключыў будаўніцтва дому ў сьпіс першай чаргі. Будаўніцтва дому разьлічана на 1932 і 33 гады.

### Літоўская сэкцыя БелАПП

4 лютага г. г. сакратарыят БелАПП склікаў у Менску пралетарскіх пісьменьнікаў—літоўцаў і нанова арганізаваў літоўскую сэкцыю. На гэтым арганізацыйным сходзе літоўскай сэкцыі т. Лынькоў зрабіў даклад аб задачах пралетарскай літаратуры і становішчы ў БелАПП. Ён указаў, што ў сучасны момант у БелАПП уваходзяць дзьве буйныя сэкцыі пісьменьнікаў нацменшасьцяў (яўрэйская і польская). Літоўская сэкцыя будзе трэцяй.

У бюро літоўскай сэкцыі абраны тры таварышы: Вайшморас, Бучукас і Сташэліс. Апошні абран сакратаром сэкцыі.

Літоўская сэкцыя, як і сэкцыя іншых нацыянальных меншасьцяй, будзе аб'яднаць усіх літоўскіх пралетарскіх пісьменьнікаў Савецкай Беларусі.

На сёнешні дзень сэкцыя складаецца з 15 асоб, з якіх 12 чалавек—паэты і бэлітрысты і 3 крытыкі.

### Творчыя групоўкі ўнутры БелАПП

Унутры БелАПП, на аснове адзінай лініі комуністычнай партыі, пачалося творчае разьмежаваньне паміж пісьменьнікамі. Ствараюцца творчыя групоўкі, якія ставяць адзіную перад сабой мэту—даць мастацкія творы, вартыя нашай гераічнай эпохі. Паказаць у мастацкай літаратуры вялізарны размах сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва, паказаць удзельнікаў гэтага будаўніцтва: рабочых-ударнікаў, ударнікаў калгасаў і саўгасаў, удзел моладзі-камсамолу ў гэтым будаўніцтве, кіруючую ролю партыі ў сацыялістычным будаўніцтве, Чырвоную армію і інш.

Ужо створаны тры творчыя групоўкі. У першую ўваходзяць: Ліманоўскі, Мурашка, Аляхновіч, Кобец і інш. У другую: Галавач, Кучар, Таўбін, Куляшоў, Скрыган, Броўка, Баранавых. У трэцюю групоўку камсамольскіх пісьменьнікаў уваходзяць: Блісьцінаў Бацюшкоў, Зарэчны, Ліхадзіеўскі, Мікуліч, Сядура, Хадкевіч і Швэйдэль.

---

— 29-31 сакавіка г. г. у гор. Крывы рог адбыўся першы зьезд крывароскай арганізацыі ВУСПП, на якім удзельнічала каля 200 дэлегатаў (з іх 130 чал. непасрэдна з вытворчасьці, рабочыя-гарнякі, закліканыя ў літаратуру). Ад БелАПП на зьезд езьдзілі т. т. Ліхадзіеўскі і Швэйдэль.

— У Бабруйску 3 красавіка адбылася канфэрэнцыя кіно-гледачоў. Канфэрэнцыя адзначыла на вялікую работу, праробленую БДК у галіне кінафікацыі гораду.

— Сэктар мастацтва Наркамасьветы Украіны абвясьціў вынікі конкурсу на п'есы. Прэміяваны наступныя п'есы. „На скэляхкаверка № 16“ маладога пісьменьніка з Львова Івана Крушэльніцкага, „Зямля гарыць“ А. Любчанкі. Цэлы рад аўтараў атрымалі нагароды за п'есы, якія могуць быць выкарыстаны для пастаноўкі на малых сцэнах.

— 20 красавіка г.г. у Д. Пісьменьніка адбылася чытка і абмеркаваньне п'есы Іл. Барашкі „Романы Зоря“ Выказваліся па п'есе: Ільінскі, Знаёмы, Дудар, Крапіва, Міровіч і інш. Да пастаноўкі п'есу рыхтуе Першы Белдзяржтэатр.

— 15 красавіка ў г. Магілеве адбылася ў БДТ 2 першая пастаноўка п'есы Ільінскага „Вясна“. Гэты спэктакль БДТ2 прыстасаваў да веснавой пасеўнай кампаніі. Пастаноўка была падрыхтавана на працягу аднаго м-ца.

— 24 красавіка ў Магілеўскім Пэдінстытуце Андрэй Александровіч зрабіў вялікі даклад аб становішчы беларускай пралетарскай літаратуры БССР і разгортваньні творчай дыскусіі ў БелАПП. На вечары прысутнічала звыш 800 чал. У канцы вечара Андрэй Александровіч чытаў свае творы.

— 25, 26 і 27 красавіка ў Д. Пісьменьніка адбыўся працяг творчай дыскусіі ў БелАПП—крытыка-крытыкі. У дыскусіі прымалі актыўны ўдзел белапаўцы, асьпіранты БАН і студэнты ВНУ. За гэтыя тры вечары разгледжаны крытычныя работы Бэндэ і Кучара.

— У канцы красавіка м-ца ў Маскве адбылася ўсесаюзная паэтычная нарада. Ад БелАПП на нараду езьдзілі т.т. Хведаровіч, Куляшоў і Кучар.

— Распачалася падрыхтоўчая работа па скліканьню першай канфэрэнцыі Гомельскай АПП.

— Для сыстэматычнага кіраўніцтва творчым аглядам маладзёжнай літаратуры пры Гаркоме камсамолу (Менск) складзен гарадзкі штаб, у які ўваходзяць наступныя т.т.: Садоўскі (ГК КСМ), Мікуліч, Швэйдэль (МенАПП), Вярнікоўскі („Ч. З“), Шульман (Друкарня імя Сталіна), Фіглоўская (БАН) і Эстэркін (зав. імя Варашылава). Штабу даручана ў дэкадны тэрмін распрацаваць практычныя мерапрыемствы свёй работы.

— Яўрэйская сэкцыя БелАПП выдала два зборнікі творчасьці рабочых-ударнікаў, заклі-

каных у літаратуру. Адзін зборнік—„Ударныя крокі“—выданы літгуртком імя Максіма Горкага пры друкарні імя Сталіна. Другі зборнік—агульнагарадзкі пад назвай „Ударнікі“, з удзелам рабочых-ударнікаў Рэйзіна, Дзегцера, Іды Пінхасік, Швэдзіка, Гарона, Рохкінда, Каплана, Батвіньніка, Брукаша, Лангмана, Раік, Шымшалевіча, Спэктара і Рубіна.

— Яўрэйская сэкцыя БелЛАЧАФ здала ў друк першы альманах, прысьвечаны Чырвонай арміі. У альманаху прымаюць удзел т.т.: Аксельрод, Таўлай, Вайнгаўз, Харык, Даўгапольскі, Юдэльсон, Берамікін., Элі Каган, А. Каган і інш. Памер альманаху—6 друкаваных арк.

— Ц. Даўгапольскі (яўсэкцыя БелАПП) піша раман на матэрыяле Магілеўскай шоўкавай ф-кі. У друку знаходзіцца яго кніга фэльетонаў.

— А. Юдэльсон (яўсэкцыя БелАПП) працуе над паэмай з жыцьця камсамольскай брыгады доменнага цэху. Падрыхтаваў да друку зборнік нарысаў.

— Элі Каган (яўсэкцыя БелАПП) канчае п'есу з жыцьця сельска-гаспадарчай камуны. Вышла першая кніга яго апавяданьняў. Перакладае для яўрэйскага вандроўнага тэатру п'есу Мікітэнкі „Справа гонару“.

— М. Кульбак (яўсэкцыя БелАПП) працуе над паэмай з менскага жыцьця пад назвай „Чайльд Гарольд з Дысны“ і піша другую частку раману „Зельменянцы“.

— Мота Гарцман (яўсэкцыя БелАПП) напісаў цыкль вершаў пра падзеі на Далёкім Усходзе. Скора выходзіць яго кніга вершаў—„Мы—сыны“.

— М. Лйўшыц (яўсэкцыя БелАПП) піша паэму з жыцьця дзіцячага дому. Выходзіць яго другая кніга вершаў.

— З. Аксельрод (яўсэкцыя БелАПП) закончыў цыкль вершаў з жыцьця Чырвонай арміі. Перакладае на яўрэйскую мову для Белдзярж-яўрэйскага тэатру п'есу А. Александровіча „Напор“. Скора выходзіць яго кніга вершаў.

— Вышла з друку паэма І. Харыка „Бесьперапынка“

— Пры яўрэйскай сэкцыі БелАПП арганізаваны цэнтральныя літаратурныя курсы для актыву літгурткоў. Курсы будуць працаваць кожныя пяць дзён па 4 гадзіны. Курсы абслугоўваюцца крытычнымі сіламі БелАПП і работнікамі БАН.

— М. Чарот заключыў з ДВБ умову на выданьне збору сваіх твораў. Творы выйдуць у трох томах. Два томы паэзіі і адзін том прозы.

— Вышлі з друку трэці і чацьвёрты томы збору твораў Ц. Гартнага.

— Скора выходзіць шосты том збору твораў Янкі Купалы.

— Вышаў асобнай кніжкай сатырычны твор Крапівы (казка) „Хвядос чырвоны нос“.

— Скора выходзіць з друку зборнік вершаў А. Александровіча ў перакладзе на польскую мову. Вышаў з друку яго зборнік вершаў у перакладзе на расійскую мову.

— У маі м-цы Яўрэйскі Дзяржаўны тэатр прыступае да пастаноўкі п'есы А. Александровіча „Напор“ у перакладзе на яўрэйскую мову. Ставіць п'есу рэжысэр Літвінаў.

— У першай палове мая м-ца БДТ-2 паставіць п'есу прэм'еру „Пляцдарм“ —украінскага пісьменьніка т. Урчана.

— Скора выходзіць з друку другім выданьнем аповесьць Я. Ліманоўскага „Над абрывам“.

— На днях выходзіць у школьным выданьні кніга апавяданьняў В. Каваля.

— У ноч на 16 красавіка г.г. на станцыі Праўда Паўночнай чыгункі каля Масквы трагічнай сьмерцю—пад калёсамі экспрэсу—загінуў мастак М. Г. Эндэ. М. Г. Эндэ радзіўся ў 1888 г. Пасьлярэвалюцыйныя гады М. Г. Эндэ працаваў (з 1923г.) выкладчыкам Беларускага Дзяржаўнага мастацкага тэхнікуму. Акрамя шматгадовай пэдагагічнай дзейнасьці тав. Эндэ шмат у галіне мастацтва непасэрдна. Яго карціна „Чырвоныя партызаны“ атрымала на 3-яй Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў 1929 г. у Менску другую прэм'ю і была набыта ЦВК БССР. Рад карцін т. Эндэ набыты Бел. Дзярж. музэем і Музэем Рэвалюцыі. У 1930 г. т. Эндэ прымаў удзел ў афармленьні ўсебеларускай выстаўкі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

РЭДКАЛЕГІЯ: С. БАРАНАВЫХ, Іл. БАРАШКА, Н. МІХАЙЛАЎ

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР: Н. МІХАЙЛАЎ.

Друкарня Беларускае Акадэміі Навук — Менск, Няміга, 7.

Заказ № 3923. Галоўлітбел № 649. Тыраж 1500 экз. 5 1/2 арк.

# Зьмест



---